ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# Саветы Беларусі



ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

№ 7–8

(21–22)

ТРЭЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ

ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ 1930 г.

Менск. Друкарня БДВ. Заказ № 2362. 3.000 экз. Галоўлітбел № 1428.

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР па савецкім будаўніцтве

№ 7—8 (21—22) Ліпень—жнівень 1930 г. № 7—8 (21—22)

## Савецкая Беларусь да 10-годзьдзя яе вызваленьня ад белапалякаў

„Адзінаццатае ліпеня" ў жыцьці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі зьяўляецца выдатнай і радаснай датай. У гэты дзень ў 1920 годзе сталіца Беларусі МЕНСК была вызвалена Чырвонай Арміяй ад белапольскай акупацыі. З вызваленьнем ад белапольскай акупацыі Менску, а разам з тым і ўсёй Савецкай Беларусі, для нас адкрылася новая сьветлая старонка мірнага і сацыялістычнага будаўніцтва, работы па каранной сацыялістычнай перабудове краіны. І ў гэтых адносінах пад цьвёрдым Ленінскім кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі за дзесяць год дасягнуты вялізарнейшыя посьпехі. Але для таго, каб гэтыя посьпехі ацаніць па сутнасьці, для таго, каб зразумець, як літэральна з попелу і руін, пакінутых белапольскімі акупантамі, паднялася Савецкая Беларусь, неабходна хаця-бы бегла ў кароткіх рысах азнаёміцца з параўнаўча недалёкай па часу і вельмі багатай па зьместу гісторыяй Савецкай Беларусі.

У поўнай адпаведнасьці з рашэньнем Першага Зьезду Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) Беларусі, 1 студзеня 1919 г. Часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад Беларусі абвясьціў Беларусь незалежнай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай. Скончылася нямецкая акупацыя, якая пачалася з пачатку 1918 года і гэтым ўтварылася магчымасьць мірнага будаўніцтва. Аднак, у хуткім часе ўсьлед за нямецкай акупацыяй, з Захаду адкрыла ваенныя дзейнічаньні супроць краіны Саветаў „свабодная, дэмакратычная" Польшча. Белая Польшча вызначыла для сябе межы 1772 г., але гэта была не адзіная прычына яе вайсковага паходу. Польшча была зброяй у руках усёй капіталістычнай, усіх краін сьвету буржуазіі, якая страціла магчымасьць у адной шостай частцы зямной кулі—у краіне пралетарскай дыктатуры эксплёатаваць працоўных, іх потам і крывёю ўтвараць сабе дварцы, нажываць капіталы і весьці паразытычнае жыцьцё. Асабліва адзначыла сябе ў авантуры польскага паходу на Краіну Саветаў капіталістычная Францыя. 25 студзеня 1919 года маршал Фош патрабаваў ад пераможнай Нямеччыны вольнага пропуску праз мясцовасьці, якія былі яшчэ заняты нямецкай арміяй, польскіх войск для барацьбы з савецкімі рэспублікамі. Так буржуазная Польшча ўзяла на сябе ролю міжнароднага жандара, якая раней належыла царскай Расеі.

Заняўшы 8 жніўня 1919 году Менск, а ўсьлед за гэтым значную тэрыторыю Беларусі, Пілсудзкі ў сваёй адозьве хлусьліва абвяшчае, што „такая бесьперапынная няволя, добра знаёмая і мне самому, як нарадзіўшамуся на гэтай няшчаснай зямельцы, павінна быць нарэшце спынена. Польскае войска, якое прышло на Беларусь, нясе ўсім Вам свабоду".

Аб тым, што такое сапраўдная свабода, усе працоўныя масы Беларус ўжо пасьпелі ўзнаць пасьля спыненьня нямецкай акупацыі, калі яны атрымалі магчымасьць выкарыстоўваць плады заваёваў Вялікай Кастрычнікай Рэвалюцыі. Савецкая ўлада нацыяналізавала фабрыкі і заводы, адняўшы іх ад фабрыкантаў і капіталістаў, скасаваўшы ўласнасьць на зямлю, нацыяналізавала яе, і зямлю абшарнікаў перадала ў рукі працоўнага сялянства. Сав ецкая Улада ў асоб

1-га Ўсебеларускага Зьезду Саветаў, прыняўшы 3-га лютага 1919 года Канстытуцыю БССР, вызначыла, што асноўныя задачы БССР заключаюцца „ва ўстанаўленьні дыктатуры гарадзкога і сельскага пралетарыята і беднейшага сялянства ў відзе магутнай савецкай улады, у мэтах поўнага падаўленьня буржуазіі, зьнішчэньня эксплёатацыі чалавека чалавекам і пабудовы сацыялізму, пры якім ня будзе ні падзелу на клясы, ні дзяржаўнае ўлады".

У канцы жніўня 1919 г. белапалякі ў сваім абвяшчэньні № 16 расшыфроўваюць свабоду „па белапольскі": „Усялякая прыватная ўласнасьць ці то захопленая насільсьцьвенным шляхам ці папаўшая выпадкова, павінна быць безадкладна зварочана ўласьнікам. Уласьнікі зямельнай маемасьці ці іх правамоцныя намесьнікі абавязваюцца да дзесятага верасьня прыняць у сваё ўладаньне зямельную маемасьць".

Савецкая ўлада зямлю, фабрыкі, заводы, маёнткі адняла ад абшарнікаў і капіталістаў і перадала іх пралетарыяту, працоўным масам. Акупанты прысьпешылі стаць на абарону фабрыкантаў і абшарнікаў і гэтым выявілі свой сапраўдны твар. Пачаліся бязьлітасныя расправы з рабочымі і сялянамі. Буржуазія, якая зьвярнулася з акупантамі, пры дапамозе польскіх жандараў і салдат аднаўляла правы абшарнікаў і капіталістаў, дапамагаючы ім знаходзіць іх былое „дабро". Турмы пачалі запаўняцца рабочымі, гарадзкой і сельскай беднатою. Вобыскі, арышты, расстрэлы, асабліва сямей, члены якіх былі ў Чырвонай арміі, рабункі, падпалы, гвалты, пагалоўныя ізьбіеньні паасобных вёсак (усё гэта складала „свабоду" пілсудчыкаў у дзеяньні). Над прыгнечаным краем панаваў лёзунг „двадзесьце пеньць".

Маладыя беларускія і яўрэйскія школы зачыняліся, рускія—палёнізаваліся. Вось тыя свабоды, якія прынесла працоўнай Беларусі пазбавіцельніца—белая Польшча ў сацыяльным, культурным і нацыянальным жыцьці.

У гарадох пралетарыят перажываў жорсткае беспрацоў'е, якое ахапіла ў некаторых мясцох (Менск, напр.) звыш 70 проц. усіх рабочых. У вёсках сельская бедната, батракі маёнткаў ізнывалі пад непасільным гнётам розных пабораў, павіннасьцяй, зьдзекаў, гвалтаў і бясправ'я. Усялякае праяўленьне незадавальненьня выклікала цяжкія рэпрэсіі ў адносіне да працоўнага насельніцтва. Нездаволеных белапольскім рэжымам вышуквалі, падазроных у належнасьці да камуністычнай партыі расстрэльвалі. Асабліва цяжка пры белапольскай акупацыі жылося яўрэям. Зноў пачаліся пагромы, якія былі пахаваны разам з царскім ладам.

Вось у кароткіх рысах тая свабода, тое „мірнае спакойнае жыцьцё", якое абяцалі белапалякі працоўным. Аднак, цярпеньню працоўных мас Беларусі ад непасільнага прыгнечаньня белапалякаў прыходзіць канец.

Пралетарыят, батракі і вясковая бедната пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі, якая ўйшла з прыбыцьцем белапалякаў у падпольле, пачынаюць згуртоўваць свае сілы. Праводзіцца пасьпяховая падпольная партыйная работа перш за ўсё сярод рабочых, якія ўжо ня вераць розным нацыянал-дэмакратычным па сутнасьці буржуазным, згодніцкім, здрадніцкім партыям. Падпольныя арганізацыі Камуністычнай Партыі Літвы і Беларусі з кожным днём усё ўзрастаюць, уцягваючы ў сябе лепшую найбольш сьвядомую частку рабочых, батракоў, вясковай беднаты і перадавых актывістаў—серадьнякоў сялян. Разам з Камуністычнай Партыяй і пад яе кіраўніцтвам разгортвае сваю работу і Камсамол. Камуністычная Партыя ад агітацыі і прапаганды шпарка пераходзіць да падрыхтоўкі паўстаньня супроць белапольскага гнёту. Сярод працоўных мас Партыя арганізуе партызанскі рух і кіруе ім. Рэвалюцыйныя рабочыя, рэвалюцыйныя перадавыя сяляне ўпаўне пераканаліся за параўнаўча кароткі тэрмін, што з іх цяжкага, неперанасімага становішча маецца толькі адзін выхад—шлях паўстаньня, шлях узброенай барацьбы супроць белых польскіх банд. Лясы Беларусі напаўняюцца актыўнымі дзейнічаючымі партызанамі. Белапалякі пасылаюць супроць партызан вялікія атрады, але няўпынна супроць гэтых белапольскіх атрадаў у іх тылу ўзрастаюць новыя партызанскіе сілы. Многа падае забітымі і расстрэленымі лепшых сыноў Беларусі ў няроўнай покуль яшчэ барацьбе з акупантамі,

але гэта, часам непасільная, барацьба прыносіць вялізарнейшы ўрон белапалякам. Партызанамі зьнішчаюцца цэлыя атрады праціўніка, адбіваюцца абозы, захопліваюцца вінтоўкі, кулямёты і нават арудзія. Расстрэл менскіх і бабруйскіх рабочых узмацняе партызанскі рух у Случчыне, Бабруйшчыне, Мазыршчыне, Меншчыне і Барысаўшчыне. Расстрэл дукорскіх партызан узьнімае на паўстаньне новыя сілы сваіх прыгнетацеляў і злейшых эксплёататараў—абшарнікаў, прыбыўшых усьлед за белапалякамі; партызаны, ня гледзячы на пільную легіянэрскую ахову, пачынаюць зьнішчаць агнём і мячом, усюды гараць маёнткі абшарнікаў. Камуністычная партыя непасрэдна кіруе барацьбой, пераможнай схваткай беларускага пралетарыята супроць „белого орла“.

У ліпені 1920 г. пачалося пераможнае наступленьне Чырвонай арміі, зьліквідаваўшай ужо да гэтага часу многія „генэральскія“ франты і атрымаўшай, дзякуючы гэтаму, магчымасьць зьвярнуць сілу сваіх сакрушыцельных удараў супроць белапалякаў. Ужо ў канцы мая 1920 г. палякі пад націскам Чырвонай арміі прымушаны былі аставіць гор. Барысаў, папярэдне аграбіўшы яго і вывозячы найбольш каштоўную маемасьць, і адайсьці на правы бераг Бярэзіны. У канцы мая яны пачалі бамбандыраваць неабаронены Барысаў, гэты пралетарскі горад, абярнуўшы яго ў чэрвені месяцы ў руіны, пажарышча.

Нарэшце, пад непераможным націскам Чырвонай арміі прымушаны былі пакінуць Беларусь, акупанты пачалі шпаркую падрыхтоўку свайго адступленьня. Падрыхтоўка складалася, перш за ўсё, з вывазкі з Беларусі ўсёй найбольш каштоўнай маемасьці ў Польшчу. Вывозілася абсталяваньне фабрык, заводаў, аптэкі, лябараторыі, і нават абсталяваньне прыватных кватэр; уганяліся тысячамі коні, каровы. Цэлыя эшалёны цягнікоў і абозы ўвозілі застаўшуюся яшчэ ў Беларусі пасьля імпэрыялістычнай вайны, пасьля нямецкай акупацыі дзяржаўную і прыватную маемасьць. Усё, што не паддавалася вывазцы, зьнішчалася выбухамі і агнём. Адступленьне сваё з Беларусі пілсудчыкі прыкрывалі дымам пажараў; гарэлі Менск, Бабруйск, Барысаў, Слуцак, Полацак, гарэлі чыгуначныя станцыі, мястэчкі, вёскі, гарэлі лясы. Асабліва зьверскі быў зруйнаваны Барысаў і асабліва ганебным быў падпал гор. Слуцка пры загадзе генэрала Шэптыцкага: „асьвятліць дарогу адступаючым яго абозам“. Так адыходзіла „культурная“ Польшча з змучанай, істрадаўшайся, абарванай і спаленай Беларусі.

Чырвоная Армія, магутным ударам скінуўшы ворага, згубіўшага свой надворны, бутафорскі лоск і ўдарыўшагася ў панічнае бегства, вызваліла 8—10 ліпеня 1920 г. Барысаў і Бабруйск, а 11 ліпеня—Менск. Гэта вызваленьне ператварылася ў вялікае сьвята рабочых і працоўных мас, паўсюды сустракаючых сваю ізбавіцельніцу—Чырвоную армію чырвонымі сьцягамі. Рабочыя і працоўнае сялянства, складаючыя Чырвоную армію і партызанскія атрады, пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі, перамаглі.

У кастрычніку 1920 г. з Польшчай быў падпісаны прэлімінарны мір, а 18 сакавіка 1921 г.—Рыжскі мірны дагавор, па якому значная частка Заходняй Беларусі ўсё-ж такі засталася за Польшчай.

Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка зноў прыступіла да мірнага сацыялістычнага будаўніцтва. Спадчына, застаўленая акупантамі, была крайне цяжкай. Зруйнаваныя фабрыкі і заводы, спаленыя гарады, зруйнаваныя чыгуначныя шляхі, угнаныя дзесяткі тысяч жывёлы, усюды руіны, попелішча. Усё гэта трэба было зноў узрадзіць, заставіць задыміць фабрычныя трубы, упартай працай перабудаваць адсталую Беларусь у моцны і здаровы савецкі дзяржаўны арганізм, які здолен да пабудовы сацыялізма. 1-га жніўня 1920 г. была прынята імем паўстаўшых рабочых і сялян дэклярацыя аб абвяшчэньні незалежнасьці Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі. У дэклярацыі быў вызначаны і асноўны шлях разьвіцьця Рэспублікі: „Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі, знаходзіўшаяся на працягу доўгага часу ў цеснай сувязі з Расеяй, павінна безадкладна прыступіць да ўстанаўленьня адзінага гаспадарчага пляну з РСФСР і іншымі ўжо ўзьнікшымі і якія могуць узьнікнуць савецкімі рэспублікамі. ССРБ будзе будаваць сваё

жыцьцё на падставах уцягненьня ў савецкае будаўніцтва самых шырокіх працоўных мас, да якой-бы яны нацыянальнасьці не належалі. Устанаўліваецца поўнае раўнапраўе моў (беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай) у зносінах з дзяржаўнымі ўстановамі і ў арганізацыях і ўстановах народнай асьветы і сацыялістычнай культуры".

„Пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ідучы па вызначанаму шляху, Савецкая Беларусь за гэтыя дзесяць год дасягнула вялікіх посьпехаў ва ўсіх галінах палітычнага, культурнага і гаспадарчага будаўніцтва. Гэтым дасягненьням спрыяла правільнае вырашэньне Камуністычнай Партыяй і Савецкай уладай нацыянальнага пытаньня. У моц гістарычных умоў на параўнальна невялікай тэрыторыі Беларусі пражываюць многія нацыянальнасьці, акрамя беларускай: яўрэі, рускія, палякі, латышы, літоўцы, немцы і інш. Палітыка царскага ўраду ў адносінах паасобных нацыянальнасьцяй заключалася ў нацкоўваньні аднэй на другую і ў прыгнечаньні ўсіх, так званых, акраінных нацыянальнасьцяй. Камуністычная партыя і Савецкая ўлада ажыцьцявілі поўнае нацыянальнае вызваленьне ўсіх нацыянальнасьцяй, забясьпечылі кожнай з іх карыстаньне роднай мовай ва ўсіх установах, школах, судзе. Створаны ня толькі ўстановы, спэцыяльна абслугоўваючыя на роднай мове насельніцтва тэй ці іншай нацыянальнасьці, але для больш поўнага і шырокага ўцягненьня працоўных нацыянальных меншасьцяй БССР у работу эканамічнага і сацыялістычнага будаўніцтва ў мясцовасьцях, дзе працоўныя тэй ці іншай нацыянальнасьці складаюць большасьць насельніцтва" (арт. 20, Канстытуцыя БССР), утвораны спэцыяльныя нацыянальныя саветы. Арганізацыя нацыянальных саветаў мела значны ўплыў на культурны і гаспадарчы рост нацыянальных меншасьцяй. Амаль цалкам зжыты нацыянальныя трэньні паміж групамі насельніцтва паасобных нацыянальнасьцяй, шырока разьвіваецца і ўзмацняецца клясавая сьвядомасьць бядняцкай і серадняцкай часткі насельніцтва вёскі, значна пашырана сетка школ, клюбаў, хат-чытальнь, расьце і мацнее давер'е да партыі і савецкай улады і ўсіх правадзімых ёю мерапрыемствах сацыялістычнага будаўніцтва, ахоплена каперацыяй да 100 проц. працоўных нацмен. Вось вынікі арганізацыі і гаспадарча-культурнай работы нацыянальных саветаў.

Усяго дагэтуль у Беларусі арганізавана 73 нацыянальных мястэчковых і сельскіх саветаў: яўрэйскіх—25, польскіх—22, рускіх—15, латыскіх—5, украінскіх—3, нямецкіх—2, літоўскіх—1. Правільнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня выхоўвала і ўзмацніла інтэрнацыянальную салідарнасьць працоўных усіх нацыянальнасьцяй. За апошнія 5 год выдана на яўрэйскай мове 460 тыс. экз. кніг; з гэтага ліку 175 тысяч падае на 1928—29 г. На польскай мове выдана за 5 год 185 тысяч, з іх у 1928—29 г.—52 тысячы. На літоўскай і латыскай мовах—9 тысяч, на расейскай мове—198 тысяч. Гэтыя лічбы нацыянальных выданьняў, раней забароненых царскім урадам, гавораць аб вялікай напружанай рабоце сярод нацыянальных меншасьцяй, сьведчыць аб правільным практычным ажыцьцяўленьні нацыянальнага пытаньня.

Беларусь была аднэй з самых адсталых частак былой Расейскай імпэрыі. Беднасьць і няпісьменнасьць насельніцтва, адсталасьць і заняпаласьць гаспадаркі—вось характэрныя асаблівасьці дарэвалюцыйнага часу Беларусі. Фабрычна-заводзкая прамысловасьць у Беларусі складала толькі прыблізна 5 проц. усяго нацыянальнага даходу, у той час калі ў астатняй Эўропэйскай Расеі гэта прамысловасьць складала звыш 14 проц. нацыянальнага прыбытку.

Узяўшыся за аднаўленьне прамысловасьці параўнальна пазьней іншых рэспублік Савецкага Саюзу, Беларусь пры дапамозе братэрскіх Рэспублік і ўсяго Савецкага Саюзу аднавіла яе да 1926—27 г., і стаўшы на шлях індустрыялізацыі краіны шпаркімі і высокімі тэмпамі зьмяняе зусім характар і суадносіны народнай гаспадаркі рэспублікі. Прамысловасьць у народнай гаспадарцы БССР набывае вядучую ролю. Вялізарны рост прамысловасьці БССР, прадугледжаны пяцігадовым плянам, падводзіць прочны сацыялістычны грунт пад далейшае разьвіцьцё ўсяе народнае гаспадаркі БССР. Напрыклад, капітальнае

будаўніцтва па рэспубліканскай прамысловасьці ўзрасло з 16,2 млн. рублёў у 1927—28 г., 24,8 млн. руб. у 1928—29 г. да 52,6 млн. руб. у 1929—30 г. Валавая прадукцыя рэспубліканскай прамысловасьці ў 1927—28 г. складала 118 млн. руб., у 1928—29 г. 171 млн. руб. і ў 1929—30 г.— 311 млн. руб. Разам з ростам прамысловасьці павялічваецца і лік рабочых; у 1927—28 г. іх было 27,9 тысяч чалавек (у даваенны час 20.000), у 1928—29 г.— 32,9 тысяч чалавек і ў 1929—30 г.—43 тысячы чалавек, г. зн. рост па адпаведным гадам на 6,9 проц., 17,9 проц. і на 30,7 проц., павялічваецца заработная плата рабочых. Вытворчасьць працы за апошнія тры гады адпаведна ўзьнімалася: на 19,5 проц., на 25,6 проц. і за першае паўгодзьдзе 1929—30 г. на 29,9 проц.

Прамысловасьць Беларусі хутка пераходзіць на новую тэхнічную базу, аб чым многа гавораць лічбы вырабу і патрэбнасьці электрычнай энэргіі. Для параўнаньня неабходна прывесьці наступную даведку. У 1913 г. на аднаго жыхара Беларусі выдаткоўвалася электраэнэргіі 0,9 кілёўат-гадзін, а ў 1926—27 г., г. зн. да моманту аднаўленьня даваеннага ўзроўню прамысловасьці, гэтая лічба ўжо ўзрасла да 5,5 кілёўат-гадзін. У 1927—28 г. вытворчасьць электра-энэргіі ўзрасла да 32,8 млн. кілёўат-гадзін, у 1929—30 г. да 67,3 млн. кілёўат-гадзін. У жніўні гэтага года павінна быць скончана пабудовай першая раённая электрычная станцыя імя тав. Сталіна, што будуецца на Асінаўскіх залежах торфа, якога павінна хапіць, прыблізна, на 100—150 гадоў. Гэта станцыя зараз павялічыць магутнасьць электрастанцый БССР на 24 тысячы клв. У гэтым-жа 1930 г. пачынаецца пабудова другой раённай (Гомельскай) электрастанцыі ў два разы больш магутнай, чым Асінаўская,—у 48 тыс. клв.; пачынаецца праца па падрыхтоўцы пабудовы 3-й электрастанцыі ў Прапойску. Вось якія посьпехі ў Беларусі ў галіне прамысловасьці да дзесяцігодзьдзя яе вызваленьня ад белапалякаў.

Сельская сялянская гаспадарка ў Беларусі ў даваенны час вялася ў падаўляючай большасьці выпадкаў самымі адсталымі спосабамі. Прылады апрацоўкі зямлі—саха, сыстэма апрацоўкі—трохпольле. Але і гэта дробная сялянская адсталая сельская гаспадарка да часу Кастрычнікавай рэвалюцыі была падарвана вайной. Значна скарацілася пасеўная плошча, зьменшылася колькасьць жывёлы.

Як была разьмеркавана зямля ў Беларусі? На падставе статыстычных даных перапісу 1897 г. сярод паасобных груп землякарыстацеляў зямля разьмяркоўвалася так:

| | | |
|---|---|---|
| сялянская зямля (надзельная і купленая) . . . . . | 31,5% | плошчы |
| уласьніцкая ў разьмеры да 50 дес. на гаспадарку . . . . | 1,9% | „ |
| уласьн. ў разьм. звыш 50 дзес. на гаспадарку . . . . | 56,3% | „ |
| казённыя і царкоўныя землі . . | 10,3% | „ |

Кастрычнікавая пралетарская рэвалюцыя перадала ў рукі працоўнага сялянства каля 1.300.000 дзесяцін зямлі. Шпаркімі тэмпамі сельская гаспадарка Беларусі пачала ісьці ўперад.

Але ня гледзячы на рост пасеўнай плошчы, на ўзьняцьце жывёлаводзтва, таварнасьць сельскай гаспадаркі заставалася нізкай. Прычына гэтаму налічча дробных сялянскіх гаспадарак, якія прадаўжалі драбіцца на яшчэ больш дробныя. Гэтаму спрыяла таксама і так званая „прышчэпаўшчына“—хутарызацыя сельскай гаспадаркі, з якой КП(б)Б, як з правым ухілам, правяла рашучую пасьпяховую барацьбу.

Выходзячы з агульных задач сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, узьняцьця таварнасьці, ліквідацыі аграрнай перанаселенасьці і вострага малазямельля ў БССР яшчэ XII Зьезд КП(б)Б паказаў, што „толькі калектывізацыя і сацыялістычная рэканструкцыя яўляецца рашучым і асноўным шляхам магутнага пад'ёму сельскай гаспадаркі. Пагэтаму неабходна са ўсёй сілай і энэргіяй праводзіць работу па ўмацненьню і ўзбуйненьню існуючых калгасаў і саўгасаў і ў далейшым значна пасіліць тэмп па калектывізацыі сельскай гаспадаркі і будаўніцтву саўгасаў, зварочваючы асаблівую ўвагу на ўтварэньне буйных калгасаў“. Шпаркі тэмп прамысловага разьвіцьця Савецкай Беларусі, умацненьне вытворчай змычкі пралетарыята з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства, да-

сягнутыя посьпехі ў гаспадарчым разьвіцьці савгасаў і калгасаў запэўнілі масы сялян беднякоў і серадкякоў у значнай перавазе буйнай калектыўнай гаспадаркі над гаспадаркай дробнай, індывідуальнай. Вынікі гэтай сьвядомасьці, вынікі правільнага партыйнага кіраўніцтва і бальшавіцкай Ленінскай лініі ў гэтай справе магчыма ілюстраваць наступнымі данымі. У 1927—28 годзе аграмаджаны сэктар сельскай гаспадаркі (савгасы і калгасы) складаў усяго 2 проц., а да моманту сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў ён складаў ужо 17,1 проц. Удзельная вага плошчы ў калгасах узрасла з 1,1 проц. у 1927—28 г. да 15,5 проц. да сучаснага моманту. Па маючыхся зараз папярэдніх даных аграмаджаны сэктар сельскай гаспадаркі БССР у 1930 г. ужо дасьць да 25 проц. усіх хлебазагатовак па БССР. Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі ў 1927—1928 г. ўзрасла на 4,2 проц., у 1928—1929 г.—на 4,9 проц., у 1929—30 г.—на 7,6 проц. Сярэдняя валавая прадукцыя ад землякарыстаньня на 1 едака ў сельскай гаспадарцы павялічваецца ў наступным напрамку:

Прыватны сэктар—1926—27 г.—144 р., 1927—28 годзе—150 руб., 1928—29 г.—156 руб.; калгасы—у 1927—28 годзе—224 руб., у 1928—29 годзе—260 руб. Аграмаджаны сэктар узрастае шпаркімі тэмпамі. Гэтыя посьпехі ўцягваюць за сабою яшчэ не калектывізаваную беднату і серадкякоў у калгасны рух. Ліквідуючы кулацтва, як клясу, на базе суцэльнай калектывізацыі, добраахвотна арганізуючы калгасы, мы ўтвараем неабходныя прадпасылкі для росквіту сельскай гаспадаркі на аснове сацыялістычнай рэканструкцыі.

Правадзімая за лік каапэраваньня насельніцтва, а таксама за лік асыгнаваньняў па рэспубліканскаму і агульнасаюзнаму бюджэту мэліарацыя ўцягвае новыя плошчы зямель і лугоў у гаспадарчае карыстаньне краіны. Вядуцца вялізарныя работы па асушцы балот на р. Арэсе, а таксама работы на Прыпяці, Беразіне, Сожы, Заходняй Дзьвіне, Нёману, Дняпры. Мэліарацыйны гэктар балот дае вялізарныя ўраджаі—да 3-х тон жыта, аўса, у 1929—30 г. на мэліарацыю асыгнавана 7 млн. рублёў і на 1930—31 г. праэктуецца 25—30 млн. рублёў.

Да мірнага сацыялістычнага будаўніцтва Савецкая Беларусь прыступіла маючы ня толькі запушчаную народную гаспадарку, але і вялікую культурную адсталасьць.

Савецкая краіна атрымала ў спадчыну ад царскай Расеі больш 60 проц. няпісьменнага насельніцтва. Сельскія мясцовасьці былі пакрыты вельмі рэдкай сецьцю дрэнна абсталяваных школ. Сярэднія школы былі рэдкія і сканцэнтраваны толькі ў найбольш буйных гарадох. Ня было ў Беларусі ніводнай вышэйшай навучальнай установы, ня было выдавецтва, тэатраў. Ня было ніводнай нацыянальнай школы. Вось каротка аб тым, што з сябе прадстаўляла ў культурных адносінах Беларусь да Кастрычніка, да разьвіцьця шырокага сацыялістычнага будаўніцтва.

Да гэтага трэба яшчэ дадаць і тыя разбураныя школьныя будынкі, разьбітае школьнае абсталяваньне, разьбітыя ці зьнішчаныя ўчэбныя прылады, адсутнасьць настаўнікаў і іншых культурнаасьветных работнікаў, якія былі зьняты войнамі з сваіх месц і раскіданы па ўсяму Саюзу. З такой спадчынай Савецкая Беларусь прыступіла да зьдзейсьненьня культурнай рэвалюцыі, да стварэньня пралетарскай нацыянальнай культуры. Вось чаму неабходна падкрэсьліць, што дасягнутымі посьпехамі БССР вельмі абавязана Савецкаму Саюзу, які аказаў ёй і ў гэтай галіне вялізарную дапамогу.

„Сур'ёзьнейшую дапамогу з боку СССР у галіне разьвіцьця Беларускай культуры можна ілюстраваць, напрыклад, наступнымі фактамі: для правядзеньня ўсеагульнага навучаньня Урад СССР дае БССР да канца 5-годкі 50 млн. рублёў. Будаўніцтва памяшканьняў унівэрсытэту ў Менску, якое складае каля 10 млн. руб. і якое заканчваецца ў гэтым годзе, робіцца таксама за кошт саюзнага бюджэту. За кошт гэтага бюджэту часткова аднесены будаўніцтва сельска-гаспадарчай акадэміі, ВТНУ і інш. Як вынікі і як самы буйны посьпех на культурным фронце за мінулыя 10 год трэба адзначыць увядзеньне ў БССР усеагульнага абавязковага навучаньня. У працягу 1929—30 г. і 1930—31 г. будзе зьліквіда-

вана няпісьменнасьць сярод усяго працоўнага насельніцтва ва ўзросьце ад 12 да 45 год. Усеагульнае навучаньне зьяўляецца залогам далейшых посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва, бо адсталая ў культурных адносінах Рэспубліка ня можа з належнай шпаркасьцю прасоўвацца наперад усім фронтам сацыялістычнага наступу і будаўніцтва. Тэмпы калектывізацыі і сельскай гаспадаркі, рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, на базе новай тэхнікі вымагаюць пасіленьня тэмпаў культурнага будаўніцтва.

Якія канкрэтныя посьпехі мы маем на культурным фронце. БССР ужо мае сваю акадэмію навук,—вышэйшую навуковую ўстанову ў Рэспубліцы, якая ўжо сканцэнтравала навакол сябе навукова-дасьледчую работу БССР. Маем 12 вышэйшых навучальных устаноў: унівэрсытэт, сельска-гаспадарчую акадэмію, Вэтэрынарны Інстытут, Камуністычны унівэрсытэт імя Леніна і іншыя. Маем 30 тэхнікумаў, якія рыхтуюць для гаспадарчага і культурнага будаўніцтва кваліфікаваных тэхнікаў, маем 35 прафэсыянальна-тэхнічных школ, 27 прафмайстэрняў, якія рыхтуюць кваліфікаваных рабочых для нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. БССР мае 3 дзяржаўных стацыянарных тэатры, з іх 2 беларускіх і 1 яўрэйскі; 4 тэатры-перасоўкі розных нацыянальнасьцяй, вызначаных для абслугоўваньня вёскі, асабліва калгасаў. Маецца добра наладжаны музычны тэхнікум, які мяркуецца рэарганізаваць у кансэрваторыю, мяркуецца арганізацыя опэрнага тэатру. Да сучаснага моманту у БССР налічваецца 506 хат-чыталень, больш 100 народных дамоў. Маецца шмат рабочых клюбаў, чырвоных куткоў і з кожным днём сетка іх нязьменна пашыраецца. Амаль кожны раён (а іх у БССР 100) мае сваю кіно-перасоўку. У Менску выдаецца больш 15 пэрыядычных выданьняў, ня лічачы газэт. Газэт у Беларусі выдаецца (цэнтральных і акруговых) 18; з іх: 5 агульных, 6 спэцыяльных, масавых рабочых—1, масавых сялянскіх—6. Разавы тыраж толькі цэнтральных і акруговых газэт складае 550 тыс. экзэмпляраў, а гадавы тыраж—88 млн. экзэмпляраў. Разгортваецца пралетарская мастацкая літаратура, растуць кадры маладых пралетарскіх паэтаў і пісьменьнікаў.

Адначасова з разьвіцьцём беларускай культуры, нацыянальнай па форме і пралетарскай па зьместу мы наглядаем праявы нацыянал-дэмакратызму і нацыянал-апартунізму, якія больш усяго знаходзяць сабе месца на культурным фронце. КПБ выкрывае носьбітаў правага ўхілу, нацыянал-дэмакратызму, і нацыянал-апартунізму і шавінізму розных колераў, вядзе рашучую барацьбу за ўзмацненьне пралетарскай культуры, барацьбу з living рознымі ўплывамі і ўхіламі. Камуністычная партыя на кіраўніцтва культурным будаўніцтвам у БССР зварочвае самую сур'ёзную ўвагу, зьнішчаючы прарывы і скрыўленьні правільнай і ідэолёгічнай лініі на культурным фронце. Жорсткая барацьба з усімі правымі апартуністычнымі, нацыяналістычнымі і шавіністычнымі элемэнтамі, якія дзейнічаюць і ў тэорыі і на практыцы, замацоўвае дасягненьні і яшчэ больш шпаркімі тэмпамі разьвівае культурнае будаўніцтва ў БССР.

Усе мерапрыемствы савецкай улады ў розных галінах будаўніцтва: культурнай, гаспадарчай і інш. зьдзейсьняюцца на мясцох праз органы дыктатуры пралетарыяту—гарадзкія, сельскія і мястэчковыя саветы. Палепшаньне работы саветаў БССР дасягаецца разам з вырашэньнем асноўнай задачы савецкага будаўніцтва—магчыма большага ўцягненьня ў гэту справу працоўных мас. Гэта задача не зыходзіць з абвесткі дню ў рабоце саветаў і выканкомаў БССР. З кожнымі новымі выбарамі саветаў актыўнасьць працоўных мас нязьменна павышаецца. Новыя саветы згуртоўваюць вакол сябе яшчэ большы актыў і таму іх работа па якасьці зьяўляецца заўсёды больш высокай, чым работа саветаў старога складу.

Для палепшаньня працы саветаў прымаюцца меры да падвышэньня кваліфікацыі работнікаў саветаў, асабліва саветаў сельскіх і мястэчковых. Штогодня праводзяцца акруговыя і цэнтральныя курсы для нізавых работнікаў, з зваротам асаблівай пры гэтым увагі на падрыхтоўку і перападрыхтоўку жанчын—членаў саветаў. Поруч з узмацненьнем нізавых саветаў больш падрыхтаванымі

кадрамі, прымаюцца меры да падвядзеньня пад дзейнасьць гэтых саветаў моцнай матар'яльнай базы. Паступова ўводзяцца самастойныя бюджэты ва ўсіх сельскіх саветах. У 1929—30 г. ўведзена 333 сельскіх і 52 местачковых бюджэты, прычым у Віцебскай вопытна-паказальнай акрузе самастойныя бюджэты ўведзены ва ўсіх сельскіх бюджэтах. Узята лінія на ўвядзеньне сельскіх бюджэтаў ва ўсіх сельсаветах ужо ў 1930—31 годзе. Для ўзмацненьня сельскіх саветаў у пачатку 1930 году пасланы ў раёны для непасрэднай працы ў сельсаветах 200 рабочых—членаў гарадзкіх саветаў. У адпаведнасьці з агульна-саюзным законам аб сельскіх саветах 21 красавіка г. г. прынята новае палажэньне аб сельскіх саветах, якое прадугледжвае значнае пашырэньне правоў сельскіх саветаў. У працы сельскіх саветаў пачынаюць ужывацца ўсё новыя формы, якія забясьпечваюць выкананьне вызначаных тэмпаў, шырока ўжываецца мэтад сацыялістычнага спаборніцтва, мэтад ударніцтва.

Значна ўзмоцнены гарадзкія саветы, якія працуюць таксама па новаму (прынята ў канцы 1928 г.) палажэньню. На працягу шэрагу год гарадзкім саветам усё больш перадавалася функцый ад акрвыканкомаў і райвыканкомаў і ў сучасны момант гарадзкія саветы, карыстаючыся неабходнай паўнатой, правоў, зьяўляюцца сапраўднымі гаспадарамі гарадоў. Гарадзкія саветы ўжо да сучаснага моманту паставілі перад сабой і штодзенна вырашаюць такія пытаньні як выкананьне на іх тэрыторыі прамфінпляну, разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва, рацыяналізацыя вытворчасьці, зьніжэньне сабекошту прадукцыі, працоўнай дысцыпліны, рабочае вынаходніцтва, арганізацыя навакол гарадоў садова-гародніх малочных гаспадарак, пасылка рабочых брыгад у вёскі і г. д. і г. д.

Так, за дзесяцігодні тэрмін дасягнула Савецкая Беларусь пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі пры агромністай дапамозе Савецкага Саюзу і ў сьціслым еднаньні з іншымі саюзнымі рэспублікамі вялізарнейшых вынікаў у справе сацыялістычнага будаўніцтва, у справе ўзмацненьня дыктатуры пралетарыяту. Эканамічна адсталая малапісьменная Беларусь на нашых вачох ператвараецца ў аграрна-індустрыяльную краіну, рэспубліку, якая першай у Саюзе ССР увяла ў сябе ўсеагульнае абавязковае навучаньне.

БССР зьяўляецца яскравым прыкладам таго, як рабочая кляса ў саюзе з асноўнымі масамі бядняцка-серадняцкага сялянства, пад кіраўніцтвам сталёвай Ленінскай Камуністычнай партыі будуе новую сацыялістычную грамаду, як закладваюцца падставы канчатковай перамогі камунізму шляхам разьвіцьця сацыялістычнай прамысловасьці, уздыму пралетарскай культуры, перабудовы быту, рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

З жабрацтва і цемры, з вогнішчаў пажару белапольскай акупацыі, з баямі ўзьнялася і ідзе Савецкая Беларусь па шляху да сацыялізму. Посьпехі БССР ёсьць посьпехі рабочае клясы, посьпехі братэрскіх рэспублік і ўсяго Савецкага Саюзу, посьпехі правільнага бальшавіцкага кіраўніцтва Ленінскай Камуністычнай партыі ва ўсіх галінах будаўніцтва сацыялізму ў краіне пралетарскай дыктатуры.

**А. ХАЦКЕВІЧ**

## Як праходзіць праца па ліквідацыі акруг

Тры акругі БССР (Менская, Віцебская і Аршанская) працу па ліквідацыі скончылі ў вызначаны тэрмін—15 жніўня і ўжо мажліва паведаміць савецкую грамадзкасьць аб праробленай працы. Лягчэй усяго і з меншымі затрымкамі прайшла праца па Віцебскай акрузе ў сувязі з тым, што Віцебская акруга, як вопытна-паказальная, была пераведзена на функцыянальную сыстэму працы. Былі вылучаны ў самастойныя адзінкі гарсаветы з бюджэтам і апаратам і сельсаветам былі перададзены бюджэтныя правы. Акруговы выканаўчы камітэт павінен быў займацца толькі плянаваньнем усіх галін дзейнасьці гарадзкіх і раённых установаў. Сапраўды праца Віцебскага акруговага выканаўчага камітэту як перадатачнага пункту паміж акругай і раёнамі, прадаўжала праводзіцца ня

толькі ў напрамку плянаваньня, але, за малым выключэньнем, выконвалася і тая праца, якую праводзілі і іншыя АВК. Наркаматы і Цэнтральныя ўстановы не прыстасавалі сваёй работы да ўмоў Віцебскай акругі, у выніку чаго ёсьць розныя погляды на функцыянальную сыстэму кіраўніцтва.

### Праца ліквідацыйных камісій

Камісіі па ліквідацыі акруг, атрымаўшы пастановы, прыступілі да працы і, займаючыся пытаньнямі ліквідацыі акр. у кароткі час, поўнасьцю ахапілі ўсе галіны працы, прарабіўшы вялізарную работу галоўным чынам у напрамку разьмеркаваньня прадпрыемстваў сацыяльна-культурных установ, грашовых абязацельстваў, арганізацыі самастойных Гарсаветаў, наладжваньні працы ўстаноў, стварэньні ўмоў і дапамогі кіраўніцтвам аддзеламі, установам у галіне ліквідацыі. Ліквідацыйныя Камісіі праз пленумы АВК правялі шэраг мерапрыемстваў, зьвязаных з ліквідацыяй акруг і, трымаючы сувязь з Урадавай Камісіяй, працягваюць выконваць абавязкі да поўнага скначэньня ўсёй працы. Дзейнасьць акруговых Камісій праходзіла і праходзіць пад кутком погляду недапушчэньня зьніжэньня тэмпаў праводзімых гаспадарчых кампаній.

Адмоўным зьявішчам у працы акруговых Камісій зьяўляецца тое, што аб іх рабоце не была інфармавана савецкая грамадзкасьць, рабочы актыў гораду і батрацка-бядняцкія масы вёскі. Да работы па ліквідацыі акруг ня былі прыцягнуты прафэсыянальныя саюзы і асабліва друк мясцовы і цэнтральны. Рашэньні Камісіі былі больш вядомы акруговым кіраўнікам установ, а не працоўным масам, з дапамогаю якіх працу па ліквідацыі акруг камісіямі можна было праводзіць з большай пасьпяховасьцю. Гэты адмоўны бок, які меў месца пры ліквідацыі Менскай, Віцебскай і Аршанскай акруг, Камісіям ліквідуемых у другую чаргу акруг трэба ўлічыць.

### Роля цэнтральных установ і наркаматаў у ліквідацыі акруг

У той час, калі акрвыканкомы ў працы па ліквідацыі акруг прарабілі вялізарную работу і з поля сваёй дзейнасьці ў час правядзеньня Пленумаў ня ўпускалі гаспадарчых задач сучаснага пэрыяду—гаспадарчыя кампаніі, сувязь, дапамогу, клопаты аб умацаваньні раёнаў, перагляд складу працаўнікоў гораду і раёну пад пунктам гледжаньня здольнасьці таго ці іншага працаўніка выконваць задачы сацыялістычнага будаўніцтва—Наркаматы і цэнтральныя ўстановы пераважную большасьць сваёй энэргіі і здольнасьці накіравалі на пашырэньне штатаў, нават не па галіне Арганізацыйна-Інструктарскай. Затрачана шмат часу на падшуканьне і замацаваньне лепшых памяшканьняў і, самае галоўнае, на пераманьваньне працаўнікоў у цэнтральны апарат, ня гледзячы на дырэктывы аб 90 проц., скарыстаньні працаўнікоў акр. у раёнах. Пачалася ліхаманка ў пераманьваньні ўмовамі працы, стаўкамі, назвай пасад (інтэграл, рэфэрэнт) і г. д. Справа ўмацаваньня раёнаў матар'яльнай базай і працаўнікамі, дапамога ў іх практычнай працы інструктаваньнем, перадача прадпрыемстваў, грашовых абавязацельстваў, увага сельска-гаспадарчым кампаніям, на жаль, стала займаць апошняе месца. Некаторыя цэнтральныя ўстановы замест дапамогі акруговым Выканаўчым Камітэтам і акруговым камісіям у працы сталі патрабаваць характарыстыкі працаўнікоў падпарадкаваных ім установ з мэтай пераманьваньня (НКЗ, ВСНГ і НКФ). На жаль, да ліквідацыі акруг Цэнтральныя ўстановы ня ведалі хто ажыцьцяўляе пастановы Ураду і іх ведамсьцьвеныя загады ў акругах. Пачалі ляцець тэлеграмы, адносьнікі ня толькі Камісіям і ўстановам, але і паасобным працаўнікам. Такія адносіны да пастаноў і дырэктыў у напрамку ўмацаваньня раёнаў працаўнікамі, ня толькі не дапамагалі ў працы, але, мякка кажучы, перашкаджалі яе пасьпяховасьці, зьніжалі энэргію і спрыялі настрою клапаціцца аб сваім дабрабыце, падмацоўваючы гэтым нежаданьне ехаць на працу ў раёны.

Памылковая думка тых, хто думае, што добра ўмацаваўшы Наркаматы працаўнікамі, можна быць упэўненым, што справа социялістычнага будаўніцтва ў раёне будзе забясьпечана. 16-ая Партыйная Канфэрэнцыя па пытаньню наблізкэньня апарату да мас і значэньня раёну пастанавіла „*паскольку вузлавым пунк-*

*там, дзе ажыцьцяўляюцца дырэктывы партыі і савецкай улады, зьяўляецца раён, сюды неабходна перанесьці і цэнтр цяжару работы па палепшаньню і спрашчэньню савецкага апарату*". Не забясьпечыўшы раён працаўнікамі, не паклапаціўшыся аб падвядзеньні матар'яльнай базы пад мерапрыемствы, дырэктывы цэнтру ня будуць успрыняты і ня будзе гарантыі, што самыя каштоўныя пастановы будуць своечасова і правільна ў клясавым зразуменьні ажыцьцёўлены і даведзены да калгасу—да мас.

Толькі ўсебакова ўмацаваўшы раён бальшавіцка вытрыманымі кадрамі, дапамогай раёнам наогул і асабліва ў сучасны пераходны пэрыяд, мажліва забясьпечыць пасьпяховае выкананьне працы па сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі. Умацаваньне Цэнтральных установ можна праводзіць за лік вылучэнцаў з рабочага актыву, батракоў і беднякоў вёскі, а не накіроўваць іх на раён з акруговых установ, што мае месца ў некаторых акругах.

### Цэнтральныя ўстановы і раёны

Праца раённых выканаўчых камітэтаў на сёньня яшчэ па матар'ялах інспэктарскага абсьледваньня Арг. Аддзелам Прэзыдыуму ЦВК (Чашнікі, Калінкавічы, Буда-Кашалёўская, Чарэя) праходзіць без дапамогі цэнтральных установ, якія, акрамя адносьнікаў і тэлеграм, у пераважнай большасьці запытаньнем зьвестак статыстычнага характару па розных галінах працы, другіх паказаньняў не даюць. Інструктароў на дапамогу ў раёны не накіроўваюць. Раённыя Выканаўчыя Камітэты, пераводзячы сваю працу бяз удзелу акруг, кіруюцца на дапамогу цэнтральных установ і за адсутнасьцю дапамогі некаторыя з раёнаў робяць памылкі: напрыклад Боркавіцкі раён уводзіць у некаторых сельсаветах працгужпавіннасьць для перавозу будаўнічага матар'ялу на клюб, Лагойскі раён выносіць пастанову, у якой даручае міліцыі перакупшчыкаў гарэлкі арыштоўваць і трымаць пад вартаю да суда і г. д. Бязумоўна, пры наладжанай сувязі з цэнтральнымі ўстановамі памянёным Раённым Выканаўчым Камітэтам была-б дадзена консультацыя і яны такіх пастаноў ня выносілі-б.

Наколькі слабая зацікаўленасьць пытаньнямі ліквідацыі акруг і ўдзел у дапамозе акруговым Камісіям сьведчыць наступная выпіска з пратаколу Аршанскай Акруговай камісіі.

*Давесьці да ведама Камісіі ЦВКБ па ліквідацыі акруг, што ад НКАсьветы, яшчэ да гэтага часу няма яскравых паказаньняў па наступных пытаньнях:* а) якая колькасьць павінна быць прынята вучняў у асеньні набор уноў адчыняемых тэхнікумаў і Рабфаку: б) няма канчатковых паказаньняў, колькі, якіх і дзе павінна быць адчынена новых прафтэхшкол, а атрыманыя ўказаньні разыходзяцца з данымі НКФ; в) таксама да гэтага часу не дасланы навучальныя пляны па адчыняючымся тэкстыль-тэхнікуму, Рабфаку і існуючых пэдтэхнікумах.

Прасіць ліквідкамісію ЦВК БССР тэрмінова прапанаваць НКА БССР аб безадкладнай дачы апошнім Райвыканкомам і Гарсаветам Аршанскай акр. саадпаведных паказаньняў па ўсім вышэйпералічаных пытаньнях.

Давесьці да ведама Камісію ЦВК па ліквідацыі акруг, што ад Белпаляводсаюзу і Белсельгасснаба яшчэ да гэтага часу няма яскравых паказаньняў па наступных пытаньнях; а) невядома калі і на чый рахунак перавозіцца вапна з аднага раёну у другі; б) няма адказу ці павінен у далейшым заставацца Чарэйскі вапняны завод, маючы на ўвазе, што згодна вытвараных досьледаў глеба Чарэйскага раёну вапнаваньня не патрабуе і адлегласьць чыгункі перашкаджае і ўдаражае перавозкі вапны ў другія раёны; в) няма адказу ці будзе і надалей заставацца ў г. Воршы міжраённая транзітная база і яшчэ да гэтага часу тавары па нарадах Белсельгасснаба паступаюць у адрас Паляводсаюзу, што перашкаджае ліквідацыі Акрпаляводсаюзу.

Прасіць камісію пры ЦВК БССР па ліквідацыі акруг, тэрмінова прапрацаваць вышэйпералічаным арганізацыям, каб апошнія зараз адказалі на паказаныя пытаньні.

ВСНГ надта таксама заняты працай у сувязі з скончэньнем гаспадарчага году, у тым ліку і працай па пераманьваньню працаўнікоў, скончыўшых у Магілеве курсы Фабзавучу, курсантаў не разьмяркоўвае і доўгі час не дае адказу на іх запытаньні пісьмовыя і тэлеграфныя. Курсанты прымушаны былі зьвярнуцца ў ЦВК з тэлеграмаю і прасіць узьдзейнічаньня на ВСНГ у напрамку хутчэйшага іх разьмеркаваньня. Такія адносіны да працы з боку некаторых Цэнтральных установ тармазяць работу ліквідацыі акруг. На прапановы Паляводсаюзу тэрмінова даць паказаньні Аршанскай Акруговай ліквідацыйнай Камісіі аб вапняным заводзе спэцыялісты дае такі адказ: „напішу Аршанскаму АВК", на заўвагі, што АВК Аршанскае ня існуе, даецца адказ: „гэта не мая справа ведаць,

існуе акруга ці не—гэта справа Інструктарскага аддзелу, а я спэцыялісты.

Ня лепш абстаіць справа з асьведамленьнем аб ліквідацыі трох акруг і іншых цэнтральных устаноў БССР, напрыклад: 24 жніўня лістаносец адрасованых 12 пакетаў ня мог перадаць ня існуючаму Менскаму АВК; прынёс у Урадавую Камісію. Характэрна, што сярод заадрасованых Менскаму АВК пакетаў ёсьць ад Эканомнарады, Дзяржбанку, ВСНГ, Барысаўскага Гарсавету, інспэкцыі працы і г. д. Здавалася, памянёныя ўстановы павінны былі ужо ведаць аб неіснаваньні Менскай акругі. Такія адносіны зьяўляюцца лепшымі паказчыкамі той увагі, якая маецца з боку цэнтральных устаноў да справы ліквідацыі акруг.

### Пытаньне з кадрамі

Пытаньне з разьмеркаваньнем кадраў і скарыстаньнем іх у раёнах абстаіць здавальняюча ў б. Аршанскай акрузе, горш у Віцебскай, асабліва дрэнна ў Менскай. Папершае, гэта невыкананьне вызначаных норм (90 проц.) па б. Віцебскай і Менскай акругах. У Аршанскай акрузе справа з разьмеркаваньнем працаўнікоў была пастаўлена адразу на рэйкі „ня менш 90 акруговых працаўнікоў у раёны. Прызначэньне сяброў партыі 94%. На вызначаных Аршанскай Камісіяй працаўнікоў для працы ў раёны заяўлялі прэтэнзіі Цэнтральныя ўстановы, але яны ня прымаліся пад увагу. Добра была пастаўлена справа з накіраваньнем спэцыялістых у раён.

З ліку 127 тав. працаўнікоў па земляўпарадкаваньню толькі 3 супярэчылі і то таму, што іх накіроўвалі не ў абраныя імі раёны. Па Віцебскай акрузе канчатковых лічбаў няма, але па маючымся папярэднім зьвесткам справа стаіць далёка ня так, як у Воршы. Пераманьваньню, якое мела месца у Віцебску, своечасова ня быў дан адпор. Назіраліся выпадкі нежаданьня ехаць у раёны.

З акруговых работнікаў Віцебскага АВК толькі ў апарат ЦРК перайшло 14 спэцыялістых. У агуле пакуль што па Віцебшчыне вызначана на раён 66 проц. і з дваццаткі 3 працаўнікі. Невядома колькі сапраўды даедзе і акліматызуецца на працы ў раёнах. Па Менскай акрузе з дваццаткі толькі 2 паехалі ў раён, а астатнія моцна замацаваліся ў Цэнтральных установаах. *Ёсьць імкненьне норму 90 проц. па Менску* выканаць за лік тэхнічных, радавых работнікаў. Такое становішча з скарыстоўваньнем кадраў для ўстаноў раёнаў супярэчыць агульным дырэктывам, недапушчальна парушаным Віцебскам і Менскам, і павінна быць перагледжана ў напрамку поўнага выкананьня. Раёны запытваюць калі і хто прыедзе на працу. Праводзімыя с/г кампаніі не ва ўсіх раёнах сталі на бальшавіцкі шлях выкананьня. Да ведама савецкай грамадзкасьці гораду і вёскі справа аб разьмеркаваньні супрацаўнікоў была даведзена толькі ў апошні час. Так сапраўды абстаіць справа праводзімай працай ліквідацыі акруг на сёньня.

Аднак, гэтае становішча сёньня не павінна быць такім заўтра. Трэба больш рашуча і востра паставіць пытаньне з ліквідацыяй, прымусіць цэнтральныя ўстановы не займацца пераманьваньнем працаўнікоў і сваім удзелам дапамагаць у працы акругавым камісіям, чаго, на вялікі жаль, сёньня няма. Справа ліквідацыі акруг і ўмацаваньня раёнаў гэта справа ня толькі Ўрадавай або акруговай Камісій, гэта справа палітычна важная і патрабуе ўдзелу савецкай грамадзкасьці, Наркаматаў і паасобных працаўнікоў. Толькі з удзелам савецкай грамадзкасьці, шырока папулярызаваўшы гэту справу сярод рабочых гораду і батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі, можна больш пасьпяхова праводзіць далей працу ліквідацыі акруг, не дапускаючы тых памылак і грубага парушэньня дырэктыў, якія мелі месца да гэтага часу. *Трэба, згуртаваўшы грамадзкасьць, даць рашучы адпор*, кулацка-нэпманаўскай частцы, перашкаджаючай як у хлебанарыхтоўчых кампаніях, так і ў правядзеньні усіх мерапрыемстваў на вёсцы ў тым ліку і ліквідацыі акруг.

Акругі, праводзячыя працу па ліквідацыі, павінны і далей не аддзяляць справы ліквідацыі ад усебаковага ўмацаваньня раёнаў, мацней стаўшы на шлях поўнага выкананьня дырэктыў партыі і Ураду аб скарыстаньні акруговых працаўнікоў на практычнай працы ў раёне.

М—ч.

# Гарсавет—важнейшая адзінка рэарганізаванага апарату

*(У парадку абмеркаваньня)*

Ліквідацыя акруговых зьвеньняў, якая павінна быць у асноўным праведзена да 1 кастрычніка гэтага году, робіць гарсавет найбольш важнейшым з мясцовых органаў улады. Гэтае месца гарсавету вызначаецца цэлым шэрагам момантаў. Па-першае, пад кіраўніцтвам гарсавету, пераходзіць значна большая колькасьць прамысловых прадпрыемстваў, чым гэта было да апошняга часу. Калі да рэарганізацыі пад ведамам гарсавету знаходзіліся амаль выключна прадпрыемствы камунальныя, альбо такія, якія мелі пераважна мясцовае гарадзкое значэньне, дык пасьля рэарганізацыі пад загадам гарсавету ўжо будуць і прадпрыемствы акруговага, а некаторыя і рэспубліканскага значэньня.

Па-другое, на гарсавет ускладаецца значна большая адказнасьць і за ўсе прадпрыемствы рэспубліканскага значэньня, якія знаходзяцца на тэрыторыі гораду.

Па-трэцяе, праблема матар'яльнага абслугоўваньня рабочых мас (кіраўніцтва гэтай працай) цалком ляжа на гарсавет.

Па-чацьвертае, гарсавет павінен будзе ўзяць на сябе значную частку работы па соцыяльна-культурным абслугоўваньні горадам вёскі, бо цэлы шэраг акруговых культурна-бытавых устаноў пяройдзе пад загад гарсавету.

Нарэшце, гарсавет павінен стаць усёй сваёй працай прыкладам для РВК, як орган найбольш моцны з мясцовых органаў і па якасьці працаўнікоў, і па аб'ёму функцый, якія застануцца ў яго.

У сувязі з гэтым уся праца і структура гарсавету павінна атрымаць значныя зьмены. Чым быў да гэтага часу гарсавет? За выключэньнем рэарганізаванага Віцебскага гарсавету, ён быў і застаецца пераважна палітычна-масавым органам, задача якога была мабілізаваць масы па тых ці іншых кампаніях. Гэта задача, бязумоўна, вялікая, але гарсавет пры правядзеньні гэтай працы ня мог абаперціся ў дастатковай ступені на досыць моцную матар'яльную базу. Цяпер гэта ў корані зьмяняецца. Матар'яльная база будзе ўзмоцнена. Правы і функцыі гарсаветаў будуць значна пашыраны. Па-гэтаму глеба для масавай работы будзе значна пашырана.

Што трэба зрабіць, каб арганізацыйна перабудаваць масавую працу?

Перш за ўсё трэба дабіцца, каб масавая праца была значна набліжана да прадпрыемства.

Калі да гэтага часу пасяджэньні Прэзыдыумаў, а асабліва сэкцый, на прадпрыемствах былі рэдкасьцю, дык цяпер трэба будзе гэтакія пасяджэньні ўвесьці ў сыстэму.

Па-другое, трэба павялічыць правы сэкцый. У сучасны момант усе пастановы сэкцый уходзяць у сілу толькі пасьля таго, як яны зацьвярджаюцца прэзыдыумам гарсавету. Гэта прыводзіць да таго, што шэраг пастаноў сэкцый зусім не праводзіцца ў жыцьцё. Неабходна, каб пастановы сэкцый сталі абавязковымі і без зацьверджаньня прэзыдыуму гарсавету, за выключэньнем тых, па якіх маюцца супярэчнасьці з боку зацікаўленай установы.

Трэцяе, неабходна стварыць нейкую матар'яльную базу для сэкцый, даўшы ім магчымасьць распараджацца некаторымі сродкамі.

Акрамя таго, неабходна рашуча правесьці ў жыцьцё дырэктыву аб арганізацыі дэлегацкіх груп і пашырыць права апошніх.

Таксама было-б, па нашай думцы, карысна арганізаваць сэкцыі па кварталах гораду. Усё гэта значна пашырыла-б масавую працу гарсавету.

Такое разгортваньне масавай работы патрабуе палепшаньня кіраўніцтва гэтай працы. Да гэтага часу кіраўніцтва гэтай працай ускладалася на прэзыдыум. У сувязі з ускладаньнем працы прэзыдыуму (гарвыканкому), ён наўрад ці зможа ахапіць гэту працу. Таму неабходна пры гарсавеце ўстанавіць штатную адзінку інспэктара па масавай рабоце, а пры ім сэкцыю па кіраўніцтву масавай работай.

Асаблівую ўвагу пры рэарганізацыі апарату трэба зьвярнуць на тое, каб арганізаваць работу гарсавету з масамі і праз масы. Гэта дасьць найбольшыя дасягненьні і дасьць магчымасьць уберагчы апарат ад разбуханьня.

**А. Вайцок.**

# Саветы і работа з беднатой і батрацтвам

Недаацэнка і пасыўнасьць у рабоце па арганізацыі беднаты і батрацтва зьяўляецца адной з самых шкодных праяў правага ўхілу на практыцы, адбіваючага націск дробна-буржуазнай стыхіі і ідэалегіі кулацтва на некаторыя праслойкі партыі і таму з усякім спробамі змазваньня гэтай работы ЦК патрабуе весьці ўзмоцненую барацьбу як з праявамі правага апартунізму, асабліва небясьпечнага ў даных умовах. Толькі чужыя ЎсеКП і ЎсеЛКСМ элементы могуць ігнараваць гэтую карэнную задачу партыі—задачу самастойнай арганізацыі беднаты і батрацтва на вёсцы.

(З пастановы ЦК КП(б)Б ад 25-1-30 г.).

Аб рабоце сярод батрацтва і беднаты маецца цэлы шэраг дырэктыў партыйных і пастаноў органаў Улады. Толькі па лініі савецкіх органаў па пытаньнях аб працы сярод батрацтва і беднаты налічваецца 16 пастаноў і абежнікаў, выданых у працягу году. Аднак, нажаль, ня сёньня прыходзіцца канстатаваць, што работа сярод батрацтва і беднаты не заняла належнага месца і той увагі, якую яна павінна займаць. XIII Зьезд КПБ, падагуліўшы вынікі працы ў гэтай галіне, у пастанове адзначыў наступнае:

„Зьезд лічыць зусім нездавальняючай работу партарганізацый сярод беднаты наогул і ў прыватнасьці па арганізацыі і кіраўніцтву работаю батрацка-бядняцкіх груп. Зьезд падкрэсьлівае ўсю важнасьць гэтай работы асабліва для справы далейшага разгортваньня калгаснага руху, канстатуе, што дагэтуль у радзе мясцовых арганізацый маецца ігнарыраваньне і недаацэнка гэтай работы. Зьезд даручае ЦК дабіцца рашучага пераломy ў гэтай галіне“.

Здавалася-б, гэта пастанова павінна была поўнасьцю адлюстраваць і зварушыць дзейнасьць усіх савецкіх, гаспадарчых і грамадзкіх устаноў у раёнах і сельсаветах. Праверыўшы сапраўднае становішча працы ў гэтым напрамку па зьвестках на 15-е ліпеня г. г. з 26 раёнаў БССР, ахапіўшых 378 сельсаветаў, мы маем малюнак, які прымушае ўзьняць пытаньне праз друк, каб мабілізаваць увагу саветаў і арганізацый вакол гэтага пытаньня, якое ў некаторых мясцох ігнарыруецца і недаацэньваецца. Праўда, у параўнаньні з мінулым мы маем паасобныя посьпехі ў рабоце сярод беднаты (капэраваньне, уцягненьне ў калгасы, павялічэньне матар'яльна-гаспадарчай дапамогі, рост актыўнасьці ў гаспадарчых кампаніях), але-ж ёсьць шэраг раёнаў, якія ў справе арганізацыі груп беднаты ганебна адстаюць ад выконваньня пастаноў партыі і ўлады ў справе сапраўднай арганізацыі бядняцкіх груп. З матар'ялаў раёнаў відаць, што з 378 сельсаветаў толькі ў 337 арганізаваны групы беднаты. Значыць, у 41 сельсавеце пры саветах нават не арганізаваны групы беднаты, ня кажучы ўжо аб якасьці самае працы. Узяўшы паказчыкі па 378 сельсаветах і прымяніўшы іх ў адносінах да ўсіх сельсаветаў, выходзіць, што 11 проц., або 170 сельсаветаў у БССР пры саветах не маюць груп беднаты. Між тым пастановаю ЦВК БССР 3-III—30 г. ускладзен абавязак на акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты наступнага зьместу:

„Безадкладна распачаць і ў найкарацейшы тэрмін скончыць арганізацыю пры ўсіх сельсаветах груп беднаты з батракоў і беднякоў членаў саветаў“...

Такія адносіны да гэтай працы ў сучасны момант пры правядзеньні засеўнаўборачнай і хлебанарыхтоўчай кампаній спрыяюць права-апартуністычным настроям, якія ўжо і пачынаюць праяўляцца сябе пры давядзеньні пляну зарыхтовак да вёскі, да кулацкага двара. Раз неарганізаваны групы беднаты, не праведзена з імі належная праца,—у савеце няма сталай апоры ў правядзеньні баявых задач, якія патрэбна безадкладна вырашаць бальшавіцкімі тэмпамі.

Адпор кулацтву павінен давацца з дапамогаю арганізаванай пры саветах батрацка-бядняцкай часткі вёскі. Пры здсутнасьці згуртаванага ў групах актыву батракоў і беднякоў пасьпяховасьць у правядзеньні палітычна - гаспадарчых кампаній і адпор кулацтву знаходзіцца

пад пагрозаю. Недапушчальна вялікі недахоп у працы зрабілі тыя раёны і саветы, якія да гэтага часу не змаглі зразумець неабходнасьці арганізацыі батрацка-бядняцкіх груп, выпусьціўшы з поля сваёй дзейнасьці адну з галоўнейшых задач сучаснага пэрыяду пры клясавым змаганьні на вёсцы. Раёны і саветы, стаўшыя на шлях недаацэнкі пытаньняў арганізацыі груп беднаты, не прарабіўшы належнай работы з батрацвам і беднатою, як сярод калгасьнікаў, так і ў бядняцкіх індывідуальных гаспадарках, вольна ці нявольна льлюць ваду на млын правых апартуністых, умацоўваючы гэтым іх пазыцыі.

У некаторых раёнах, дзе справа з арганізацыяй груп беднаты з забясьпечаным кіраўніцтвам іх работаю пастаўлена больш-менш здавальняюча, заўважаецца, што пры абгаварэньні пастаўленых на сходах пытаньняў выносяцца жыцьцёвыя і досыць каштоўныя прапановы. Напрыклад, у Магілеўскай акрузе за 6 месяцаў, па зьвестках на 15 ліпеня з некаторых раёнаў, абгаворана на сходах беднаты і ўнесена на разгляд сельсаветаў 1.419 пытаньняў—у сярэднім 11 пытаньняў на групу. Аднак, і тут побач з станоўчымі бакамі ў працы ёсьць і адмоўныя. Ня ўсе пастановы груп беднаты праводзяцца ў жыцьцё і горш за ўсё тое, што аб неправядзеньні пастановы ў жыцьцё і яго прычынах бедната і кіраўнікі груп не паведамляюцца. Магчыма, што ўсіх рашэньняў і нельга праводзіць, прымаючы пад увагу слабую палітычную падрыхтоўку кіраўнікоў груп беднаты, але, паведамляючы аб адхіленьнях, асабліва растлумачыўшы прычыны адхіленьня, гэтым была-б зроблена дапамога ў далейшай працы як кіраўніку, так і ўсяму складу сяброў групы. Характэрнымі раёнамі, адхіляючымі пастановы груп беднаты, зьяўляюцца: Бялыніцкі—з унесеных на разгляд 44 пытаньняў не праведзены ў жыцьцё 25; Кармянскі—з унесеных 103 не праведзена 39. Шклоўскі—з унесеных 127 не праведзена 58. Такі вялікі процант неправедзеных у жыцьцё па розных прычынах пастаноў груп беднаты сьведчыць, што альбо групы беднаты ня тым займаюцца, чым патрэбна, або саветы зусім ня лічацца з іх прапановамі. У першым выпадку патрэбна наладзіць працу, накіраваўшы дзейнасьць груп беднаты ў больш працаздольнае і карыснае рэчышча, у другім—трэба ўцяміць, што бедната зьяўляецца сапраўднай апорай савецкай улады на вёсцы. Не зразумеўшы гэтага, нельга кіраваць усімі працэсамі вялізарнага зруху, які адбываецца на вёсцы. XVI Зьезд УсеКП, прыдаючы вялізарнае значэньне неабходнасьці працы сярод груп беднаты, пастанавіў: „работа груп беднаты ў першапачатковых формах калектыўных гаспадарак павінна быць палепшана, пасколькі толькі, абапіраючыся на беднату, мажліва забясьпечыць пераход прасьцейшых аб'яднаньняў на вышэйшую ступень калектывізацыі. Партыйныя арганізацыі ў калгасах павінны забясьпечыць такую пастаноўку працы груп беднаты, каб яны ня толькі абаранялі непасрэдныя інтарэсы беднаты, але і садзейнічалі ўмацаваньню саюзу рабочае клясы і вясковай беднаты з серадняком".

Аднак у практычнай працы з беднатой трапляюцца і такія ненармальныя выпадкі, калі групы беднаты падмяняюць саветы. Сялянам, што зварачваюцца ў сельсавет за дапамогаю атрымаць хлеб з каапэрацыі, даецца адказ: „Чаго вы ходзіце сюды па гэтым пытаньні, я казаў, што сьпісу на выдачу хлеба яшчэ не зацьвердзіла бедната, ідзіце да іх, няхай хутчэй разглядаюць, тады і падпішу сьпіс на выдачу". (Паўлаўскі сельсавет, Круглянскага раёну).

Ня лепш пастаўлена праца з беднатою і пры каапэрацыйных установах. Па матар'ялах 378 сельсаветаў пры каапэрацыйных органах налічваецца толькі 46 груп беднаты, з агульнай колькасьцю сяброў 699, у сярэднім па 12 асоб на групу. Гэта ў той час, калі на тэрыторыі кожнага сельсавету маецца ў сярэднім ня менш аднаго каапэрацыйнага аддзяленьня. З гэтага можна зрабіць вынік, што ёсьць шмат каапэрацыйных аб'яднаньняў на вёсцы, пры каторых няма груп беднаты. Адсутнасьць груп беднаты пры каапэрацыі ў сучасны момант, (ня кажучы ўжо аб якасьці працы з беднатою), пры правадзімых хлебанарыхтоўках і загатоўках другіх відаў сыравіны, разьмеркаваньні дэфіцытных тавараў сярод спажыўцоў, бязумоўна, ня

можа спрыяць пасьпяховасьці ў працы. Такое становішча працы з беднатою па матар'ялам на 15 ліпеня г. г.

Калі ўзяць другую частку працы саветаў—з батрацтвам, то і тут шмат невыкананы пастановы партыі і Ураду аб працы з батрацтвам. Той некаторы зрух, што адбыўся ў працы з батрацтвам, і тыя посьпехі ў некаторых галінах працы (вучот, сьмелая заява ў саветах батракоў, што яны батракі, дамаганьне правоў, удзел у працы па калектывізацыі) ня могуць зьяўляцца дастатковымі.

З агульнага ліку батракоў і батрачак, якіх налічваецца ў БССР 78.459, у калгасах знаходзіцца толькі 31 проц., або 24.607. Бязумоўна, што лічба 78.459 няпоўная. Мы маем яшчэ шмат батрацтва ня выяўленага, працуючага па найму бяз умоў. Паказчыкам наяўласьці такога становішча зьяўляецца тое, што па зьвестках заключана ўмоў па найму батракоў толькі 5 проц., або 4.099, у гэтым ліку значная частка пастухоў і падпаскаў. Адзначанае становішча з працаю сярод батрачаства, асабліва з заключэньнем умоў нельга назваць станоўчым. Адгэтуль выкананьне дырэктыў партыі аб калектывізацыі батрацтва і беднаты да канца 1931 г. пры такім становішчы працы з батрачаствам і беднатой ня можа быць забясьпечаным.

Ня менш характэрным зьяўляецца і ўдзел батракоў і батрачак у працы груп беднаты. З агульнай колькасьці батрачаства толькі 10.511, што складае прыблізна 2 проц. да агульнага ліку батракоў і батрачак, уваходзіць у групы беднаты. З гэтай колькасьці жанчын толькі 501. Наяўнасьць заняпалага становішча працы сярод беднаты і батрачаства выклікае неабходнасьць ад саветаў заразжа выправіць недахопы ў працы, перагледзіць пляны працы, скласьці новыя, поўнасьцю адлюстраваўшы ў плянах працы дырэктывы XIII зьезду КПБ і XVI зьезду УсеКП з мэтаю хутчэйшага ажыцьцяўленьня іх пастаноў, асабліва ў час правядзеньня палітычна-гаспадарчых кампаній.

Дырэктывы партыйных зьездаў ёсьць і працаўнікам саветаў патрэбна, азнаёміўшыся з імі, не забывацца, а ў штодзеннай працы няўхільна і ўпарта праводзіць іх у жыцьцё. Праводзячы гаспадарчыя кампаніі, не забывацца пра індывідуальна - бядняцкія гаспадаркі, якія яшчэ ня ўступілі ў калгас, не ігнараваць, а ўстанавіць правільныя ўзаемаадносіны паміж калгасьнікамі і адзінаалічнікамі, памятуючы, што па гэтаму пытаньню ёсьць папярэджаньне XVI партыйнага Зьезду... Зьезд папярэджвае партыйныя арганізацыі ад якога-б та ні была ігнараваньня адзінаалічнай гаспадаркі, якая ў шэрагу раёнаў краіны будзе існаваць адносна доўга.

Такім чынам, наяўнасьць становішча работы з батрацтвам і беднатою ва ўсіх галінах вымагаюць ад партыйных, савецкіх, гаспадарчых і прафэсыйных устаноў больш рашучага пераноса сваёй дзейнасьці ў напрамку плянавага ўсебаковага зруху ў рабоце з беднатой. Бяз гэтай работы нельга гарантаваць пасьпяховае выкананьне стаячых у парадку дню задач па сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі і яшчэ больш пасьпяховага наступленьня на капіталістычныя элемэнты вёскі. Праца з батрачаствам і беднатою і кіраўніцтва ёю павінна як да ліквідацыі акруг, так і пасьля заняць ва ўсёй работы нізавых органаў тую ўвагу і тое месца, якое яскрава вызначана XIII зьездам КПБ і XVI зьездам УсеКП.

**А. М.**

# На фронце работы з батрацтвам і беднатой

Адным з найбольш шматлікіх атрадаў пралетарыяту ў вёсцы зьяўляюцца сельска-гаспадарчы пралетарыят і паўпралетарыят—батрацтва і пастушаства, якія працуюць па найму стала і сэзонна ў сялянскіх гаспадарках. Гэтыя атрады, будучы найбольш распыленымі па вёсках, патрабуюць асаблівай увагі га абароне, арганізацыі і выхаваньню іх.—На сучасным этапе рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, Камуністычная Партыя і Савецкая Улада паставілі перад саветамі і выканаўчымі камітэтамі, як органамі дыктатуры пралетарыяту, задачу яшчэ

з большай уважлівасьцю выконваць у сваёй штодзеннай рабоце ўсе дырэктывы па абслугоўваньню батракоў, батрачак, пастушаства і наогул беднаты, сачыць за тым, каб наймальнікі не парушалі кодэкс закону аб працы ў сэнсе разьлікаў, выплаты сацстрахаваньня, аховы працы, заключэньня працоўных дагавароў з батракамі і пастухамі.

За мінулыя гады ёсьць шэраг прыкладаў адмоўных зьявішч з боку некаторых саветаў у рабоце сярод батрацтва і пастушаства. Саветы (былі такія выпадкі) зусім амаль не абаранялі правы батракоў і пастухоў. Нават пры грубым парушэньні Кодэксу законаў аб працы наймальнікамі-кулакамі, часьцяком рэгістраваліся кабальныя ўмовы, заключаныя наймальнікам з батраком ці пастухом. Адмоўныя зьявішчы ў рабоце некаторых саветаў сярод батрацтва і пастушаства бываюць ня столькі дзякуючы злому ўмыслу, але, на вялікі жаль, нярэдка трапляецца, што парушаюцца правы батрака ці пастуха з боку наймальніка кулака толькі таму, што сельсавет не заўсёды бывае знаём з заканадаўствам аб абароне і правох батракоў і пастухоў; толькі таму, што сельсавет ня чытае законы, ня цікавіцца справамі батракоў, пастухоў і наогул беднаты.

Пры размовах з такімі сельсаветамі, яны заўсёды стаяць „сьцяной“ за батракоў, пастухоў і беднату: „мы, браточкі, сваіх батракоў і пастухоў пакрыўдзіць не дазволім“... А калі запытаеш—а як у вас наконт сацстрахаваньня пастухоў?... Ці чыталі вы закон аб наймовай працы ў сялянскіх гаспадарках?.. Дык тут нярэдка некаторыя сельсаветчыкі зьдзіўлена запытываюцца—а нешта ёсьць аб гэтым закон? А іншыя хочуць, у свае апраўданьне, зьбіць цябе спанталыку і „ўпэўнена“ заяўляюць: „у нас такіх законаў няма“... А пойдзеш пашукаць у канцылярыю, дык знаходзіш шмат дырэктыў, брашур, часопісаў, законаў, неразрэзаных, непрачытаных. Тады апраўданьне можна чуць амаль адно: „няма магчымасьці ўсяго чытаць“... А ці бывае ў сельсавеце так, што ніколі нічога ня чытаецца? бывае і нярэдка бывае, што ўсё атрыманае—цыркуляры, брашуры, часопісы, зборнікі, Збор законаў і загадаў, адным словам, усё тое, чым сельсавет павінен кіравацца, знаёміць з ім насельніцтва і праводзіць у жыцьцё—не разрэзваецца, ня чытаецца, і, у лепшым выпадку, акуратна зьбіраецца і складаецца, што дае магчымасьць у „цяжкую“ хвіліну, пры дапамозе другіх таварышоў, знайсьці разрэзаць і прачытаць. У апошні час, як і раней, выдана і накіравана Саветам і выканкомам некалькі зборнікаў сыстэматызаванай літаратуры: „Зборнік Партыйных і Савецкіх Пастаноў“ з рэзалюцыямі і цыркулярамі ў галіне Савецкага будаўніцтва, што вельмі важна для кіраўніцтва ў працы саветаў; апошняе палажэньне пра сельскія саветы; таксама распаўсюджваецца штомесячны часопіс „Саветы Беларусі“ і іншая літаратура. Але ўсё гэта дасягне мэты толькі тады, калі зборнік, або іншую кніжку разрэжаш, сумленна прачытаеш і пазнаёміш з імі насельніцтва. Сучасны момант жыцьця патрабуе ад сельскіх саветаў больш сьвядомасьці, больш уменьня ў кіраўніцтве і перабудове жыцьця вёскі, шляхам сацыялістычнай рэканструкцыі сялянскіх дробных гаспадарак—у буйныя калятыўныя гаспадаркі. Для гэтага патрабуецца больш здольнасьці па арганізацыі батрацка-бядняцкай масы ў цесным саюзе з серадняком. У абежніку Прэзыдыум ЦВК БССР ад 3 сакавіка 1930 г. гаворыцца: „Безадкладна распачаць і ў найкарацейшы тэрмін скончыць арганізацыю пры ўсіх сельсаветах груп беднаты з батракоў і беднякоў—членаў Савету і арганізацыйных камісій“... Як выканан гэты важнейшы абежнік Прэзыдыуму ЦВК БССР? А вось як, напрыклад—у Цераховскім раёне (Гомельшчына), весткі на 1 жніўня г. г. пры 11 сельсаветах не арганізаваны групы беднаты, па Лупалаўскаму раёну (Магілеўшчына)—пры 8 сельсаветах няма груп беднаты. Па Чэрыкаўскаму—пры 6 сельсаветах не арганізаваны, па Каралінскаму раёну—пры 5 сельсаветах не арганізаваны групы беднаты і г. д; гэта гаворыць аб тым, што дырэктывы партыі і Савецкай улады аб рабоце з батрацтвам і беднатой шэраг сельсаветаў і райвыканкомаў ня выканалі. А ёсьць такія раёны, Чачэрскі (Гомельшчына)—пры 23-х сельсаветах арганізована 31 група беднаты; тут сустракаецца вялікае затрудненьне

ў падшуканьні кіраўнікоў для груп беднаты.

Ня гледзячы на тое, што роля батрацка-бядняцкіх груп пры сельсаветах і іх работа значна за апошні год узмацнілася, шэраг асноўных пытаньняў, якія маюць вялікае значэньне ў жыцьці вёскі (аслабаненьне ад падатку беднаты, разьмеркаваньне насеньня, самаабкладаньне, індывідуальнае абкладаньне, пытаньні пасеўкампаніі, нарыхтоўкі, калектывізацыя і іншыя), абмяркоўваюцца папярэдня на групах беднаты і ўносяцца на вырашэньне сельсаветаў і ўсё-ж ёсьць у гэтай галіне працы шмат недахопаў, недарэчнасьцяй і нават нядбайнасьці з боку некаторых мясцовых устаноў, арганізацый і паасобных работнікаў. Найбольш гэтыя недахопы тлумачуцца тым, што недаацэньваецца ўся важнасьць работы з батрацтвам і беднатой. Прэзыдыум ЦВК БССР 15 жніўня г. г. заслухаў на сваім пасяджаньні даклад Арг. Інстр. аддзелу ЦВК БССР аб рабоце сярод батрацтва і беднаты; вынес шэраг канкрэтных прапаноў саветам, выканкомам і Арг. Інстр. аддзелу. Трэба праверыць на мясцох усё, што яшчэ ня выканана з дырэктыў аб рабоце і арганізацыі батрацка-бядняцкіх груп. Неабходна пабальшавіцку ўзяцца і наладзіць гэту найважнейшую галіну працы на вёсцы.

**Ц. Вінаградаў.**



## За „пяцігодку—у чатыры гады“

*(Да рэалізацыі новай масавай пазыкі „пяцігодка—у чатыры гады“)*

У сучасны момант мы пачалі кампанію па разьмяшчэньню новай масавай пазыкі „Пяцігодка—у чатыры гады“. Гэтая пазыка выпушчана савецкім урадам па патрабаваньню перадавых атрадаў рабочае клясы і працоўнага сялянства, якія з нячуваным энтузіязмам змагаюцца за выкананьне сацыялістычнай пяцігодкі ў чатыры гады. Сродкі ад гэтай пазыкі праз дзяржаўны бюджэт будуць накіраваны на ўзмацненьне і паскарэньне сацыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і ў вёсцы, якое забясьпечыць пасьпяховае выкарчоўваньне рэштак капіталізму ў нашай краіне і дасьць нам магчымасьць без перабояў выконваць нашы пляны гаспадарчага будаўніцтва ў 3-ці, рашаючы год пяцігодкі.

Вялікая задача сацыялістычнай перабудовы нашай адсталай, дробна-сялянскай краіны ва ўмовах капіталістычнага акружэньня, патрабуе хуткіх тэмпаў індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі вёскі. Для падтрымкі ўзятых Партыяй і Урадам тэмпаў і стварэньня ўмоў для іх паскарэньня, неабходна ня толькі аграмаднае напружаньне працоўных сіл, ня толькі нязрушная энэргія і воля ў барацьбе з маючыміся на шляху будаўніцтва сацыялізму цяжкасьцямі. Для гэтага патрэбны яшчэ аграмадныя сродкі, якія мы можам браць толькі ўнутры краіны, так як капіталістычныя дзяржавы не дадуць сродкаў на сацыялістычнае будаўніцтва. Дзяржбюджэт, дзяржпрамысловасьць і крэдытныя ўстановы выдзяляюць на капітальнае будаўніцтва ўсе тыя сродкі, якія могуць быць скарыстаны з гэтай мэтай. Аднак, сродкаў, якія маюцца ў распараджэньні дзяржавы і яе гаспадарчых органаў—недастаткова для пакрыцьця новых аграмадных затрат, якія зьвязаны з ажыцьцяўленьнем намечаных будаўнічых плянаў.

Па гэтаму са сродкамі, якія можна было-б накіраваць на індустрыялізацыю краіны, Савецкі Урад зварочваецца да працоўных гораду і вёскі, шляхам распаўсюджваньня сярод іх дзяржаўных пазык.

Пазыкі займаюць аграмаднае месца ў дзяржбюджэце. Яны складаюць каля $^1/_3$ тых сродкаў, якія ўкладваюцца праз Дзяржбюджэт у народную гаспадарку.

Для ілюстрацыі таго значэньня, якое маюць зьберажэньні працоўных, якія укладваюцца ў пазыкі, падамо некалькі лічбаў. Удзел прыбыткаў ад пазык у фінансаваньні народнай гаспадаркі па бюджэту ў працягу ўсяе пяцігодкі складае ў сярэднім каля 30 проц., дасягаючы ў апошні год пяцігодкі 30,7 проц. У дзяржаўным бюджэце доля прыбыткаў

ад пазык выяўляецца: у 1928/29 г. у 10,3 проц., у 1929/30 г.—10,4 проц., у 1930/31 г.—павінна быць 10,9 проц., у 1931/32 г.—11,5 проц., у 1932/33 г.—12,3 проц. Удзел БССР у рэалізацыі масавых пазык можна характарызаваць наступнымі дадзенымі:

| | | |
|---|---|---|
| у 1926-27 г. | рэалізавана пазык на | 1807,1 тысяч р. |
| „ 1927-28 г. | „ | 5100,4 „ |
| „ 1928-29 г. | „ | 11209,5 „ |
| „ 1929-30 г. | „ | 17970,7 „ |

Гэткае важнае значэньне дзяржпазык у бюджэтным пляне абумоўлівае ролю кампаніі па пазыцы „Пяцігодка—у чатыры гады“. Посьпех пазыкі будзе азначаць уцягненьне новых сотняў мільёнаў рублёў у сацыялістычнае будаўніцтва для падтрымкі яго хуткіх тэмпаў. Вось чаму гэткае выключнае значэньне партыя і Савецкая Ўлада надаюць новай пазыцы „Пяцігодка—у чатыры гады“.

Рэалізацыя 3-й пазыкі індустрыялізацыі праводзілася ў „год вялікага пералому на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва“. Гэта становішча зьявілася рашаючым у посьпеху кампані. Пазыку „Пяцігодка—у чатыры гады“ мы будзем распаўсюджваць у абставінах, якія характарызуюцца буйнейшымі дасягненьнямі ў розных галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Дастаткова сказаць, што побач з пасьпяховым будаўніцтвам у цяжкай індустрыі, рабочая кляса нашай краіны, абапіраючыся на падтрымку бядняцкіх мас вёскі ў саюзе з серадняком, пад кіраўніцтвам партыі вырашае гэткія пытаньні, як пытаньне аб хлебе. У гэтым годзе саўгасы і калгасы дадуць асноўную частку таварнай хлебнай прадукцыі.

Дасягнутыя посьпехі ня прышлі самацёкам. За іх прыходзілася змагацца. Не самацёкам, а ў выніку напружанай барацьбы і мабілізацыі ўсіх сіл даб'емся мы і далейшых посьпехаў.

Дзяржаўны крэдыт, які ў сваім разьвіцьці не адставаў ад бурных тэмпаў росту народнай гаспадаркі, мае значныя дасягненьні. Але на гэтым мы не павінны супакоіцца; нашы посьпехі павінны быць базай для далейшай арганізаванай і напружанай работы ў справе мабілізацыі працоўных зьберажэньняў і накіраваньні іх на сацыялістычнае будаўніцтва.

Новая пазыка будзе распаўсюджвацца ва ўмовах рэзка абвастрыўшайся клясавай барацьбы. Клясавы вораг у горадзе і ў вёсцы будзе ўсялякім чынам імкнуцца падарваць справу дзяржаўнага крэдыту, скарыстоўваючы для гэтага настроі той нязначнай і найбольш адсталай часткі падпісчыкаў, якая дзе-ні-дзе праявіла нездаволенасьць увядзеньнем грамадзкага кантролю над закладам і продажам аблігацый масавых пазык, як меры, гарантуючай доўгатэрміновасьць пазык. Дапушчаныя на мясцох, пры разьмяшчэньні мінулых пазык, перагібы і скрыўленьні, унёсшыя ў справу разьмяшчэньня пазык адміністрываваньне замест растлумачальнай працы, у гэтую кампанію не павінны мець месца. Па гэтаму, як мага шырэй павінна быць разгорнута агітацыйна-прапагандысцкая работа па новай пазыцы. Асаблівай увагі патрабуе разьмяшчэньне пазыкі ў вёсцы, якая прадаўжае заставацца слабым месцам ва ўсёй нашай рабоце дзяржкрэдыту.

У кампанію разьмяшчэньня 3-й пазыкі індустрыялізацыі на вёсцы мы мелі шэраг недахопаў, якія вынікалі з нячоткасьці работы месц. Арганізацыйная кампанія была пастаўлена дрэнна, контрагентура ў большасьці не інструктавалася, работнікі месц вельмі часта ня ведалі асноўных палажэньняў аб пазыцы, грамадзкія арганізацыі на вёсцы недастаткова дапамагалі кампаніі камісіі садзейнічаньня бязьдзейнічалі, сельсаветы і выканкомы ня малі належнага нагляду за ходам кампаніі і не заўсёды ажыцьцяўлялі кіраўніцтва апошняй. Акрамя таго, кампанія па разьмяшчэньню 3-й пазыкі індустрыялізацыі ня была ўвязана з шэрагам іншых гаспадарча-палітычных кампаній (калектывізацыя, хлебанарыхтоўкі, сельгаспадатак і інш.), у зьвязку з чым яна была адсунута на задні плян.

Паказаныя прычыны вельмі дрэнна адбіліся на тэмпах ходу кампаніі, зацягнулі правядзеньне яе на 6 месяцаў і ў выніку работа не дала належнага эфекту. Пагэтаму, у гэтым годзе, пры разьмяшчэньні на вёсцы пазыкі „Пяцігодка—у чатыры гады“, якая зьяўляецца адзінай пазыкай фінансаваньня сацыялістычнага

будаўніцтва па пяцігадоваму пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі, нізавыя савецкія органы і райвыканкомы павінны забясьпечыць належныя ўмовы яе правядзеньня.

Сельсаветы павінны ахапіць падпіскай на пазыку ўсё сялянства, як калгасьнікаў, гэтак і аднаасобных сялян. У пэрыяд каранной перабудовы сельскае гаспадаркі на каляктыўных пачатках, калгасьнікі, як перадавы атрад вёскі, павінны першымі пайсьці на падтрымку новай пазыкі і напружыць усе свае матар'яльныя і арганізацыйныя сілы для забесьпячэньня яе посьпеху. Сельсаветы павінны правесьці работу па пазыцы сярод калгасьнікаў у першую чаргу і, абапіраючыся на іх пачын, уцягнуць у справу разьмяшчэньня пазыкі ўсё астатняе сялянства. У калгасах, сельскіх прадпрыемствах і ўстановах, а таксама ў вытворчых арцелях і каапэратывах, сельсаветы павінны арганізаваць каляктыўную падпіску. Адначасова сельсаветы арганізуюць разьмяшчэньне пазыкі і сярод паасобных сялян.

Арганізацыйная работа, якая выпадае на сельсаветы, павінна быць выканана ў кароткі тэрмін, так як кампанія заканчваецца 1-га лістапада. Пагэтаму работа павінна праводзіцца ў плянавым парадку, чотка і самым шырокім прыцягненьнем грамадзкасьці. Сельсавет павінен абаперціся ў сваёй рабоце на камісію садзейнічаньня дзяржкрэдыту. Асабовы склад камісіі павінен быць праверany і ўзмоцнены. У кожную вёску павінны быць вылучаны члены камісіі садзейнічаньня, праз якіх будуць падтрымоўвацца сувязь і праводзіцца мерапрыемствы, намечаныя камісіяй.

Неабходна ў нашай агітацыі асабліва падкрэсьліць, што мы ня маем зусім замежных пазык і пагэтаму прымушаны ўсё будаваць з уласных сродкаў. Напэўна гэта будзе зразумела працоўнаму сялянству.

Нашы посьпехі ў галіне калектывізацыі дазваляюць па-новаму ставіць кампанію ў вёсцы. Палягчаецца ахоп пазыкамі калектывізаванага сялянства. Разьмяшчэньне пазыкі сярод асобных сялян дае магчымасьць абапірацца на апорныя пункты ў якасьці калгасаў і саўгасаў. Работа па распаўсюджваньні пазыкі сярод каляктываў рабочых і служачых таксама павінна ісьці па лініі паглыбленай агітацыі і прапаганды дзяржкрэдыту. Неабходна дасканала і яскрава растлумачыць кожнаму рабочаму і служачаму мэты і прызначэньне пазыкі, увязваючы пазыкі з агульнымі задачамі сацыялістычнага будаўніцтва, пяцігадовым плянам і прамфінплянам кожнага асобнага прадпрыемства.

У бюджэты мясцовых саветаў адлічваецца 10 проц. ад той сумы, на якую разьмешчана пазыка на тэрыторыі данага савету. Адлічэньні ад пазыкі ідуць выключна на патрэбы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Саветы павінны забясьпечыць мэтавае выдаткаваньне паказаных адлічэньняў на патрэбы мясцовага гаспадарча-культурнага будаўніцтва. Для таго, каб насельніцтва мела магчымасьць упэўніцца ў тым, што дадзеныя ў пазыку дзяржаве сродкі выдаткоўваюцца на грамадзка-карысныя мэты, у тым ліку і на мясцовыя патрэбы, мэтазгодна дабівацца таго, каб адлічэньні не распыляліся на шматлікія прадметы будаўніцтва, а ішлі-б на якое-небудзь адно будаўніцтва.

Поўная дабраахвотнасьць павінна быць паложана ў аснову распаўсюджваньня пазыкі. Разам з тым падняцьце ўсёй кампаніі на большую вышыню, шырокае разгортваньне вакол яе сац. спаборніцтва на лепшую пастаноўку работы і яе вынікі, будуць належным папярэджваньнем магчымым апартуністычным настроям „самацёку". Чотка наладжаны грамадзкі кантроль, добрая работа камісіі садзейнічаньня дзяржкрэдыту і ашчадсправе, уважлівыя іх адносіны да сапраўдных патрэб пазыкатрымальнікаў, растлумачэньне неабходнасьці захаваньня доўгатэрміновасьці пазык для дзяржавы на кожным асобным прыкладзе, сац. спаборніцтва на пагалоўны ахоп падпіскай, бесьперабойная работа фінансава-крэдытнага апарату—вось моманты, якія павінны быць паложаны ў аснову для забесьпячэньня посьпеху кампаніі.

Побач з абставінамі, ускладняючымі работу па распаўсюджваньні пазыкі „Пяцігодка—у чатыры гады", маюцца і шэраг фактаў, вучот і правільнае скарыстаньне якіх павінны значна палепшыць правядзеньне гэтай кампаніі. Пры кож-

ным прадпрыемстве і ўстанове, пры кожным сельсавеце, калгасе, саўгасе і г. д. маюцца зараз камісіі садзейнічаньня Дзяржкрэдыту і ашчадсправе. Тысячы членаў гэтых камісій зьяўляюцца зараз актывам, які блізка стаіць да падпішчыка, ведае яго запатрабаваньні. Ад іх работы ў асноўным залежыць зараз посьпех новай пазыкі. Дапамагчы гэтаму актыву і сумець абаперціся на яго работу—азначае надаць справе разьмяшчэньня пазык размах сапраўдна масавай работы.

Аграмадная роля ў справе пасьпяховага правядзеньня кампаніі ў значнай ступені будзе залежыць ад кіраўніцтва кампаніяй з боку мясцовых выканкомаў і саветаў. Выканкомы і саветы, якім належыць кіраваньне ажыцьцяўленьнем рознага роду мерапрыемстваў Ураду, павінны забясьпечыць штодзенны нагляд у кіраваньні ходам кампаніі, маючы яе ў цэнтры сваёй увагі. Толькі шляхам дакладнай арганізацыі работы, шырокім скарыстаньнем энтузіязму шырокіх працоўных мас і дапамогі грамадзкасьці, мы даб'емся пасьпяховых вынікаў кампаніі, што ў сваю чаргу будзе дапамагаць пасіленьню дасягнутых тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва і ажыцьцяўленьню лёзунга выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

**В. Мікуліч.**

## Новы атрад савецкіх будаўнікоў вёскі

*(Да выпуску курсаў жанчын старшынь с/с)*

15-га жніўня скончылі сваю працу 2-х месячныя курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы жанчын старшынь с/с.

З ліквідацыяй акруг, калі галоўнай кіруючай адзінкай зьяўляецца раён, роля задачы і значэньне сельскіх саветаў надзвычайна ўзрасьлі. Сельскі савет зараз, як ніколі, павінен будзе ўзяцца за перабудову гаспадаркі, сацыяльных узаемаадносін і быту, за ўздым культурнага ўзроўню шляхам умелай арганізацыі самадзейнасьці і ініцыятывы працоўных.

Старшыня сельсавету павінен быць асабліва моцным, добра ведаючым сучасныя задачы партыі і ўмеючы праводзіць іх у жыцьцё.

Курсы імкнуліся падрыхтаваць кадры кіраўнікоў сельсаветаў. З гэтага боку курсы мелі вялікае практычнае значэньне, але яны мелі і вялікае палітычнае значэньне, бо падрыхтоўвалі для кіраваньня дзяржавай раней забітых, бяспраўных і прыгнечаных, а зараз ужо апраўдаўшых сябе на грамадзкай і савецкай рабоце працоўных жанчын.

Курсы разьлічаны былі на 60 асоб, але зьявілася толькі 53, бо ня выканалі нормы прысылкі Магілеўская, Мазырская і Менская акругі.

З 53 зьявіўшыхся на курсы жанчын 35 асоб ужо працавалі старшынямі, або сакратарамі сельсаветаў, астатнія проста сябры прэзыдыуму с/с альбо сябры с/с, якіх надалей меркавалі скарыстаць на кіруючай с/савецкай працы.

Сярод курсантак 27 сяброў калгасаў і саўгасаў, 24 сябры і кандыдаты КПБ і 10 камсамолак. Па нацыянальнасьці пераважалі беларускі (42), бо адначасова з гэтымі курсамі існавалі асобна нацыянальныя польскія і літоўска-латыскія курсы.

Праграма курсаў канцэнтравалася навокал сучасных задач партыі і савецкай улады на вёсцы. Галоўная ўвага была зьвернута на распрацоўку пастаноў 13 зьезду КПБ і 16-га зьезду УсеКП.

Дасканала прапрацаваны пытаньні нацпалітыкі партыі і Кастрычнік на Беларусі. Вялікая ўвага была зьвернута на распрацоўку задач савецкага будаўніцтва і культурна-масавай дзейнасьці саветаў.

Улічваючы слабую палітычную і агульна-адукацыйную падрыхтаванасьць курсантак на курсах, распрацоўваліся асноўныя пытаньні гісторыі партыі, савецкай канстытуцыі, а таксама і белмова і арытмэтыка.

Асноўная частка курсантак надзвычайна ўважліва адносілася да працы курсаў, імкнуўшыся ўзяць ад іх максымальна мажлівыя веды. Праграма курсаў поўнасьцю была выканана і ў асноўным

усвоена курсанткамі. Гэтаму садзейнічала некалькі момантаў:

1) Бесьперабойная праца курсаў.

2) Уважлівасьць курсантак.

3) Добры падбор выкладчыкаў (адказныя работнікі ЦК КПБ, ЦВК і студэнты апошніх курсаў Камвузу і БДУ).

4) Актыўныя мэтады працы. Лекцый было мала і пасьля іх курсанткі самастойна распрацоўвалі кожнае пытаньне.

5) Забясьпечаньне падручнікамі і літаратурай. Кожнай курсантцы закуплена была невялічкая бібліатэка, куды ўваходзілі матар'ялы апошніх зьездаў партыі, гісторыі партыі, канстытуцыя, матар'ялы па нацпытаньню і шэраг брашур па розных галінах працы сельсаветаў. Акрамя таго, кожнай курсантцы былі выпісаны творы Леніна на беларускай мове.

6) Для адстаючых праводзіліся дадатковыя заняткі настаўнікамі і, акрамя таго, адстаючыя прымацоўваліся да больш моцных таварышоў.

Працоўны дзень курсантак складаўся з 6-ці гадзін, а ў астатні час курсанткі займаліся самастойнай распрацоўкай вывучаемага матар'ялу.

Акрамя вучэбных заняткаў праведзен быў шэраг экскурсій на фабрыкі і заводы (завод „Бальшавік", ф-ка „Акцябр" і друкарня), дзе курсанткі знаёміліся з вытворчасьцю і са становішчам рабочых, а таксама ў навукова-дасьледчыя ўстановы: сьвінаводную, бульбяную, балотную станцыі і навукова-дасьледчы інстытут.

Курсанткі знаёміліся і з Усебеларускай выстаўкай.

З боку культабслугоўваньня курсы забясьпечаны былі дастатковай колькасьцю газэт і літаратуры. Сыстэматычна курсанткі наведвалі кіно, некалькі разоў былі ў тэатры і нават у цырку.

Матар'яльна курсанткі цалкам забясьпечваліся ЦВК харчаваньнем, рознымі падручнікамі і прыладамі. Курсы каштавалі больш за 11 тысяч рублёў.

Усе недахопы ў працы курсаў, пляны і праграмы абгаварваліся на курсавых сходах. Усяго было праведзена 5 сходаў, дзе курсанткі надзвычайна актыўна абгаварвалі ўсе недахопы, якія потым выпраўляліся. На курсавых сходах выказвалася па 25—30 курсантак.

Галоўнымі цяжкасьцямі ў працы курсаў былі:

1) Надзвычайна слабая падрыхтаванасьць курсантак, бо шмат з іх скончылі толькі лікпункты, альбо маглі толькі напісаць сваё прозьвішча, а астатнія большасьці скончылі 2—3 клясы вясковай школы.

2) Спазьненьне на курсы. Курсанткі зьбіраліся на працягу 2-х тыдняў і, па колькі праца на курсах ішла, спазьніўшымся было цяжка даганяць папярэдніх.

На выпускным вечары курсанткі адзначалі, што курсы далі ім надзвычайна многа карыснага і неабходнага для працы сельсаветаў. Яны запэўнялі партыю і ўладу, што сродкі, патрачаныя на курсы, не прападуць дарэмна, што яны будуць апраўданы скончыўшымі курсы на практычнай працы па сацыялістычнаму будаўніцтву пры правядзеньні дырэктыў партыі і ўлады ў жыцьцё.

Усе скончыўшыя курсы будуць скарыстаны на кіруючай працы сельсаветаў, а таксама частку з іх можна будзе высунуць і на раённую працу. Весткі з месц гавораць аб тым, што з тых курсантак, якія да курсаў былі толькі сябрамі сельсаветаў, зараз ужо частка працуе старшынямі апошніх.

Неабходна будзе зьвярнуць належную ўвагу на высоўваньне больш працаздольных жанчын, скончыўшых курсы, на адказную працу.

У асноўным курсы сябе, бязумоўна, апраўдалі, яны далі неабходныя веды для вялікай адказнай працы сучасным і будучым кіраўнікам сельсаветаў. Курсы навучалі курсантак разьбірацца ў матар'ялах, чытаць кніжкі і разумець прачытанае.

Задачы курсантак і надалей, паглыбляючы свае веды, праводзіць іх ў жыцьцё.

**Воранава.**

# Да вынікаў праверкі сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права

Як вядома, перагібы, што былі дапушчаны на мясцох пры першай масавай хвалі калгаснага руху ў канцы мінулага і пачатку гэтага году, зьявіліся аднача-сова і крыніцай буйнейшых перагібаў у галіне выбарчага законадаўства.

Скажэньне партыйнага лёзунгу аб ліквідацыі кулацтва, як клясы на грунце суцэльнай калектывізацыі ў выглядзе ужываньня ў дачыненьні серадняка палітыкі, што праводзіцца партыяй у дачыненьні кулацтва, у выглядзе дапаўненьня гэтага лёзунгу, калі не ў фіксаваных пастановах і дакумэнтах, то ў практыцы, лёзунгам ліквідацыі нэпа і капіталістычных элемэнтаў наогул. Так можна у агуле ахарактарызаваць тыя перагібы, што мы мелі ў шэрагу месц з пазбаўленьнем выбарчых правоў. Таму кіруючыя органы партыі і савецкай улады асабліва рашуча ўдарылі па нарушэньнях выбарчага заканадаўства, даўшы спэцыяльныя катэгарычныя дырэктывы аб зьнішчэньні гэтых парушэньняў.

„Праверыць сьпісы раскулачаных і пазбаўленых выбарчых правоў і безадкладна выправіць у гэтай галіне памылкі ў адносінах да сераднякоў, былых чырвоных партызанаў і членаў сем'яў вясковых настаўнікаў і настаўніц, чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў (шэраговых і камандных)“, і далей:

„Працаўнікоў, якія ня ўмеюць ці не жадаюць павесьці рашучай барацьбы са скрыўленьнямі партыйнай лініі, звальняць з пасад і заменьваць на іншых“.

Так паставіла пытаньне ЦК Усе КП у сваёй пастанове аб барацьбе са скрыўленьнямі партлініі ў калгасным руху.

ЦВК Саюзу ССР у сваёй пастанове ад 22 сакавіка адзначыў, што:

„цьвёрдае і няўхільнае прыстасаваньне выбарчага законадаўства Саюзу ССР і Саюзных Рэспублік у адносінах непрацоўных элемэнтаў ня можа мірыцца з дапушчэньнем практыкі няправільнага пазбаўленьня выбарчых правоў грамадзян, якія не падлягаюць пазбаўленьню гэтых правоў, згодна законадаўства Саюзу ССР“.

Апрача таго, у памянёнай пастанове ЦВК Саюзу ССР сказана: „растлумачыць, што мерапрыемствы Савецкага ураду, накіраваныя на абмежаваньне кулацкіх гаспадарак на вёсцы, ці ліквідацыю кулацтва ў раёнах суцэльнай калектывізацыі не распаўсюджваюцца на асоб, пазбаўленых выбарчых правоў не па прызнаку прыналежнасьці іх да кулацкай гаспадаркі“.

На падставе гэтых дырэктыў Прэзыдыум ЦВК БССР у сваёй пастанове ад 17 красавіка г. г. даручыў саветам і выканкомам у працягу 3-х месяцаў скласьці спэцыяльныя камісіі і праверыць сьпісы усіх пазбаўленых выбарчага права асоб у адпаведнасьці з вышэй пададзенымі дырэктывамі, зьнішчыць усе дадатковыя абмежаваньні гэтых асоб, падыходзіць асабліва ўважліва да местачковай яўрэйскай беднаты, вымушанай у мінулым стаць на шлях дробнага гандлю, а таксама моладзі—членаў сем'яў пазбаўленцаў, перашоўшых да грамадзка-карыснай працы.

На падставе дадзеных дырэктыў і ў іх ажыцьцяўленьне гарсаветы, акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты ў працягу красавіка, мая і чэрвеня месяцаў гэтага году, праз спэцыяльна створаныя для гэтай мэты камісіі праверылі ўвесь кантынгент пазбаўленых выбарчага права.

Як-жа праведзена была гэта надзвычайна важная палітычная работа, што яна выявіла і якія дала вынікі?

У асноўным, бязумоўна, праведзена аграмадная работа, дзякуючы якой выяўлен шэраг грубейшых парушэньняў выбарчага законадаўства, цалкам пацьвердзіўшых неабходнасьць ужытых партыяй і ўрадам у гэтым напрамку мер і меўшыя месца скрыўленьні зьнішчаны.

Досыць сказаць, каб гэта давесьці, што па БССР спэцкамісіямі праверана пэрсанальна звыш 100 тысяч асоб пазбаўленых выбарчага права, з якіх каля 23 тысяч (22,8%) у выбарчых правах адноўлена.

Хто-ж яны гэтыя адноўленыя? 57,9%— большая палова з іх—гэта пазбаўленыя па адзнацы знаходжаньня ў мінулым на

утрыманьні асоб, пазбаўленых выбарчага права і перашоўшыя да грамадзка-карыснай працы.

Наступнай найбольш шматлікай катэгорыяй сярод адноўленых—39,6% зьяўляюцца пазбаўленыя, „як ужываючыя наёмную сілу з мэтай набыцьця прыбытку“. Сюды уваходзяць пераважна серадняцкія гаспадаркі, залічаныя няправільна ў кулацкія і абкладзеныя с/г. падаткам у індывідуальным парадку.

І трэцяй буйной групай сярод адноўленых—31,5% зьяўляюцца пазбаўленыя пад рубрыкай „сучасныя і былыя гандляры і пасрэднікі“. Гэта група адноўленых галоўным чынам складаецца з бяднейшага яўрэйскага насельніцтва, якое ў мінулым займалася дробным гандлем па патэнтах І і ІІ разрадаў, апошнія год, два і больш як з ранейшымі заняткамі парвала і перайшло да грамадзка-карыснай працы ў сельскай гаспадарцы, дзяржаўнай і самагужнай прамысловасьці. Гэтыя лічбы зноў яскрава паказваюць, наколькі праверка была неабходна і наколькі правільна ў дырэктывах Ураду і партыі былі падкрэсьліны тыя вучасткі, дзе асабліва было шмат перагібаў і недарэчнасьцяй.

Да чаго даходзілі часам парушэньні выбарчага законадаўства, лепш за ўсё прасачыць на прыкладзе паасобных акруг і раёнаў. Напрыклад, па Аршанскай акрузе з 6888 пазбаўленых як кулакі, абкладзеныя ў індывідуальным парадку, адноўлена 2155, што складае 56% усіх адноўленых у парадку праверкі па акрузе, а з пазбаўленых 2646 асоб, як гандляры і пасрэднікі, адноўлена 1052, што складае 27% у стасунку да усіх адноўленых, альбо каля 40% усіх пазбаўленых на гэтай адзнацы.

Па Менскай акрузе ў сьпісах аказаліся глуханямыя.

Па Магілеўскай акрузе выяўлены выпадкі пазбаўленьня сэктантаў. Заносіліся ў сьпісы пазбаўленых асобы, якіх яшчэ с/с толькі меў на ўвазе абкласьці індывідуальна ў будучую падатковую кампанію.

Сярод адноўленых па Аршанскай акрузе аказаліся пазбаўленыя за... адмаўленьне уступіць ў калгас! (5 выпадкаў у Баеўскім с/савеце Ляднянскага р. і 1—у Рыдамльскім с/с Талачынскага раёну). І гэта ўжо шмат часу пасьля ўсіх катэгарычных дырэктыў аб выпраўленьні перагібаў пры калектывізацыі. (Спэцыяльныя камісіі па праверцы пачалі працаваць у канцы красавіка).

Шмат было пазбаўленых, як служыцелі рэлігійных культаў у той час, калі яны зьяўляюцца царкоўнымі старастамі, ці нават толькі пелі ў царкоўным хоры. (Чарэйскі, Ляднянскі, Аршанскі, Горацкі і Талачынскі раёны).

Калі па ўсёй Аршанскай акрузе процант адноўленых у парадку праверкі вышэй сярэдня-рэспубліканскага і дасягае 30, то ў паасобных раёнах акругі ён даходзіць да 40,7 (Кoханаўскі), 46,1 (Крупскі) і рэкорд пабіў Дубровенскі раён, у якім прышлося аднавіць, як няправільна пазбаўленых, 54,2%.

Па Гомельскай акрузе процант адноўленых у парадку перагляду яшчэ вышэй, чым па Аршанскай—33%, у паасобных-жа раёнах Гомельшчыны адноўлена 42% (Гомельскі), 49% (Уваравіцкі) і ўсерэспубліканскі рэкорд пабіў Чачэрскі раён, дзе адноўлена 70 проц. усіх пазбаўленых. Што парушэньні ў гэтых раёнах ішлі галоўным чынам па лініі ўтрыманцаў, відаць з таго, што з усіх пазбаўленых па гэтай адзнацы адноўлена у Гомельскім р.—68%, у Уваравіцкім—78% і у Чачэрскім—70%.

Такі вялікі процант адноўленых тлумачыцца тым, што пазбаўлялі па матывах, нічога агульнага з інструкцыяй аб выбарах у Саветы ня маючых. Напрыклад: „за зрыў сходаў“ (Рэчыцкі і Гомельскі р.р.), членаў сем'яў асоб, пазбаўленых па суду, альбо сем'яў б. паліцэйскіх, якія займаюцца зараз вытворчай працай і г. д. У Чачэрскім раёне быў пазбаўлен выбправоў за бацьку, які памёр 9 гадоў таму назад, яго сын. У Веткаўскім раёне, як утрыманец гандляра пазбаўлен быў серадняк, што з 1918 г. займаецца земляробствам; таксама пазбаўлен быў другі серадняк, які пакінуў гандляваць яшчэ ў 1915 г.

Па Віцебскай акрузе з 1672 адноўленых 1076 было пазбаўлена, як утрыманцы.

Па Менскай акрузе (без Менскага гарсавету) з 4022 адноўленых 2134 было пазбаўлена па адзнацы ўжываньня наёмнай сілы. Па гораду-ж Менску пера-

важная частка адноўленых ідзе за лік былых дробных гандляроў 412 з 696. Гэткія-ж прыблізна суадносіны нагляда-юцца і ва ўсіх іншых акругах, напрыклад, па Полацкай акрузе з 1297 адноўленых па раёнах 661 было пазбаўлена за ўжываньне наёмнай працы, а па гораду Полацку 447 з 598 адноўленых было пазбаўлена за гандаль.

Апрача выпадкаў няправільнага пазбаўленьня выбарчых правоў, праверкай выяўлена, што амаль нідзе сьпісы пазбаўленых не вядуцца належным парадкам. Ніякіх адзнак прыбываючых і выбываючых няма, чаму нярэдка ў сьпісах аказваліся асобы, даўно пакінуўшыя тэрыторыю данага раёну, ці акругі. Таксама ў большасьці выпадкаў не аказалася патрэбных дакумантаў, якія служаць паводле арт. 41 інструкцыі падставай для пазбаўленьня выбарчых правоў.

У гэтым сэнсе спэцкамісіямі праароблена вялізарная праца, у выніку якое ня толькі адноўлены няправільна пазбаўленыя, але і абгрунтавана дакумэнтальна пазбаўленьне тых, што аднаўленьню не падлягалі.

Былі пэўныя недахопы і у самой рабоце спэцкамісій, асабліва спачатку. У частцы раёнаў і акруг (Мазыр, Магілеў, Віцебск) праца спэцкамісій своечасова не распачалася і ня скончылася.

Важнейшым недахопам у рабоце спэцкамісій трэба лічыць, што навакол такой надзвычайна сур'ёзнай палітычнай справы, як праверка складу асоб, пазбаўленых выбарчага праву, ня была мабілізавана належным чынам савецкая грамадзкасьць. Малы удзел у рабоце спэцкамісій прымала бедната. Ход і вынікі праверкі па акругах і раёнах амаль не асьвятляліся ў друку.

З Магілеўскай акругі нам паведамляюць, што дырэктывы аб зьнішчэньні парушэньняў выбарчага законадаўства ў частцы адмены дадатковых абмежаваньняў па лініі Белкаапсаюзу і дагэтуль ня выкананы. Белкаапсаюз ня даў Магілеўскаму Ц.Р.К. ніякіх паказаньняў, якім катэгорыям пазбаўленцаў можна даваць заборныя кніжкі, і вось Магілеўскі ЦРК вырашыў пытаньне вельмі арыгінальна: заборныя кніжкі выдаюцца тым, хто на сваё пазбаўленьне падаў скаргу!

Наколькі грунтоўна праведзена праверка, сьведчыць зусім нязначны лік задаволеных акруговымі спэцыяльнымі і цэнтральнай выбарчай камісіямі скарг на пастанове ніжэйшых спэцкамісій. Гэта дае падставу быць упэўненымі, што дырэктывы партыі і ўраду аб выпраўленьні парушэньняў выбарчага законадаўства, ня гледзячы на паасобныя хібы, выкананы і ў асноўным ня дрэнна. **А. Баркан.**

## Аб мэтах і задачах інфармацыі ў райвыканкомах

(*У парадку абгаварэньня*)

Ліквідацыя акруг у значнай ступені павысіла палітычную і культурна-гаспадарчую ролю і значэньне раённых выканаўчых камітэтаў. На раён зараз ускладаюцца вельмі вялікія палітычныя, пляновыя, арганізацыйныя, гаспадарчыя і культурныя задачы.

Ліквідацыя акруг паставіла задачу рэарганізацыі структуры апарату раённых выканаўчых камітэтаў і рацыяналізацыі мэтадаў і тэхнікі работы асобных аддзелаў і частак. Райвыканком зараз зьяўляецца арганізуючым, плянуючым і кіруючым цэнтрам усімі комплексамі палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцьця раёну.

Асабліва важнае значэньне ў сучасных умовах работы райвыканкомаў мае інфармацыя. Між іншым, гэта работа знаходзіцца ў надзвычайна нездавальняючым становішчы ня толькі ў райвыканкомах, але ў былых і існуючых яшчэ акрвыканкомах, ня гледзячы на тое, што ў апошніх па гэтай галіне работы маюцца спэцыяльныя работнікі. Усё гэта тлумачыцца тым, што акрвыканкомы інформацыі недастаткова зьвярталі увагі, а ў райвыканкомах яна адсутнічала. Між тым правільная і рацыянальная пастаноўка інфармацыі можа зьявіцца сродкам, дапамагаючым палепшаньню якасьці савецкага кіраўніцтва і магутным аруж-

жам дапамогі па сваечасоваму заўважваньню, папярэджаньню і выпраўленьню памылак у рабоце нізавога савецкага апарату, а таксама органам вучоту і асьвятленьня ўсіх станоўчых момантаў работы, выяўленьня ўзорнай пастаноўкі яе і ўтварэньне ўзаемнага абмену вопытам паміж РВК, гарсаветамі і сельсаветамі.

Якія мэты і задачы інфармацыі? Асноўнымі мэтамі інфармацыі зьяўляецца:

1. Сваячасовае асьвятленьне ўсіх кіруючых пастаноў і матар'ялаў вышэйстаячых дырэктыўных органаў, а таксама і сваіх пастаноў пленумаў, прэзыдыумаў, сэкцый, камісій і кіруючага складу апарату.

2. Глыбокі аналіз вывучэньня і асьвятленьне ўсіх момантаў і фактаў практычнай работы райвыканкому ў цэлым, яго аддзелаў і частак, сельсаветаў і іншых органаў.

Да галоўных задач інформацыйнай работы адносіцца:

а) распрацоўка пэрыядычных тэматычных сводак і справаздач, адбіваючых чарговыя і найбольш актуальныя пытаньні і заданьні, як плянава-гаспадарчай работы, так і па асобных кампаніях (калектывізацыя, пасеўкампаніі, хлебанарыхтоўкі, перавыбары саветаў, рэалізацыя пазык і г. д., і г. д.);

б) асьвятленьне недахопаў у рабоце асобных сельсаветаў і іншых устаноў, а таксама сваячасовае інфармаваньне прэзыдыуму і паасобных кіруючых работнікаў аб прынятых адпаведнымі органамі мерах для зьнішчэньня гэтых недахопаў;

в) інфармаваньне вышэйшых органаў улады па розных пытаньнях арганізацыйна-гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва раёну;

г) інфармаваньне шырокіх пластоў працоўных праз мясцовы і цэнтральны друк аб становішчы розных галін работы і будаўніцтва, а таксама аб важнейшых мерапрыемствах, накіраваных да палепшаньня дабрабыту раёну і мерапрыемстваў, закранаючых інтарэсы працоўнага насельніцтва;

д) прапрацоўка тэзысаў да розных зьездаў, конфэрэнцый, нарад і г. д. і складаньне справаздач і дакладаў аб рабоце РВК, абслугоўваньне усіх аддзелаў, частак і інспэкцый усімі інфармацыйнымі, літаратурнымі і іншымі матар'ялямі і г. д.

Вось асноўныя мэты і задачы, якія стаяць перад інфармацыяй.

Пасьпяхова выканаць гэтыя задачы інфармацыя зможа толькі тады, калі яна будзе пабудавана на прынцыпах суровай плянавасьці і непасрэднай сувязі з усімі ўстановамі і арганізацыямі і будзе мець для гэтага спэцыяльных работнікаў-інфарматараў. Але мы зараз стаім перад фактам, калі на гэтай галіне работы ў райвыканкомах спэцыяльных работнікаў няма.

Надаючы вельмі вялікае значэньне інфармацыйнай рабоце, я лічу, што ў райвыканкомах неабходна ўстанавіць сталую адзінку інфарматара, як гэта, напрыклад, зроблена ў паўночна-каўкаскім краю, з тым, каб гэту работу паставіць на належную ступень вышыні, маючы таксама на ўвазе, што неналаджанасьць інфармацыйнай работы ў РВК будзе адбівацца на гэтай галіне работы ў ЦВК, СНК і іншых цэнтральных установах.

Па гэтым пытаньні лічу неабходным на старонках „Саветы Беларусі" выказаць думку работнікаў РВК, якія маюць непасрэднае дачыненьне да інфармацыі.

П. Ягаудзік.

**Барацьба за пісьменнасьць ёсьць барацьба за прамфінплян, за калгасны плян.**

# Саветы—у барацьбу за грамату

Задачы сацыялістычнай рэканструкцыі нашае народнае гаспадаркі рашуча паставілі перад намі неабходнасьць у тэрміновым парадку ліквідаваць няпісьменнасьць сярод працоўных.

16 Парт. Зьезд зазначыў, што ліквідацыя няпісьменнасьці ў сыстэме нашай культработы павінна заняць адно з галоўнейшых месц.

Ва умовах Беларусі тэмп работы па ліквідацыі няпісьменнасьці ў мінулыя гады быў ня зусім дастатковы. Пытань-

нем практычнай ліквідацыі няпісьменнасьці ў пераважнасьці займаліся настаўнікі. Рэшта ліквідатараў былі вучні і студэнты, якія прыцягваліся да гэтай справы ў парадку грамадзкасьці.

Культ. паход, які распачаўся ў 1928 г. па ініцыятыве камсамолу, зрабіў значны зрух і ў рабоце лікпунктаў, але ўздым у рабоце лікпунктаў быў толькі часовым, а потым зноў гэта работа ўскладалася на настаўнікаў і яны цягнулі лямку па пратаронный імі-жа сьцежцы. Прафэсійная і непрацоўная грамадзкасьць заставалася ў баку ад работы лікпунктаў. У лепшым выпадку выдавалі некаторую суму сродкаў на патрэбы лікпунктаў і на гэтым спынялася іх дапамога.

Сама работа лікпунктаў праходзіла без актыўнага ўдзелу грамадзкасьці. Усе лічылі, што гэтай справай трэба займацца органам Н. К. А. і Т-ву „П. Н."

Калі зараз мы паставілі перад сабой задачу закончыць ліквідацыю няпісьменнасьці сярод дарослага працоўнага насельніцтва ў Беларусі, на працягу двух год, то гэта значыць, што нам трэба адмовіцца ад тых мэтадаў работы, якімі мы карысталіся ў мінулыя гады, нам трэба мабілізаваць усю волю працоўных на гэтую справу, разьлічваючы не на бюджэтныя асыгнаваньні, а на актыўны ўдзел грамадзкасьці, тады мы зможам выканаць тую дырэктыву, якая дадзена нам Партыяй і Савецкай Уладай.

Справа перавыхаваньня тысячы працоўных, якія зараз ня змогуць прыняць актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве дзякуючы сваёй няпісьменнасьці, ёсьць справа саміх працоўных. Там, дзе за справу возьмуцца масы, посьпех забясьпечаны, а гэтым пытаньнем, пытаньнем мабілізацыі працоўных мас на справу разгортваньня культ. паходу мы і павінны заняцца безадкладна.

### Хто-ж павінен займацца арганізацыяй справы ліквідацыі няпісьменнасьці?

Як я вышэй адзначыў, што ліквідацыя няпісьменнасьці была справа раённага Інспэктара Народнае Асьветы і Старшыні Т-ва П. Н., пры чым як адзін, так і другі гэтаму пытаньню адводзілі не дастаткова ўвагі, бо былі заняты шмат якімі справамі апрача гэтай. Арганізацыя лікпунктаў, практычная работа ўскладалася на настаўніка, а роля Інспэктара і Старшыні Савету ПН звадзілася да задавальненьня падручнікамі і сшыткамі і то несваячасова і не заўсёды ў дастатковай меры. Сельскія Саветы, якія, здавалася, павінны былі знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з лікпунктамі на тэрыторыі с/с, як агульнае зьявішча, знаходзіліся ў баку. Утвораныя камісіі садзейнічаньня пры с/с у мінулым 1929 г. таксама не разгарнулі практычнай дзейнасьці і прымушаны былі спыніць сваё існаваньне нават не распачаўшы работы.

Калі мы паставілі пытаньне, ці была практычная работа для камісіі садзейнічаньня пры с/с, то трэба зазначыць, што практычная работа была і ёсьць, але-ж сельсаветы не змаглі і не жадалі зьвязываць сваей практычнай работы з работай лікпунктаў. У выніку меўся адрыў лікпунктаў ад жыцьця с/с, яны існавалі пад апекай настаўніка, а сельсавет быў мачыхай для іх. Такое зьявішча, досыць шкоднае, павінна быць зьнішчана.

Нам трэба дамагчыся таго, каб сельскі савет зьявіўся кіраўніком і застрэльшчыкам актуальнай на сёнешні дзень справы—ліквідацыі няпісьменнасьці.

Сельсавет павінен зьявіцца плянуючым, кіруючым і ажыцьцяўляючым кантроль над ліквідацыяй няпісьменнасьці органамам. На практыцы мы маем як агульнае зьявішча, што с/саветы стаяць у баку ад работы лікпунктаў. Лепшым паказчыкам гэтага зьяўляюцца такія факты, як нескарыстаньне асыгнаваных сродкаў па каштарысам на ліквідацыю няпісьменнасьці. Вядома, што ў далейшым такое зьявішча, як нескарыстаньне сродкаў для падтрыманьня гэтай ініцыятывы мас, зьяўляецца злачынствам.

Саветы канкрэтна змогуць правесьці наступную работу:

Пры саветах утвараюцца камісіі па ліквідацыі няпісьменнасьці. Саветам павінна належыць непасрэдная кіруючая роля ў гэтых камісіях. Саветам неабходна наладзіць сыстэматычны кантроль за выкананьнем усімі арганізацыямі дырэктыў, якія дае камісія.

Саветы павінны ў поўнай меры забясьпечыць бюджэтнымі асыгнаваньнямі сетку лікпунктаў на падставе пастановы ЦВК і СНК, адначасова прыцягнуць у максы-

мальнай ступені да практычнай работы і грамадзкія арганізацыі, бо толькі бюджэтнымі сродкамі правесьці поўную ліквідацыю няпісьменнасьці сярод дарослага працоўнага насельніцтва нам будзе цяжка. Грамадзкасьць павінна быць выкарыстана для арганізацыйнай, мэтадычнай і палітасьветнай работы з няпісьменнымі і малапісьменнымі грамадзянамі.

У зьвязку з павялічэньнем асыгнаваньняў на ліквідацыю няпісьменнасьці перад саветамі паўстае задача заняцца пытаньнем своечасовага водпуску сродкаў на патрэбы лікпунктаў, скарыстаньне іх па прызначэньню. На пасяджэньнях Прэзыдыума с/с сыстэматычна заслухоўваць справаздачы аб ходзе ліквідацыі няпісьменнасьці на тэрыторыі с/с.

Калі мы ставім пытаньне аб шпаркім тэмпе ліквідацыі няпісьменнасьці, то ня трэба выпушчаць з нагляду с/савета такога моманту як увязка работы лікпунктаў з работай усіх палітасьветных устаноў. Гэта патрэбна таму, што на адным тэхнічным навучаньні мы ня зможам на доўгі час затрымаць няпісьменнага грамадзяніна, яго трэба арганізаваць навокал лікпункта і гэта магчыма зрабіць толькі пры ўмове. калі будзе ўвязка палітычна-асьветнай работы з ліквідацыяй няпісьменнасьці, будзе даказана няпісьменнаму праз палітыка-асьветную работу карысьць граматы; бо ад праводзімай палітасьветнай работы будзе залежыць посьпех камплектаваньня лікпунктаў, пасьпяховасьць самой работы лікпунктаў. Само навучаньне ў лікпунктах трэба прасякнуць палітычным зьместам, увязаць яго з штодзенным жыцьцём працы, то дасягнуць магчыма толькі тады, калі ў нас будуць мабілізаваны хатычытальні, чырвоныя куткі, школы на дапамогу лікпунктам у іх рабоце.

Цяпер аб клясавасьці ў рабоце лікпунктаў Пастанова ЦВК досыць выразна падкрэсьлівае аб ліквідацыі няпісьменнасьці ў першую чаргу сярод ударных груп (рабочых, батракоў, беднаты, дэлегатаў і калгасьнікаў), удзел якіх у сацыялістычным будаўніцтве асабліва каштоўны..

На практыцы мы мелі ў мінулым годзе зусім адваротныя моманты (асабліва вясковых): навучалася значная колькасьць лішэнцаў (Бабруйская акруга) і мала было ўцягнута батракоў.

Прычыны такога зьявішча ў асноўным караняцца ў наступным: 1) недаацэніваецца палітычнае значэньне работы па ліквідацыі няпісьменнасьці і ў першую чаргу гэтую хібу трэба аднесьці да саветаў і органаў НКА па мясцох. Як вынік недаацэнкі палітычнага значэньня ліквідацыі няпісьменнасьці магчыма назіраць выпадкі агульнага падыходу да ліквідацыі няпісьменнасьці без дастаткова выяўленага і рашуча праводзімага курса на абслугоўваньне лікпунктамі ў першую чаргу пралетарыяту, беднаты, батрацтва. 2) Падмен палітычнага значэньня кампаніі ліквідацыі няпісьменнасьці ўзроставым пытаньнем таксама давала магчымасьць засьмечваць лікпункты клясававарожным нам элемэнтам. 3) Само навучаньне не заўсёды было ідэалёгічна вытрыманым дзякуючы адсутнасьці ўвязкі работы лікпункта з бягучым палітычным жыцьцём краіны.

Перад Саветамі паўстаюць наступныя задачы:

а) Забясьпечыць бюджэтнымі асыгнаваньнямі патрэбы лікпунктаў.

б) Своечасова рабіць водпуск сродкаў для патрэб лікпунктаў.

г) Сэкцыі Саветаў павінны паклапаціцца своечасова аб падрыхтоўцы кадраў, задавальненьні падручнікамі і памяшканьнямі.

д) Увязаць работу лікпунктаў з масавай палітычна-асьветнай работай устаноў.

Мухін.

---

**Паставім культурную армію на службу індустрыялізацыі і калектывізацыі!**

**На парозе 3-га году пяцігодкі абвесьцім культурную армію мабілізаванай да канца, да апошняе бойкі за ўсеагульную пісьменнасьць у краіне саветаў.**

# Органы „Загс“ на Полаччыне

Органы ЗАГС, выконваючыя даволі адказную і ганаровую задачу па вучоту і запісу актаў грамадзкага стану і закліканыя адначасова весьці дзейнасьць асьветнага характару, накіраваную на зжываньне старых форм быту, сямейнага ўкладу і царкоўных забабон, знаходзяцца амаль у аднолькавых умовах ва ўсей Беларусі.

Гэта пацьвярджаецца пастановай ЦВК БССР ад 11/V 1930 г., дзе адзначаны дасягненьні і недахопы органаў ЗАГС, характэрныя для гэтых органаў амаль ва ўсіх мясцовасьцях.

Таму можна лічыць, што цяжкасьці і недахопы, якія зазначаюцца ў гэтай галіне на Полаччыне, характэрны ў большай альбо ў меншай ступені і для інжых мясцовасьцяй.

Наогул работу ЗАГС Полаччыны трэба падзяліць на два пэрыяды:

Першы пэрыяд—гэта прыблізна да кастрычніка 1926 г., калі ўся работа па запісу актаў грамадзянскага стану была сканцэнтравана пры райвыканкомах—на раёнах і пры АВК—у акрузе.

Гэты пэрыяд характэрызуецца тым, што органы ЗАГС выконвалі галоўным чынам тэхнічны бок сваёй працы нароўне з выкананьнем іншых галін дзейнасьці РВК ці АВК.—Занятыя важнымі пытаньнямі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва Райвыканкомы не маглі ў дастатковай ступені зварочваць увагу на органы ЗАГС і паставіць іх у такія ўмовы працы, у якіх яны павінны былі знаходзіцца паводле свайго грамадзка-палітычнага значэньня.

Таксама не зварачвалася ўвага на якасны падбор работнікаў ЗАГС пры АВК, чаму з боку акругавага цэнтру амаль ня было ніякага кіраўніцтва раёнамі.

Вось, з гэтай прычыны органы ЗАГС як у акруговым цэнтры, так і ў сельскіх мясцовасьцях ня мелі ў той час той папулярнасьці сярод шырокіх колаў насельніцтва, якая патрэбна была для органу закліканага дапамагаць культурнай рэвалюцыі ў горадзе і вёсцы.

Другі пэрыяд, пачынаючы з канца 1926 году і далей, характарызуецца тым, што органы ЗАГС і прынцыпы савецкага шлюбнага і сямейнага законадаўства пачынаюць папулярызавацца сярод працоўных мас гораду і вёскі. У той час абмяркоўваўся праект кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы, у зьвязку з чым у горадзе Полацку, у раённых цэнтрах і ў вёсках праводзіліся дыспуты на гэту тэму і такім чынам насельніцтва знаёмілася з прынцыпамі савецкага шлюбнага і сямейнага права.

Да таго-ж пэрыяду адносіцца перадача органаў ЗАГС у Акруговым Цэнтры адміністрацыйнаму аддзелу, які паступова стаў усё больш увагі зварочваць гэтай галіне работы, але гэтаму перашкаджала тое, што на мясцох увесь час да восені 1929 году раённыя органы ЗАГС знаходзіліся пры РВК.

Гэта пазбаўляла Адміністрацыйны Аддзел магчымасьці кіраваць непасрэдна раённымі і сельскімі органамі ЗАГС, паколькі райвыканкомы Адмаддзелу ня былі падпарадкаваны.

Усё-ж за гэты час па ўзгадненьню з акрвыканкомам быў дадзен органам ЗАГС шэраг дырэктыў па палепшаньню іх работы на мясцох.

Трэба адзначыць, што кодэкс аб шлюбе, сям'і і апецы, які ўведзены ў жыцьцё з 1-га сакавіка 1927 году, удакладніў цэлы шэраг момантаў сямейнага права (аб усынаўленьні, апецы і папячыцельству і г. д.), чым і тлумачыцца, што нормы савецкага шлюбнага і сямейнага права цьвёрда прывіліся працоўным гораду і вёскі і, ня гледзячы на маючыяся недахопы ў арганізацыйнай рабоце, ЗАГС усё больш прыходзіць на зьмену абрадам рэлігійнага характару.

Аб гэтым сьведчаць ніжэйнаступныя лічбы запісаў, зробленых па горадзе Полацку:

| Род запісаў | За 1927 г. | За 1928 г. | За 1929 г. | 1-шы квартал 1930 г. |
|---|---|---|---|---|
| Нараджэньняў . . . | 887 | 729 | 747 | 214 |
| Сьмярцей . . . . | 426 | 416 | 568 | 138 |
| Шлюбаў . . . . | 329 | 346 | 404 | 112 |
| Разводаў . . . . | 107 | 112 | 181 | 80 |
| Зьмена прозьв. . . | 3 | 5 | 3 | 6 |
| Усынаўленьняў . . | 6 | 10 | 10 | 5 |
| Пазашлюбн. зачацьцяў . . . . . | — | 7 | 3 | — |

Паказаныя лічбы сьведчыць аб тым, што ўсе зрухі ў сямейных і шлюбных узаемаадносінах па гораду знаходзяць сабе яскравы адбітак у органах ЗАГС.

Гэтыя-ж лічбы сьведчаць, што такая норма сямейнага права, як усынаўленьне, усё больш укараняецца сярод працоўных мас гораду: у той час, калі ў 1927 г. мы мелі сем выпадкаў усынаўленьня, а ў 1928 г. і 1929 г. па дзесяць выпадкаў, то за адзін квартал 1930 г. мы маем ужо такіх выпадкаў пяць.

Але ўсе гэтыя дасягненьні, якія на сёньняшні дзень органы ЗАГС могуць адзначыць, нас здаволіць ня могуць, бо як у Полацку, так і на раёнах органы ЗАГС яшчэ не здавальняюцца тымі культурна-бытавымі цэнтрамі, якія-б адыгрывалі ролю ў справе прывіўкі культурных навыкаў барацьбы з рэлігійнымі традыцыямі і забабонамі сярод адсталых слаёў насельніцтва.

Прычыны гэтаму ўасноўным наступныя:

Па-першае, працаўнікі ЗАГС яшчэ да сучаснага моманту не зьяўляюцца добра падрыхтаванымі грамадзка-палітычнымі работнікамі, якія-б працавалі самі па папулярызацыі сярод насельніцтва норм савецкага шлюбнага і сямейнага заканадаўства і ўцягвалі-б у гэту працу і іншых культурнаасьветных працаўнікоў гораду і вёскі.

Мала таго: работнікі ЗАГС у сельсаветах ня толькі не папулярызавалі гэта заканадаўства, а былі выпадкі дачы няправільнага тлумачэньня з боку паказаных работнікаў наведвальнікам.—Гэта ўсё гаворыць за тое, што інструктаж з боку Акруговага органу ЗАГС адсутнічаў. А адсутнічаў з той прычыны, што ў горадзе Полацку маецца толькі адзін работнік ЗАГС'у, які ўвесь час заняты бягучай працай па гораду і выдачай даведак з Акруговага архіву.

Зразумела, пры такіх умовах работнік ЗАГС'у ў Полацку ня мог інструктаваць раённыя і сельскія органы ЗАГС.

Да адмоўных момантаў у рабоце ЗАГС адносіцца таксама неналежнае іх абсталяваньне.—У горадзе Полацку першы час ЗАГС знаходзіўся ў праходным пакоі.

Пасьля (прыблізна ў 1928 годзе) ЗАГС быў пераведзен у лепшы пакой, усё-ж надворны выгляд ЗАГС'у на сёньняшні дзень зьяўляецца нездавальняючым.

Яшчэ горш абстаіць справа ў сельскіх мясцовасьцях, бо ўсе запісы актаў грамадзкага стану адбываюцца ў канцылярыі сельсавету, гэта значыць у тым памяшканьні дзе вядзецца ўся работа, і вось сумесна з тымі, якія прышлі за рознага роду даведкамі, са скаргай і г. д. стаіць за бар'ерам (у многіх сельсаветах, пры наяўнасьці аднаго невялічкага пакою, рабочы стол Старшыні і Сакратара с/с адгароджан бар'ерам), урачыста настроеная пара, зьявіўшаяся зарэгістраваць свой шлюб альбо ўчыніць іншыя запісы такога характару, якія зусім не гарманіруюць з тэй надворнай абстаноўкай, дзе запісы ўтвараюцца.

Побач з гэтым маюцца яшчэ іншыя недахопы, якія цалкам знайшлі сабе адбітак у пастанове ЦВК БССР ад 11/V 1930 г.

Трэба спадзявацца, што паказаная пастанова ЦВК, даўшая шэраг практычных прапаноў па палепшаньню работы ЗАГС і ў прыватнасьці перадача органаў ЗАГС па гораду Гарсаветам (дзе будзе поўная магчымасьць увязваць гэтую работу з нац. бытавымі камісіямі, з камісіяй па палепшаньню быту жанчын і водпуск адпаведных рэсурсаў, на належнае абсталяваньне памяшканьня ЗАГС'у), зьяўляецца закладам таго, што работа ЗАГС'у палепшыцца і займе тое месца, якое ёй належыць па праву.

Непасрэдная сувязь цэнтру з раёнамі, у зьвязку з ліквідацыяй акруг палепшыць інструктаж органаў ЗАГС'у з тым, каб гэтыя органы ў сельсаветах заваявалі сабе таксама патрэбны аўтарытэт.

**Фінкельштэйн.**

## Сэкцыі РСІ бязьдзейнічаюць

Праца камісій РСІ ў Бягомльскім раёне, Менскай акругі, знаходзіцца ў надзвычайным заняпадзе, асабліва пры сельскіх саветах. Сэкцыі не працуюць. Гэта тлумачыцца тым, што раённая РСІ зусім бязьдзейнічае. Яна ня толькі ня ўжывае належных захадаў да ажыўленьня працы сэкцый РСІ пры сельса-

ветах, але і сама не працуе. На зьмяшчаемыя ў газэтах допісы РСІ не рэагуе. Гэта праходзіць міма яе вушэй, пакуль за справу ня возьмецца пракуратура, міліцыя або райвыканком.

Вось некаторыя факты: сэкцыя РСІ Мсьціжскага сельсавету складаецца з старшыні КСУ, кіраўніка саўгасу і іншых „пісьменных людзей". Здаецца-б, сэкцыі пара распачаць працу. Але гэта „пісьменным людзям" у галаву ня прыходзіць. А працаваць ёсьць дзе і над чым. Возьмем працу каапэрацыі, дзе неабходна ўмяшацца РСІ. Старшыня каапэрацыі Васюковіч увёў у моду „пісулькі", па якіх любімчыкі атрымоўваюць дэфіцытныя тавары. Брыгада інструктароў Менскага аддзяленьня БКС забараніла гэткія зьявішчы, але старшыня ажыцьцяўляе іх і па гэты час. У сталоўцы Мсьціжскага спажыўтаварыства прыняты на працу нейкі Астроўскі, якога камісія па чыстцы савапарату зьняла з працы старшыні Недальскага с/с. па 3-й катэгорыі, як шкоднага і заможнага элемэнта, які драбіў сваю гаспадарку (30 дз. зямлі) фіктыўна сярод сваіх братоў, з тэй мэтай, каб не папасьці ў кулакі і пралезьці ў сябры прафсаюзу. На гэта-б, здаецца, сэкцыі РСІ пры Мсьціжскім с/с. патрэбна зьвярнуць увагу.

За ўвесь час гэта сэкцыя габінэтным парадкам расьсьледвала адзін рабселькораўскі допіс. З гэткай працай далёка не заедзеш!

Ня лепш працуюць сэкцыі РСІ Іканскага і Недальскага сельсаветаў, якія абмежаваліся толькі тым, што зрабілі па адным паседжаньні сэкцыі, абралі сакратара сэкцыі, напісалі пратакол і ў канцы паставілі кропку. Гэткімі чарапашшымі тэмпамі цягнуцца сэкцыі РСІ і ў рэшце сельсаветаў раёну.

Не адстае ад „шпаркіх" тэмпаў сельсавецкіх сэкцый і Раённая Камісія РСІ, якая не зрабіла ніводнага абсьледваньня, ніводнай установы раёну.

А бюракратаў па ўстановах знайці можна. Возьмем Бягомльскую пошту. Там, калі патрэбна падпісацца на газэту, ці пазваніць па тэлефону—перадаць якія-небудзь зьвесткі з пасеўнага фронту, то прастаіш на пошце сама меней 3 гадзіны, дзякуючы таму, што загадчык Аўхук—бюракрат і фармаліст. Ён сядзіць, як курыца, закапаўшыся ў паперах, пакуль дзядзька ня зьвернецца да яго 6 разоў. Маюцца недахопы з выпіскай і дастаўкай газэт, бо некаторыя газэты недзе губляюцца, а лістаносец ня ўсім разносіць на дом газэты і лісты. Другі працаўнік пошты Шапялеўскі сыстэматычна п'янствуе. Ёсьць п'яніцы і ў РВК (справавод РЗЧ Лукашэвіч і конюх Русаковіч) і ў 7-х годцы (настаўнік Грынюк і Шваб). Барацьба з п'янствам і бюракратызмам як-бы Бягомльскай РК РСІ не датычыцца. А ці не яе толькі гэта справа?

Мы ведаем, што бюракратызм, п'янства, цеганіна і іншыя хворыя зьявішчы трэба зараз-жа зьнішчаць і вырываць з карэньнем. Ад гэтага будзе залежыць шпаркі тэмп калектывізацыі і выкананьне на мясцох дырэктыў, дадзеных партыяй і савецкай уладай.

Раённым і сельсавецкім сэкцыям РСІ неабходна зараз-жа разварушыцца, паколькі ў раёне праходзіць вялізарнае будаўніцтва жывёлагадоўчых і птушкаводных прадпрыемстваў у калгасах.

РВК і сельсаветам неабходна больш прасачыць за працай сэкцый РСІ, згуртаваўшы вакол іх шырокія колы грамадзкасьці, арганізаваўшы селькораўскі рух і пэрыядычна заслухоўваючы даклады сэкцый РСІ аб праробленай працы на прэзыдыуме сельсавету. У самы хутчэйшы час патрэбна наладзіць выпуск насьценгазэт пры хатах-чытальнях, а таксама і сельсаветах.

Для гэтага неабходна склікаць раённую нараду вяскораў, чаго ў нас не праводзілася да гэтага часу.

Каб сваячасова сачыць і рэагаваць на зьмяшчаемыя ў газэтах допісы, раённай РСІ неабходна, па нашай думцы, выпісаць як для сябе, так і сельскіх сэкцый РСІ газэты „Зьвязду", „Беларускую Вёску", „Савецкую Беларусь", „Орку", „Акцябр", „Сельгаслесрабочы Беларусі" і часопіс „Саветы Беларусі".

Таксама РСІ павінна сваячасова рэагаваць на допісы сьценкораў, якія зьмяшчаюцца ў мясцовых насьценгазэтах.

**Вяскоры Паташ і Паташонак.**

# Культпраца кульгае

*(Бягомльскі раён)*

Па Бягомльскаму раёну маецца 6 хат-чытальняў, Нардом і 39 чырвоных куткоў. Зразу чытачу кінуцца ў вочы вялікія лічбы (39 чырвоных куткоў). Але гэта ўсё толькі ёсьць на паперы ў РВК.

Калі выедзем на раён, дык убачым, што культасьветная праца кульгае надзвычайна. Выхаваўчая праца сярод калгасьнікаў, беднаты і серадняцтва, сярод сялянскай моладзі амаль зусім не вядзецца.

Як-жа працуюць хаты-чытальні? Амаль усе хаты-чытальні, што маюцца ў раёне, стаяць пад замком. Актыў калгасьнікаў і вясковай моладзі вакол іх ня створаны. Не гаворачы аб мастацкай частцы, як пастаноўкі, па раёне нават не праводзяцца сходы на тэмы культурна-выхаваўчага зьместу.

А вось яшчэ некалькі фактаў аб працы хат-чытальняў:

У м. Мсьціж, праз усю зіму ня было чытальні, яна была ліквідавана. У маі месяцы, нарэшце, падшукалі памяшканьне, прыслалі хатніка. Мы чакалі культпрацы ад чытальні, але яе няма—кажуць калгасьнікі калгасу „Беларусь“. Праз увесь час Мсьціжская хата-чытальня стаіць на замку, а загадчык нічога ня робіць.

Калі лістаносец нясе газэты, дык патрэбна іх несьці на кватэру загадчыка, бо чытальня на замку. Хіба толькі раз у паўгода, ці ў год бывае піянэрская пастаноўка.

Тут-жа пад бокам Мсьціжскі сельсавет, але ён аб працы хаты-чытальні ня вельмі то дбае.

Радыё „гучнагаварыцель“ пры Мсьціжскай хаце-чытальні зрабілася „гучнамаўчацелем“, яно не гавора. Каб паправіць яго, ні загадчык, ні сельсавет нічога ня думаюць. Мсьціжскі сельсавет зьяўляецца як-бы не гаспадаром сваёй установы.

Ня лепш працуе Глінская хата-чытальня. Культмасавая праца там не вядзецца, бібліятэка не адпавядае свайму прызначэньню, зусім мала кніг. Загадчык хаты-чытальні, нічога ня хоча рабіць.

Глінскі сельсавет гэтага загадчыка нават не заслухае справаздачы. А параб было заслухаць, бо працы ніякай няма.

Сярод беднаты культвыхаваўчая праца зусім не вядзецца. Створаныя групы беднаты пры сельсаветах не працуюць. У гэтай галіне сельсаветы Бягольмшчыны не разварушыліся і бязьдзейнічаюць. Вось некалькі фактаў. Асаўскі сельсавет зусім не праводзіў бядняцкіх сходаў. Тут маецца на паперы група беднаты, з якой ніхто працаваць не пачынаў. Гэта-ж самае ёсьць у Мсьціжскім і Ікансім сельсаветах. А РВК і па гэты час не задумаўся аб тым, каб праверыць культвыхаваўчую працу сярод бядняцкіх груп пры сельсаветах.

Тых 39 чырвоных куткоў, аб якіх я памінаў вышэй, таксама не працуюць. Ёсьць у нас па раёне нават яшчэ і гэткія чырвоныя куткі, дзе вісяць абразы. Гэткія куткі мусіць толькі і ліча за „чырвоныя“ інспэктар палітасьветы Бягомльскага РВК т. Крашынскі. Я-ж грэшнай справай думаю, іх магчыма аднесьці толькі да чорных.

Па калгасах чырвоныя куткі ня створаны, бо сельсаветы стварэньнем апошніх не зацікавіліся, нібы іх гэта справа не датычыцца.

Ва ўсім раёне, у калгасах, саўгасах, пры хатах-чытальнях, чырвоных кутках і сельсаветах, а таксама і ў цэнтры раёну Бягомлі насьценгазэты не выдаюцца.

Вяскораўская праца зусім у занепадзе. Ні РВК, ні сельсаветы ня цікавяцца гэтай працай. Самакрытыка па сельсаветах разгорнута слаба.

Райінспэктар палітасьветы больш сядзіць у сваім габінэце, дзе і „наладжвае“ культмасавую працу сярод шырокіх колаў беднаты і серадняцтва, сярод калгасьнікаў Бягомльскага раёну.

А калі ён ужо выяжджае на раён, то ў вёску ці калгас заглядае ня больш як на 30 хвілін ці гадзіну,—ды ізноў да свайго габінэту. Напрамкаў у працы ён не дае. Ён нават не інфарміруе аб працы лікбезаў, чырвоных куткоў, хат-чытальняў Прэзыдыумы сельсаветаў і РВК.

Лікбезы ў летні час спынілі сваю працу. Бягомльскі РВК і сельсаветы павінны зацікавіцца культасьветнай працай у раёне, бо яна на сенешні дзень адсутнічае. Мы ведаем, што калі больш будзе пісьменны наш селянін, ад гэтага будзе залежыць шпаркі тэмп калектывізацыі і выкананьне пяцігадовага пляну разьвіцьця савецкай гаспадаркі ў чатыры гады.

**Вяскор Б. В.**

## Чаму ў нас дрэнна з кадрамі

*(Бягомльскі раён, Меншчына)*

Бягомльскаму раёну ўвесь час не шанцуе на працаўнікоў: то ня хочуць ехаць, асабліва з гораду, па тэй прычыне, што далёка ад Менску і чыгункі (ад Менску—107 в., ад Барысава — 75), глуш, балоты і г. д.; то прыедуць, ды зараз уцякаюць назад. Наогул, сталых працаўнікоў знойдзецца мала, бо большая частка іх—„пералётныя“.

У Бягомльскім РВК ужо ад пачатку гэтага году няма інструктара, які-б абсьледваў працу сельсаветаў і дапамог наладзіць яе. Таму і праца сельсаветаў, асабліва за апошні час, зусім кульгае: рабселькораўскія допісы валяюцца нерасьсьледаванымі па 3—4 і нават больш месяцаў, у выніку чаго селькоры, не атрымоўваючы вынікаў на свае допісы, расчароўваюцца і пакідаюць працу.

Матар'ялы на асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, да гэтага часу не афармлены і гэтым затрымліваецца адсылка іх у АВК, адкуль „хмарамі“ лятуць напамінкі.

Зьвесткі даюцца з вялікім спазьненьнем, а то і зусім не даюцца. Я маю факты, калі большасьцю сельсаветаў, ня гледзячы на запатрабаваньне яшчэ ў канцы мінулага году, яшчэ ня дадзены ў РВК справаздачы аб арганізацыйна-масавай рабоце за 2-ю палову 1929 г., зьвесткі аб вылучэнцах, зьвесткі аб няпісьменных членах с-с і зьвесткі аб працы сельскіх камісій РСІ.

Увесь час шлюць напамінкі Райвыканкому, РВК у сваю чаргу—сельсаветам, а справа не кратаецца з месца.

Праўда, тут галоўная віна РВК таму, што ён сваячасова ня ўзяўся за падрыхтоўку кадраў. Ну што-ж з таго, калі яшчэ спачатку мінулага году па Бягомльскаму раёну сельсаветы вылучылі больш 100 чал. як у раённыя, так акруговыя і цэнтральныя ўстановы? Аніводзін з іх на справе нікуды ня вылучан, ніякай працы з вылучэнцамі не вялося—нават нарад ня было. Так нашы вылучэнцы і засталіся на сёнешні дзень толькі на паперы.

А гэта ў такі момант, калі мы маем вялікую патрэбу ў кадрах, бо трэба памятаць, што вылучаць ёсьць каго. Ёсьць добрыя і сумленныя, усёй душой аддадзеныя справе сацыялізму таварышы з батрацтва, калгасьнікаў, беднаты і серадняцтва, але яны так і застаюцца незаўважанымі.

Цяпер паглядзім, як Бягомльскі РВК „вылучае“ ў выкананьне пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР аб вылучэньні ў савецкі апарат ня менш 550 рабочых, работніц і батракоў, батрачак і сялянбеднякоў.

Згодна разьвёрсткі АВК Бягомльскаму раёну дадзены былі 3 месцы для вылучэньня: у цэнтральны апарат—1, акруговы—1 і раённы—1, а таксама для прасоўваньня на работу раённага маштабу—1.

Замест гэтага прэзыдыум РВК 5 ліпеня г. г. пастанаўляе вылучыць 2 чал. у цэнтральныя і акруговыя ўстановы, а пра вылучэньне і прасоўваньне ў самім раёне—ні гугу.

Гэтым РВК паказвае, што ён ня цікавіцца вылучэньнем у раённыя ўстановы, ня гледзячы на тое, што ня мае інструктара і іншых працаўнікоў. Да вылучэньня ня была прыцягнута маса, а падышлі фармальна габінэтным парадкам.

Гэтыя хворыя моманты паказваюць, як ня трэба надалей працаваць.

Зараз жа неабходна безадкладнае рэагаваньне, каб у далейшым зьнішчыць адзначаныя шкодныя недахопы.

21-VII—30 г. **Вяскор К.**

# Бабруйскі Дом Селяніна працуе дрэнна

Спачатку мы ў кароткіх рысах застановімся на знадворным выглядзе самаго дому, а потым ужо на яго рабоце.

Памяшканьне, якое займае дом селяніна, як па сваёй плошчы, а таксама і па якасьці яго, зусім не адпавядае свайму прызначэньню.

Тут дзьве галоўныя прычыны. Першае—памяшканьне сырое, а другое — надзвычайна цеснае, у сувязі з чым у гэтым доме маецца ўсяго толькі 36 ложкаў. Дзякуючы гэтаму па 60—65 сялян штодзенна ад Загадчыка Дому т. Касько атрымоўваюць адмаўленьне ў начлезе. Пры доме жыве некалькі жыльцоў, якія ані якага дачыненьня да дому селяніна ня маюць і гэта ў той час, калі сам дом селяніна задыхаецца ад цеснаты.

Пад клюб пры доме адведзена нейкае складачнае памяшканьне, якое, бязумоўна, не адпавядае свайму прызначэньню. Ніякай культасьветнай працы ў гэтым клюбе не вядзецца.

Дрэнна яшчэ і тое, што неналаджана як сьлед юрыдычна-кансультацыйная работа. Тлумачыцца гэта тым, што ня прыцягваюцца ў парадку грамадзкасьці да гэтае работы як калегія абаронцаў, а таксама і іншыя працаўнікі, аграномы, урачы, настаўнікі і г. д.

Пры доме адсутнічае сталая сельска-гаспадарчая выстаўка і лябараторыя, чаму няма мажлівасьці даваць прыяжджаючаму сялянству агранамічныя парады і праводзіць растлумачальную работу па пасеўных кампаніях (уздым ураджайнасьці, аграмінімум і інш.).

Трэба сказаць, што адчуваецца слабае кіраўніцтва і зацікаўленасьць гэтым домам з боку ўстаноў, якіх гэта дачыняецца.

Аб сувязі і абмену вопытам дому селяніна акруговага цэнтру з раённымі дамамі селяніна нічога і казаць ня прыходзіцца, бо нічога ў гэтым напрамку не рабілася і ня робіцца.

Неабходна зрабіць адпаведныя крокі да таго, каб гэты дом быў сапраўдным Домам Селяніна, сапраўдным культурным цэнтрам для прыяжджаючых сялян, а не якім-то часовым прытулкам накшталт заежджых ці пастаялых двароў.

С. Лодысеў.

# Па Саюзу Савецкіх рэспублік

### Пра выбарчыя правы насьледнікаў амэрыканскіх вэтэранаў сусьветнай вайны, якія пражываюць у РСФСР

Прэзыдыум УсеЦВК растлумачыў, што атрыманьне пражываючымі на тэрыторыі РСФСР насьледнікамі амэрыканскіх вэтэранаў сусьветнай вайны пэнсый, выплачваемых страхавымі таварыствамі Паўночна-Амэрыканскіх злучаных штатаў, ня можа зьявіцца падставай да пазбаўленьня гэтых асоб выбарчых правоў, калі яны не падлягаюць пазбаўленьню выбарчых правоў, на іншых падставах.

### Аб парадку вучоту і складаньня сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, у РСФСР

Прэзыдыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту вызначыў парадак сталага вучоту і складаньня сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў. Парадак гэты ў асноўным наступны:

Вядзеньне сталага вучоту ўскладаецца на гарадзкія і сельскія саветы.

На кожную асобу, пазбаўленую выбарчых правоў, заводзіцца асабістая справа, у якой павінны быць сканцэнтраваны ўсе дакумэнты і весткі, якія маюць дачыненьне да выбарчых правоў гэтай асобы. Саветы маюць сталы нагляд за вучотам асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, своечасова, на падставе дакумэнтальных даных, выключаючы асоб, адноўленых у выбарчых правох, адбыўшых тэрмін высылкі і ссылкі, пазбаўленьне ў правох па суду, памерлых і г. д., і ўключаючы асоб, уноў пазбаўленых выбарчых правоў. Даведкі аб наяўнасьці выбарчых правоў выдаюцца па аднастайнай, строга вызначанай форме.

### Аб арганізацыі дамоў Савецкага будаўніцтва ў Закаўкаскай СФСР

Прэзыдыум Закаўкаскага ЦВК пастанавіў арганізаваць у гор. Тыфлісе цэнтральны дом Савецкага будаўніцтва. Аўтаномным рэспублікам, якія ўваходзяць у склад Закаўкаскай СФСР, даручана арганізаваць у сябе такія самыя дамы.

### Аб рабоце цэнтральных курсаў Савецкага будаўніцтва пры УсеЦВК

Прэзыдыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту зацьвердзіў навучальны плян і разьвёрстку цэнтральных курсаў Савецкага будаўніцтва на 1930/31 г. Пры курсах арганізоўваюцца вучэбна-дапаможныя габінэты: ленінізму з гісторыка-партыйным аддзяленьнем савецкага будаўніцтва і эканамічны з фінансава-бюджэтным аддзяленьнем. Пры габінэтах эканамічным і савецкага будаўніцтва будуць арганізаваны кансультацыі для рабочых брыгад прадпрыемстваў, якія шэфствуюць над дзяржаўным апаратам. Акрамя таго, пры курсах пастаноўлена арганізаваць мэтодолёгічны габінэт для прапрацоўкі тэорэтычных і праграмна-мэтодычных пытаньняў.

### Аб мерах, садзейнічаючых хуткасьці і правільнасьці прасоўваньня паштовых адпраўленьняў

Прэзыдыум Усерасійкага ЦВК, у мэтах паскораньня і палепшаньня ўмоў дастаўкі адрасатам паштовых карэспандэнцый, прапанаваў усім аўтаномным рэспублікам, краявым і аўтаномным выканаўчым камітэтам: не дапушчаць перайменаваньня вуліц у гарадох без папярэдняга ўзгадненьня з Наркампаштэлем, у гадавы тэрмін увесьці ў гарадох, пасёлках гарадзкага тыпу, а таксама ў найбольш буйных вёсках абазначэньне найменаваньня вуліц і нумэрацыю дамоў; забараніць тым сельсаветам, на тэрыторыі якіх устаноўлена дастаўка паштовых адпраўленьняў на дом, прыймаць ад сельскіх пісьманосцаў карэспандэнцыю, не адрасаваную сельсавету.

### Аб скліканьні энэргетычнага зьезду ў Ленінградзе

Прэзыдыум Ленінградзкага абласнога выканкому, у мэтах усебаковага абмеркаваньня энэргэтычных пытаньняў Ленінградзкай вобласьці з удзелам шырокіх колаў рабочых і тэхнічнага пэрсаналу, пастанавіў склікаць у лістападзе месяцы г. г. абласны энэргэтычны зьезд.

---

## Агляд важнейшых пастаноў прэзыдыуму ЦВК БССР

### Аб высылцы для сельсаветаў „Известий ЦИК Союза ССР и ВЦИК“

Улічваючы адказнасьць нізавых работнікаў за правільную работу, асабліва ў час разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва і неабходнасьці ўзьняцьця іх кваліфікацыі, Сакратарыят ЦВК даў 1 ліпеня паказаньні ўсім АВК забясьпечыць ўсе сельскія і местачковыя саветы „Известия ЦИК Союза ССР и ВЦИК“ і такім чынам дапамагчы ім узьняць сваю працу на вышэйшую ступень, зрабіць яе больш абгрунтаванай і адпавядаючай сучасным запатрабаваньням социялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі.

### Вынікі абсьледваньня рэарганізаванага апарату Віцебскай акругі

15 ліпеня заслухан на Прэзыдыуме ЦВК даклад Арганізацыйна-Інструктарскага Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК аб выніках абсьледваньня рэарганізаванага апарату Віцебскай вопытна-паказальнай акругі. Асноўнай мэтай рэарганізацыі акруговай сыстэмы кіраўніцтва было: набліжэньне апарату да насельніцтва, узмацненьне работы нізавых органаў —РВК і саветаў шляхам перадачы ім апэрацыйных функцый акруговых устаноў, перакідваньне работнікаў з акругі ў раён і сельсаветы. Гэтыя задачы ў асноўным удаліся. Шэраг важнейшых палітычных і гаспадарчых пытаньняў знаходзіць свае вырашэньне ў раёне і савеце што дало магчымасьць больш хутка вырашаць гэтыя пытаньні. Значна павялічыўся раённы бюджэт за кошт акруговага (+22,2 проц.), арганізаваны самастойныя бюджэты ва ўсіх сельсаветах. Апошняе мерапрыемства садзейнічала палепшаньню сацыяльна-культурнага абслугоўваньня насельніцтва. У выніку рэарганізацыі значна пашыралася работа Віцебскага Гарсавету, які карыстаецца вялікай самастойнасьцю ў сваей дзейнасьці, што узьняло яго аўторытэт сярод насельніцтва.

Аднак, рэарганізацыя Віцебскай акругі не вырашала ў дастатковай ступені пытаньня аб узмацненьні раённага і сельскага апарату. Яшчэ да гэтага часу раёны і саветы Віцебшчыны не забясьпечаны неабходнымі кадрамі; структура РВК амаль зусім не зьмянілася, ня гледзячы на павялічэньне яго функцый; слаба пастаўлена плянавая і статыстычная работа ў раёнах. Кантроль АВК за дзейнасьцю нізавых органаў зусім недастатковы. Не адчуваецца таксама палепшаньня кіраўніцтва РВК сельсаветамі. Няма ў Віцебшчыне прыкметнага зруху ў разгортваньні масавай работы, слаба па-

стаўлена нацыянальная работа і работа сярод працоўных жанчын. Наогул, рэарганізацыя акруг узмацніла толькі ў некаторай меры нізавы апарат і наблізіла яго да насельніцтва.

Рашэньне XVI Партзьезду аб ліквідацыі акруг і перадачы іх праў раёнам дасьць магчымасьць поўнасцю вырашыць гэтую задачу.

Прэзыдыум ЦВК даручыў Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу разам з НК РСІ і прадстаўнікамі Віцебскага АВК і Гарсавету распрацаваць праект адпаведнай пастановы па заслуханым дакладзе. У праекце будуць прадугледжаны, акрамя агульнай ацэнкі, становішча рэарганізаванага апарату таксама і мерапрыемствы, якія павінны быць улічаны пры ліквідацыі акруг, выходзячы з вопыту работы Віцебскай вопытна-паказальнай акругі.

## Пра льготы серадняцкім гаспадаркам за ўзорваньне зямель бядняцкіх гаспадарак

Прэзыдыум зацьвердзіў 15 ліпеня пастанову пра льготы серадняцкім гаспадаркам за ўзорваньне зямель бядняцкіх гаспадарак.

Згодна гэтай пастановы, даходы, атрыманыя серадняцкімі гаспадаркамі за ўзорваньне па зьменшаных цэнах зямель бядняцкіх гаспадарак зусім не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам.

## Аб прыёме і абслугоўваньні наведвальнікаў у б. Менскай акрузе

Сакратарыят ЦВК заслухаў 21 ліпеня даклад Менскага АВК аб прыёме і абслугоўваньні наведвальнікаў ў Менскай акрузе.

Менскім АВК, у адпаведнасьці з дырэктывамі Прэзыдыуму ЦВК БССР, была зьвернута вялікая ўвага справе палепшаньня прыёму і абслугоўваньня наведвальнікаў як з боку выканкомаў і саветаў, так і паасобных іх аддзелаў. Па гэтым пытаньні АВК склікаў спэцыяльную нараду. Па гораду Менску ўстаноўлен спэцыяльны вячэрні прыём па ўсіх акруговых установах. Па некаторых акруговых установах адведзены чырвоныя куткі для наведвальнікаў, якія чакаюць вырашэньня сваіх спраў. Арганізаваны сталы даведак у райвыканкомах, маюцца ў нардамох і ў некаторых хатах-чытальнях кансультацыйныя сталы для наведвальнікаў. Пастаноўка прыёму сыстэматычна правяралася праз камісіі РСІ, лёгкую кавалерыю, рабочыя брыгады і г. д.

Сакратарыят ЦВК адзначыў, што работа па абслугоўваньні наведвальнікаў па Менскай акрузе палепшылася і па свайму зьместу спрыяла ўзмацненьню шырокай сувязі ўстаноў акругі з працоўным насельніцтвам.

Сакратарыят ЦВК даручыў усім цэнтральным установам дапасаваць свой апарат да прыёму і абслугоўваньня насельніцтва ў зьвязку з ліквідацыяй акруг. Райвыканкомы і Саветы павінны арганізаваць належным чынам у сябе прыём насельніцтва і ў межах сваёй кампэтэнцыі вырашаць на месцы ўсе справы і запатрабаваньні насельніцтва.

## Аб выкананьні закону пра самаабкладаньне.

Сакратарыят ЦВК заслухаў таксама 21 ліпеня даклад Наркамфіна БССР пра выканьне ў 1929-30 г. закону пра самаабкладаньне. Згодна прынятых на сходах рашэньняў, па самаабкладаньні павінна было паступіць 5.788.300 рублёў, фактычна паступіла—4.737.700 руб., г. ё. процант выкананьня складае 81,8. Горш за ўсіх сумы самаабкладаньня спагнаны па Гомельскай, Полацкай і Магілеўскай акругах. Сродкі па самаабкладаньні таксама скарыстаны зусім у нязначнай меры, у асаблівасьці па Мазырскай, Бабруйскай і Менскай акругах.

Сакратарыят ЦВК прызнаў нездавальняючае спагнаньне сродкаў па самаабкладаньні і злачынна нядбайныя адносіны да скарыстаньня гэтых сродкаў з боку некаторых выканаўчых камітэтаў. Райвыканкомам і сельсаветам прапанавана прыняць рашучыя меры да поўнага спагнаньня дабравольна прынятых сельскімі сходамі сум па самаабкладаньні, а таксама абавязкова ў гэтым-жа годзе скарыстаць усе паказаныя сродкі на мэты, вызначаныя сходамі, у адпаведнасьці з законам пра самаабкладаньне.

## Аб палепшаньні ўмоў работы Факультэту савецкага будаўніцтва і права

На гэтым пасяджэньні Сакратарыят ЦВК, заслухаўшы інфармацыю Дэкана Факультэту Савецкага будаўніцтва і Права тав. Ракава аб становішчы Факультэту, даручыў Наркамасьветы і БДУ ужыць шэраг захадаў да палепшаньня ўмоў работы Факультэту у мэтах вырашэньня пытаньня аб кадрах па савецкаму будаўніцтву і праву, у прыватнасьці: забясьпечыць поўную норму прыёму студэнтаў у гэтым годзе, зьвярнуць увагу на належны падбор студэнтаў, зьнішчыць няроўныя матар'яльныя і іншыя ўмовы, якія стварыліся для факультэту ў параўнаньні з іншымі, устанавіць колькасьць прыёму студэнтаў у адпаведнасьці з запатрабаваньнямі зацікаўленых устаноў (ЦВК, НКЮ, НКРСІ) і інш.

Сакратарыят ЦВК таксама пастанавіў паставіць на бліжэйшым пасяджэньні Прэзыдыуму ЦВК падрабязны даклад Наркамасьветы і БДУ аб ужытых імі захадах для падрыхтоўкі кадраў па савецкаму будаўніцтву і праву.

## Структура і штаты апарату ЦВК у зьвязку з ліквідацыяй акруг

Яшчэ 21 ліпеня Сакратарыят ЦВК разгледзеў новую структуру і штаты апарат ЦВК у напрамку дапасаваньня яго да беспасрэднага абслугоўваньня райвыканкомаў і гарсаветаў у зьвязку з ліквідацыяй акруг. Сакратарыяту Прэзыдыуму ЦВК даручана дагаварыцца з Кіраўніцтвам Спраў СНК аб арганізацыі Урадавай друкарні.

## Пра зьнішчэньне парушэньняў выбарчага законадаўства

Прэзыдыум ЦВК заслухаў 25 ліпеня даклад Цэнтральнай Выбарчай Камісіі і садаклады Магілеўскага, Мазырскага і Менскага акрвыканкомаў пра папярэдныя вынікі выкананьня пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР пра зьнішчэньне парушэньняў выбарчага законадаўства.

Згодна пастановы Прэзыдыуму ЦВК на мясцох былі арганізаваны спэцыяльныя камісіі для праверкі сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў. Работа гэтая за выключэньнем некалькіх раёнаў, амаль што ўжо праведзена па БССР, але поўныя весткі маюцца толькі ад 5 акруг. Па даных 5 акруг (Бабруйскай, Гомельскай, Полацкай, Аршанскай

і Віцебскай) у час праверачнай кампаніі адноўлена 15.129 асоб, што складае 24,9 проц. у адносінах да пазбаўленьня выбарчых правоў у гэтых акругах. Найбольш грубае парушэньне выбарчага законадаўства заўважана па адзнацы ўжываньня наёмнай сілы (сюды ўваходзяць і няправільна абкладзеныя ў індывідуальным парадку), гандлю, да групы ўтрыманцаў былых гандляроў. Асобы, адноўленыя ў выбарчых правах, падзяляюцца: па нацыянальнасьці—беларусоў—57,8 проц., яўрэяў—31,5 проц. расейцаў—4,5 проц. палякаў—4,4 проц. іншых—1,7 проц.; па полу—мужчын—50,8 проц., жанчын—49,2 проц.

## Пра ліквідацыю няпісьменнасьці

25 ліпеня зацьверджана пастанова Прэзыдыуму ЦВК пра ліквідацыю няпісьменнасьці сярод дарослага працоўнага насельніцтва. Усе няпісьменныя ад 12 да 45 гадоў, як у вёсцы, так і ў горадзе, не пазбаўленыя выбарчых правоў, павінны зарэгістравацца ў адпаведных саветах. З паказанай катэгорыі павінны ліквідаваць сваю няпісьменнасьць: рабочыя і члены прафсаюзаў на працягу 1930 году; рабочыя саўгасаў, батракі і дапрызыўнікі 1909-10 г.г. да 1 мая 1931 г.; усе астатнія на працягу 1931-32 г. Усім няпісьменным працоўным павінна быць забясьпечана магчымасьць хадзіць на заняткі. Да правядзеньня ліквідацыі няпісьменнасьці прыцягваюцца ў парадку грамадзкай работы усе асобы ва ўзросьце ад 18 да 50 год, не пазбаўленыя выбарчых правоў, якія маюць адпаведныя для ліквідацыі няпісьменнасьці веды (у гарадох—у аб'ёме курсу сямігодкі). Пісьменныя, пазбаўленыя выбарчых правоў, замест непасрэднага працоўнага ўдзелу ў ліквідацыі няпісьменнасьці, абкладаюцца спэцыяльным зборам.

## Аб месячніку па барацьбе з дзіцячай бяспрытульнасьцю

25 ліпеня Прэзыдыум ЦВК згадзіўся з пастановай Пленуму Цэнтральнай Дзіцячай камісіі аб правядзеньні ў БССР месячніку дапамогі дзецям у час 1 верасьня па 1 кастры ніка г. г.

Месячнік будзе праводзіцца пад пунктам погляду ўцягненьня шырокай савецкай грамадзкасьці ў справу аховы дзяцінства, барацьбы з бяспрытульнасьцю і праверкі работы дзіцячых устаноў.

Практычныя мерапрыемствы, зьвязаныя з правядзеньнем месячніку, перададзены на разгляд СНК.

## Аб арганізацыі самадзейных сталовак

На пасяджэньні ад 25 ліпеня Прэзыдыум ЦВК адзначыў, што самадзейныя сталоўкі, у відзе добраахвотных аб'яднаньняў жыхароў паасобных дамоў для калектыўнага харчаваньня, змогуць аказаць значную дапамогу ў справе правільнага і арганізаванага задавальненьня працоўных продуктамі харчаваньня і значна садзейнічаць вызваленьню хатніх гаспадынь ад дамашняй кухні, і ўцягненьню іх у грамадзкую работу.

У зьвязку з гэтым самадзейным сталоўкам павінна быць аказана ўсялякая дапамога з боку выканкомаў і гарсаветаў, і з боку каперацыйных арганізацый.

Прэзыдыум ЦВК пастанавіў заслухаць не пазьней як праз 10 дзён даклад Белкаапсаюзу і Жылсаюзу аб стацовішчы і практычных мерапрыемствах па арганізацыі і садзейнічаньні самадзейным сталоўкам.

## Аб дзейнасьці Белкамзэту

9-га жніўня Прэзыдыумам ЦВК БССР заслуханы даклад аб дзейнасьці Белкамзэту.

За апошні год праробленна вялікая работа па ўцягненьню яўрэйскай беднаты ў вытворчую працу. За пэрыяд часу з 1/V-29 г. па 1/V-30 г. у калгасы БССР уцягнута каля 2.000 новых яўрэйскіх сямей. За 1929-30 г. перасялена на каленізацыйны фонд ў Крым—224 і ў Біра-Біджан 70 сямей. У саматужную прамысловасьць за 9 мес. 1929-30 г. уцягнута новых членаў 7840. Як недахоп у рабоце сампрамкаперацыі, неабходна адзначыць зусім недастатковае ўцягненьне ў саматужныя арцелі местачковых жанчын. У прамысловасьць за 1929-30 г. усяго будзе ўцягнута яўрэйскай беднаты 3.000 чалавек, з якіх 20 проц. жанчын. Белкамзэт ужо правёў і зараз праводзіць шэраг мерапрыемстваў па выпраўленьні тых перагібаў на мясцох, якія былі дапушчаны ў адносінах да местачковай беднаты.

Прэзыдыум ЦВК даручыў Белкамзэту распрацаваць праэкт пастановы па яго дакладу, папярэдне вывучыўшы становішча, а таксама паасобныя галіны работы сярод яўрэйскага працоўнага насельніцтва і беднаты. У праэкце павінны быць прадугледжаны пытаньні гаспадарчага ўпарадкаваньня працоўнага яўрэйскага насельніцтва, перасяленьня, уцягненьня ў вытворчасьць і г. д.

## Аб становішчы беларусізацыі ў Гомельшчыне

На тым-жа пасяджэньні Прэзыдыум ЦВК заслухаў даклад Гомельскага АВК аб становішчы беларусізацыі ў акрузе.

Па Гомельскай акрузе пасьля далучэньня яе да Беларусі (1927 г.) праводзілася шырокая растлумачальная работа асноў нацыянальнай палітыкі партыі і савецкай улады. Працоўнае насельніцтва знаёмілася з пытаньнямі нацпалітыкі і гісторыі Беларусі.

У справе беларусізацыі Гомельшчыны значную ролю адыгралі кіно, Белдзяржтэатр, вандроўны тэатр Галубка, газэта „Палеская Праўда" і радыёперадачы на белмове. Беларусізацыя ўсіх устаноў Гомельшчыны—партыйных, савецкіх і прафэсійных закончана поўнасьцю, праўда, з некаторымі спазьненьнямі ў параўнаньні з тымі тэрмінамі, якія былі вызначаны Урадам.

Недастаткова ўжываецца беларуская мова ў быту. Нездавальняюча пастаўлена распаўсюджаньне нацыянальнай, у асаблівасьці беларускай, літаратуры і газэт. Выкладаньне ва ўсіх навучальных і культурна-асьветных установах Гомельшчыны, за выключэньнем нацыянальных, праводзіцца на беларускай мове.

Прэзыдыум ЦВК па заслуханаму дакладу адзначыў, што работа, якая праводзіцца ў Гомельскай акрузе па беларусізацыі, па свайму зьместу адпавядае агульным дырэктывам савецкай улады і зьяўляецца здавальняючай. Разам з тым, у справе ўкараненьня беларусізацыі ёсьць і значныя недахопы. Слабае ўжываньне беларускай мовы, нізкая якасьць пісьма; у справе каранізацыі—недастатковае ўцягненьне беларусоў з рабочых і бяднейшага сялянства ў гаспадарчыя ўстановы. Прэзыдыум ЦВК прапанаваў усім выканкомам і саветам Гомельшчыны: зьнішчыць усе адзначаныя недахопы ў галіне беларусізацыі, прыняць захады да папулярызацыі гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы і Кастрычніка на Беларусі, вясьці работу па інтэрна-

цыянальным выхаваньні працоўных, праводзячы барацьбу з рознымі ўхіламі ў справе правядзеньня нацыянальнай палітыкі наогул і беларусізацыі ў пасобку, як-та: з шавінізмам, антысэмітызмам, нацыянал-дэмакратызмам і г. д.; узмацніць работу па пераводу палітасьветных установ на беларускую мову, прыняць рашучыя крокі ў справе прасоўваньня беларускіх газэт у вёску.

## Аб кадрах па савецкаму будаўніцтву

Таксама 9 жніўня па дакладу Наркамасьветы і Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту аб становішчы і ўжытых мерапрыемствах па падрыхтоўцы кадраў па савецкаму будаўніцтву і праву.

Усяго на факультэце савецкага будаўніцтва і права маецца 166 чалавек. Навуковымі працаўнікамі факультэт забясьпечан.

Матар'яльнае становішча факультэту горшае ў параўнаньні з іншымі (малы процант забясьпечаных стыпэндыямі, адсутнасьць неабходнага памяшканьня і інш.) Лік прыёму студэнтаў у гэтым годзе вызначан усяго ў 80 чалавек, ня гледзячы на значна большыя запатрабаваньні з боку зацікаўленых цэнтральных ведамстваў (ЦВК, СНК, НК РСІ, НКЮ, НКУС).

Навакол дакладу разгарнуліся спрэчкі, у якіх выказаліся т.т. Вараўка, Мікуліч, Ракаў, Сташэўскі і Хацкевіч. Члены Прэзыдыуму ЦВК у сваіх выступленьнях падкрэсьлівалі тую вялікую ролю, якую мае факультэт савецкага будаўніцтва і права ў справе падрыхтоўкі кадраў для савецкіх установ, і разам з тым адзначалі, што з боку адпаведных органаў нічога ня зроблена для папулярызацыі факультэту і стварэньня належных для яго работы ўмоў.

Прэзыдыум ЦВК пастанавіў: прыняць да ведама пастанову Сакратарыяту ЦВК ад 21 ліпеня г. г. па пытаньні аб кадрах па савецкаму будаўніцтву; прапанаваць Наркамасьветы павялічыць лік прыёму студэнтаў у гэтым годзе да 150 чалавек і ў будучым намеціць далейшае павялічэньне прыёму ў суадпаведнасьці з запатрабаваньнямі зацікаўленых устаноў; прыняць да ведама паведамленьне НКАсьветы аб тым, што ім ў гэтым годзе арганізоўваецца вячэрні факультэт „Саўбуду"; прапанаваць Наркамфіну павялічыць процант забясьпечанасьці „Саўбуду" стыпэндыямі, а таксама і размер паасобных стыпэндый; даручыць Наркамасьветы ў 2-х месячны тэрмін падрыхтаваць пытаньне аб рэарганізацыі факультэту „Саўбуду" ў самастойны інстытут.

## Пра пэрыядычныя надбаўкі да зарплаты работнікаў страявога складу пажарных каманд

Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў 9-га жніўня ўнесены СНК праэкт пастановы ЦВК і СНК БССР, згодна якога ўстанаўляюцца пэрыядычныя надбаўкі за выслугу гадоў да заработнае платы работнікаў страявога складу прафэсійных пажарных каманд. Размеры надбавак наступныя: для асоб, якія праслужылі без перапынку 3 гады—10 проц., 6 год—20 проц., 9 гадоў—30 проц. асноўнага акладу.

## Аб выданьні Урадавага бюлетэню

Сакратарыят Прэзыдыуму ЦВК, у зьвязку з ліквідацыяй акруг і неабходнасьцю ўзмацненьня непасрэднага кіраўніцтва райвыканкомамі і саветамі, прызнаў мэтазгодным выданьне адзін раз у дэкаду Урадавага бюлетэню са зьмяшчэньнем у ім пастаноў і загадаў ЦВК, СНК, наркаматаў і іншых цэнтральных устаноў.

Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу даручана дагаварыцца з кіраўніцтвам спраў СНК БССР і іншымі інстанцыямі аб выданьні такога бюлетэню, шляхам рэарганізацыі адпаведным чынам бюлетэню СНК.

## Плякаты для сельскіх і местачковых саветаў па пытаньнях калектывізацыі

Сакратарыят Прэзыдыуму ЦВК даручыў Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК выпісаць для ўсіх сельскіх і местачковых саветаў БССР плякаты: а) устаў сельска-гаспадарчай арцелі і б) льготы калгасам і калгасьнікам.

Гэтыя плякаты Арганізацыйна-Інструктарскім Аддзелам ужо выпісаны і ў бліжэйшы час будуць разасланы на месцы.

## Аб спыненьні разгляду спраў пра ўзнагароду ў зьвязку з дзесяцігодзьдзем вызваленьня БССР ад белапалякаў

Сакратарыят Прэзыдыуму ЦВК пастанавіў спыніць разгляд усялякіх прадстаўленьняў, а таксама і паасобных хадайніцтваў аб узнагародах за мінулыя баявыя ўчынкі ў зьвязку з дзесяцігодзьдзем вызваленьня БССР ад белапалякаў.

Справы аб узнагародах будуць разглядацца ў звычайным парадку ў адпаведнасьці з існуючым заканадаўствам.

## Аб рабоце сярод батрацтва і беднаты

Прэзыдыум ЦВК заслухаў 15 жніўня даклад загадчыка арганізацыйна-інструктарскага аддзелу ЦВК т. Мікуліча А. П. аб становішчы работы сярод батрацтва і беднаты, аб рабоце груп беднаты і аб палепшаньні гэтай работы. Згодна апошніх вестак, батракоў і батрачак па БССР налічваецца 78.459 чалавек, з іх уцягнута ў колгасы 24.607 чалавек і заключана ўмоў (па няпоўных даных) на 4.099 чалавек. Прэзыдыумам ЦВК БССР увесь час зварочвалася вялікая увага ўзмацненьню работы сярод батрацтва і беднаты і палепшаньню яго культурна-бытавога становішча. Па гэтым пытаньні Прэзыдыумам ЦВК быў прыняты шэраг пастаноў, а таксама і дадзены дырэктыўныя паказаньні мясцом. Згодна цыркуляру Прэзыдыуму ЦВК ад 3/III-30 г. было даручана выканкомам арганізаваць пры ўсіх сельсаветах групы беднаты з членаў савету. Як бачна з атрыманых вестак, гэтыя групы арганізаваны пры большасьці саветаў, але яшчэ ёсьць шмат саветаў, дзе групы беднаты не арганізаваны (Цэрыхаўскі, Лупалаўскі, Чэрыкоўскі, Каралінскі раёны і інш.). Роля батрацка-бядняцкіх груп і іх работа за апошні час значна ўзмацнілася, шэраг асноўных пытаньняў, якія маюць вялікае значэньне ў жыцьці вёскі, папярэдне абмяркоўваюцца на групах беднаты. Разам з тым ёсьць такія сельсаветы, дзе ажыцьцяўляецца зусім нязначны процант пастаноў груп беднаты (Бялыніцкі, Кармянскі, Шклоўскі раёны). Нездавальняюча пастаўлена работа па заключэньні ўмоў з наймальнікамі на батракоў.

Прэзыдыум ЦВК пастанавіў: даручыць усім Райвыканкомам у месячны тэрмін праверыць на мясцох выкананьне усіх раней дадзеных дырэктыў аб рабоце сярод батрацтва і груп беднаты; даручыць Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу ЦВК да кастрычніка месяца правесьці абсьледваньне 2-3 раёнаў у галіне іх дзейнасьці сярод батрацтва і беднаты; яшчэ раз прапанаваць усім Райвыканкомам безадкладна арганізаваць батрацка-бядняцкія групы пры тых саветах, дзе яны яшчэ не арганізованы; зьвярнуць асаблівую ўвагу на поўную ліквідацыю няпісьменнасьці сярод батракоў і батрачак; Райвыканкомам наладзіць плянавую работу груп беднаты; Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу наладзіць сталы вучот работы сярод батрацтва і беднаты па БССР.

## Аб курсах старшынь і сакратароў сельсаветаў—жанчын і нацменшасьцяй

Яшчэ 15 жніўня заслухан даклад загадчыка Арганізацыйна-Інструктарскага Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК т. Мікуліча аб рабоце цэнтральных курсаў.

Усяго пры ЦВК існуюць курсы: з 15/VI двухмесячныя курсы жанчын-старшынь і сакратароў сельскіх саветаў на 53 асобы, з 15/VII месячныя польскія нацыянальныя—старшынь сельскіх саветаў на 24 асобы і латышска-літоўскія нацыянальныя—старшынь сельскіх саветаў таксама на 24 асобы. Работа курсаў праходзіць здавальняюча, курсы забясьпечаны кваліфікаванымі лектарамі. Праграма курсаў распрацована пад пунктам погляду асьвятленьня сучасных задач сельсаветаў. Курсанты азнаёмлены з усімі галінамі вытворчасьці, з навукова-дасьледчымі ўстановамі і з становішчам рабочых на вытворчасьці і ў быту. Курсы арганізавалі насьценгазэту, у якой актыўна ўдзельнічаюць курсанты. Пераважная большасьць курсантаў і курсантак—члены калгасаў.

Прэзыдыум ЦВК адзначыў, што цэнтральныя курсы, як у сэнсе выкладаньня, падрыхтоўкі, так і арганізацыйнай пастаноўкі, праходзяць здавальняюча. Разам з тым прызнана недапусьцімым невыкананьне Мазырскім, Магілеўскім і Менскім АВК нормы прысылкі слухачоў на курсы. Плешчаніцкаму РВК абвешчана вымова за адмову прысылаць курсантаў на польскія нацыянальныя курсы. Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу даручана шырока асьвятліць у друку як работу курсаў, так і іх вынікі.

## Сэкцыі гарсаветаў па рабоце ў вёсцы

На гэтым-жа пасяджэньні Прэзыдыум ЦВК, у мэтах узмацненьня работы гарсавету ў вёсцы, пастанавіў арганізаваць пры гарсаветах сэкцыі па рабоце ў вёсцы. СНК даручана: а) абмеркаваць яшчэ раз пытаньне аб мэтазгоднасьці выдзяленьня ў самастойныя адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі і падпарадкаваньня гарадоў — Полацку, Мазыру, Оршы, Барысава і Рэчыцы, як маючых не менш 50.000 жыхароў беспасрэдна ЦВК і СНК; б) аб парадку далучэньня да гарадоў, выдзеленых у самастойныя адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі, сельскіх мясцовасьцяй.

Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК даручана распрацаваць праэкт паказаньняў гарсаветам аб парадку абслугоўваньня імі сацыяльна-культурных патрэб бліжэйшых да гарадоў сельскіх мясцовасьцяй.

## Пра патаненьне выданьня твораў Леніна і па ленінізму

Прэзыдыум ЦВК заслухаў 15 жніўня даклад Белдзяржвыдавецтва і камісіі па выданьні твораў Леніна на беларускай мове і аб патаненьні выданьня твораў Леніна і па ленінізму.

Урады Саюзу ССР і БССР, з мэтай дачы магчымасьці кожнаму працоўнаму набыць па таннай цане творы Леніна і па ленінізму на сваёй роднай мове, асыгноўваюць вялікія сродкі на патаненьне гэтых выданьняў. Усяго на паказаныя патрэбы асыгнавана 170.000 рублёў. Выдаткавана пакуль-што толькі 78.566 рублёў.

Літаратуры па ленінізму выдадзена 21 назва 182.965 экз.; V том твораў Леніна ужо набраны друкам, скончаны рэдагаваньнем II, IV і VI томы.

Прэзыдыум ЦВК прыняў да ведама заслуханы даклад. Загадчыку Белдзяржвыдавецтва і камісіі па выданьні твораў Леніна на беларускай мове даручана падаць Прэзыдыуму ЦВК праэкт рэарганізацыі парадку выданьня твораў Леніна і па ленінізму

## Аб камандыраваньні ў Маскву члена ЦВК СССР ад БССР для прыёму хадакоў у прыёмнай старшыні ЦВК СССР

15 жніўня Прэзыдыум ЦВК БССР пастанавіў камандыраваць у Маскву члена ЦВК Саюза ССР т. Шымчака (рабочы заводу „Бальшавік“) для часовай работы па прыёму хадакоў у прыёмнай старшыні ЦВК Саюза ССР.

## Даклад аб дзейнасьці Калінкавіцкага РВК

Прэзыдыумам ЦВК 25 жніўня заслухан даклад старшыні Калінкавіцкага раённага выканаўчага камітэту т. Козенцава аб дзейнасьці РВК.

Калінкавіцкі раён — пераважна сельска-гаспадарчы, прамысловасьці непасрэдна падпарадкаванай РВК ня маецца за выключэньнем 1-га камбінату і 1 арцелі. У раёне маецца 9754 сельскія гаспадаркі. Процант калектывізаваных гаспадарак складае 11,8%, у выніку добра праведзенай уборачнай кампаніі процант калектывізаваных гаспадарак павялічыўся да 13,9%. Плошча пасеву як у сацыялістычным, так і ў індывідуальным сэктары павялічылася, дрэнна абстаіць справа з жывёлагадоўляй, гэтае пытаньне ў раёне яшчэ ня вырашана. У раёне шырока разгарнулася будаўніцтва; у гэтым годзе пабудавана 5 школ у сельскіх мясцовасьцях. Райвыканком прыняў захады да ажыцьцяўленьня пастановы Ураду пра ліквідацыю няпісьменнасьці. Вялікія цяжкасьці РВК адчувае ў зьвязку з адсутнічаньнем неабходных кадраў. Райвыканком праводзіць сярод насельніцтва растлумачальную работу аб сутнасьці ліквідацыі акруг. Згодна сьпісу, зацьверджанага Мазырскім АВК, для Калінкавіцкага РВК вызначана 29 работнікаў акругі, з якіх раён атрымаў пакуль-што толькі 4-х чалавек; ня гледзячы на тое, што раён сам яшчэ не ўкамплектаваны работнікамі з акругі, РВК усё-ж з свайго боку паслаў з раёну шэраг работнікаў для сталай працы ў сельскія саветы. Прыступлена да ўвядзеньня самастойных бюджэтаў ва ўсіх сельскіх саветах. Райвыканком яшчэ не адчувае кіраўніцтва цэнтральных установаў, ня гледзячы на пастанову ўраду БССР аб без-

адкладным прыступленьні апошнімі да беспасрэднай сувязі з раёнамі.

Прэзыдыум ЦВК даручыў Камісіі у складзе: т.т. Мікуліча, Дубаўцова Кандраля, Гольмштока і Казенцава, распрацаваць праэкт пастановы па дакладу Калінкавіцкага РВК і падаць гэты праэкт на разгляд і зацьверджаньне бліжэйшага пасяджэньня Прэзыдыуму ЦВК.

### Пра ажыцьцяўленьне дырэктыў ураду аб ільготах былым чырвоным партызанам, чырвонагвардзейцам і іх сем'ям

Тады-ж ЦВК заслухаў даклад Народнага Камісарыяту Рабоча-сялянскай інспэкцыі пра выніки праверкі выкананьня дырэктыў ураду аб льготах былым чырвоным партызанам, чырвонагвардзейцам і іх сем'ям.

Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі правёў праверку выкананьня пастаноў ураду аб льготах былым чырвоным партызанам, чырвонагвардзейцам і іх сем'ям. Галоўным недахопам у гэтай рабоце на мясцох зьяўляецца недакладны вучот былых чырвоных партызан і чырвонагвардзейцаў. Па некаторых акругах (Менскай, Гомельскай і Магілеўскай) наогул адсутнічае сталы вучот гэтых катэгорый асоб. Згодна тых даных, якія маюцца па БССР па лініі Наркамфіна, прадастаўлена ільгот 1890 гаспадаркам на суму ў 25.688 рублёў, але гэтыя лічбы бязумоўна зьяўляюцца няпоўнымі. Вельмі няўважліва, на жаль, падыйшоў Наркамзем да выкананьня пастаноў ураду пра ільготы чырвоным партызанам у галіне землеўпарадкаваньня. Па лініі народных камісарыятаў Асьветы і Аховы Здароўя былым чырвоным партызанам льготы даюцца, але гэтыя льготы вельмі мала папулярызуюцца. Па тых раёнах, дзе праводзілася адпаведная палітыча-выхаваўчая работа сярод былых партызан, з боку апошніх адчуваецца вялікая актыўнасьць у правядзімых палітычных і гаспадарчых кампаніях. Пастанова ураду аб выдачы пасьведчаньняў былым чырвоным партызанам яшчэ поўнасьцю не выканана.

Прэзыдыум ЦВК даручыў Сакратарыяту Прэзыдыуму ЦВК разам з дакладчыкам скласьці праэкт пастановы па заслуханым дакладзе і падаць яго Прэзыдыуму ЦВК на разгляд і зацьверджаньне.

### Аб працягненьні тэрміну правядзеньня конкурсу на лепшы калгас

Прэзыдыум ЦВК задаволіў 25 жніўня хадайнічаньне рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь" аб працягненьні на 1 месяц тэрміну правядзеньня конкурсу на лепшы калгас. Райвыканкомам даручана дапамагаць „Савецкай Беларусі" у правядзеньні конкурсу і выяўленьні лепшага калгасу. Уручэньне Чырвонага Сьцягу і трактару лепшаму калгасу дапасоўваецца да дню ўраджаю і калектывізацыі.

---

# ПАСТАНОВА

## Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Беларускае ССР

### Пра ліквідацыю акруг

У адпаведнасьці з пастановай ЦВК і СНК Саюзу ССР за 23 ліпеня 1930 г. „Пра ліквідацыю акруг", Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў пастанаўляюць:

1. Правесьці ліквідацыю акруговых выканаўчых камітэтаў і ўсіх акруговых устаноў да 1-га кастрычніка 1930 г.

2. Усе правы і абавязкі акруговых выканаўчых камітэтаў перадаць раённым выканаўчым камітэтам, а таксама ў гарадох Менску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску, Магілеве, Воршы, Полацку, Барысаве, Мазыры і Рэчыцы—гарадзкім саветам. Гарадзкія саветы паказаных гарадоў беспасрэдна падпарадкаваць Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР.

3. Даручыць акруговым выканаўчым камітэтам не пазьней 15-га жніўня г. г. разьмеркаваць паміж гарадзкімі саветамі і раённымі выканаўчымі камітэтамі ўсе падпарадкаваныя акруговым выканаўчым камітэтам прадпрыемствы, сацыяльна-культурныя ўстановы, матар'яльныя сродкі і грашовыя абавязацельствы, прычым прадпрыемствы і сацыяльна-культурныя ўстановы на тэрыторыі гарадоў павінны быць перададзены гарадзкім саветам, а астатнія — раённым выканаўчым камітэтам.

Для разьмеркаваньня паказаных прадпрыемстваў і матар'яльных сродкаў арганізаваць спэцыяльныя акруговыя камісіі з 5 асоб на чале з старшынёю АВК з удзелам у патрэбных выпадках у рабоце гэтых камісій старшынь адпаведных РВК і гарсаветаў.

4. Ня менш 90 проц. адказных работнікаў акруг накіраваць на работу ў ра-

ёны. Адначасова з гэтым ужыць рашучыя меры па ўзмацненьні кадрамі сельскіх саветаў і палепшаньні матар'яльнага становішча працаўнікоў раёну і сельскіх саветаў.

5. Арганізацыя раённай сыстэмы на паказаных вышэй пачатках павінна быць праведзена такім чынам, каб адміністрацыйныя выдаткі па кіраўніцтву на 30-31 бюджэтны год, як па дзяржаўным, так і па мясцовым бюджэце не перавышалі сум, асыгнаваных на ўтрыманьне акруговых і раённых апаратаў у 1929-30 г.

6. Замацаваць за раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі даходы, якія былі прадстаўлены акруговым выканаўчым камітэтам, паводле адпаведнага законадаўства.

7. Увесьці з 1-га кастрычніка 1930 г. самастойныя сельскія бюджэты ва ўсіх сельскіх саветах і прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам перадаць да 1-га кастрычніка г. г. сельскім саветам адпаведныя прадпрыемствы і іншыя крыніцы прыбыткаў.

8. Катэгарычна забараніць усякія зьмены існуючых межаў раёнаў і сельскіх саветаў на пэрыяд ліквідацыі акруг.

9. Прапанаваць усім народным камісарыятам, цэнтральным установам і арганізацыям у 5-цідзённы тэрмін распрацаваць праэкты патрэбных зьмен у структуры і штатах раённых і цэнтральных апаратаў, прадугледзіўшы ў праэктах узмацненьне інструктарскай часткі гэтых апаратаў і праэкты падаць Народнаму Камісарыяту РСІ.

10. Даручыць народным камісарыятам і цэнтральным установам і арганізацыям безадкладна ўстанавіць беспасрэдную сувязь з раёнамі і гарадзкімі саветамі. Пераходны пэрыяд да непасрэднай сувязі з раёнамі і гарсаветамі не павінен аслабіць правадзімых гаспадарчых кампаній.

11. Даручыць народным камісарыятам, цэнтральным установам і арганізацыям у месячны тэрмін распрацаваць і падаць у звычайным парадку ў законадаўчыя органы праэкты зьмен існуючага законадаўства БССР, якія вынікаюць з гэтай пастановы.

12. Даручыць Савету Народных Камісараў распрацаваць у месячны тэрмін праэкт Палажэньня пра Раённыя Зьезды Саветаў, раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы і ўнесьці на разгляд і зацьверджаньне Прэзыдыуму ЦВК БССР.

13. Даручыць Упаўнаважанаму Наркампаштэля ў 20-ці дзённы тэрмін распрацаваць мерапрыемствы па ўмацаваньню паштовай, тэлеграфнай і радыё-сувязі з раёнамі і сельсаветамі і ўнесьці ў СНК.

14. Даручыць Дзяржплану кантрольныя лічбы на 1930-31 г., а наркаматам і цэнтральным установам усе апэрацыйныя пляны пабудаваць у раённым і гарадзкім разрэзе.

Вык. аб. Старшыні Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Хацкевіч.**

За Сакратара Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Сташэўскі.**

---

# ПАСТАНОВА

## Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

### пра структуру і штаты раённых выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў у сувязі з ліквідацыяй акруг

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР у сувязі з ліквідацыяй акруг і ў адпаведнасьці з пастановай Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР за 9 жніўня 1930 г. „Пра структуру і тыпавыя арыентыровачныя штаты раённых выканаўчых камітэтаў" (Известия ЦИК СССР и ВЦИК за 10 жніўня 1930 г. № 219) пастанаўляюць:

Устанавіць наступную структуру і штаты раённых выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў БССР.

1. Па раённых выканаўчых камітэтах:

| | ШТАТЫ | | |
|---|---|---|---|
| | У раёнах з насельніцтвам да 50000 ч-л. | У раён. з насел. ад 50000 да 80000 ч. | У раёнах з насельн. звыш 80000 чал. |
| Старшыня | 1 | 1 | 1 |
| Сакратар | 1 | 1 | 1 |
| Інспэктар гандлю | 1 | 1 | 1 |
| Інспэктар па камунальнай гаспадарцы (тэхнік) | 1 | 1 | 1 |
| Інспэктар па дарожнаму будаўніцтву (тэхнік) | 1 | 1 | 1 |
| Інспэктар па сацыяльнаму выхаваньню | 1 | 1 | 1 |
| Інспэктар па палітасьвеце і ліквідацыі няпісьменнасьці | 1 | 1 | 1 |
| Інспэктар аховы здароўя | 1 | 1 | 1 |

Абавязкі інспэктара аховы здароўя ўскласьці на санітарнага ўрача, а ў тых раёнах, дзе апошняга няма—на ўрача раённай больніцы.

Устанавіць пасады інструктара па савецкаму будаўніцтву ў раёнах з насельніцтвам звыш 40.000 чал.

Устанавіць пасаду інспэктара працы ў раёнах, дзе няма ўпаўнаважаных Сацстраху. У тых раёнах, дзе ёсьць упаўнаважаны Сацстраху—ускласьці на апошняга абавязкі інспэктара Працы.

| | ШТАТЫ | | |
|---|---|---|---|
| | У раёнах з насельніцтв. да 50000 чал. | У раён. з насел. ад 50000 чал. да 80000 чал. | У раёнах з насельн. звыш 80000 чал. |
| **Агульны Аддзел** | | | |
| Загадчык Аддзелу | Сакратар РВК | | |
| Тэхнічны Сакратар Прэзыдыуму РВК і па агульных справах | 1 | 1 | 1 |
| Дзелавод | 1 | 1 | 2 |
| Экспэдытар | 1 | 1 | 1 |
| Машыністка | 2 | 2 | 2 |
| Тэхнічны абслугоўваючы пэрсанал | 3 | 3 | 3 |
| **Зямельны Аддзел** | | | |
| Загадчык | 1 | 1 | 1 |
| Раённы аграном | 1 | 1 | 1 |
| Райземупарадкавацель | 1 | 1 | 1 |
| Тэхнічны сакратар | 1 | 1 | 1 |

| | ШТАТЫ | | |
|---|---|---|---|
| | У раёнах з насельніцтв. да 50000 чал. | У раён. з насел. ад 50000 чал. да 80000 чал. | У раёнах з насельн. звыш 80000 чал. |
| **Фінансавы Аддзел** | | | |
| Загадчык | 1 | 1 | 1 |
| Інспэктар па бюджэту | 1 | 1 | 1 |
| „ „ прыбытках і крэдыту | 1 | 1 | 1 |
| Інспэктар па дзяржстраху | 1 | 1 | 1 |
| Бухгальтар | 1 | 1 | 1 |
| Рахункавод | — | 1 | 1 |
| Тэхнічны сакратар | 1 | 1 | 1 |
| **Адміністрацыйны Аддзел** | | | |
| Начальнік | 1 | 1 | 1 |
| Нам. Начальніка | Пакін. існуючы штат | | |
| Агэнт Крымвышуку | 1 | 2 | 2 |
| Тэхнічны сакратар | 1 | 1 | 1 |
| Справавод | — | 1 | 1 |
| **РКК—РСІ** | | | |
| Старшыня | 1 | 1 | 1 |
| Інспэктар | 1 | 1 | 2 |
| **Пляннава-статыстычная частка** | | | |
| Эканаміст плянавік | 1 | 1 | 1 |
| Старшы статыстык | 1 | 1 | 1 |
| Статыстык | 1 | 1 | 2 |

Арганізацыйнымі пытаньнямі павінны займацца (апроч інструктара па савецкаму будаўніцтву, дзе ён маецца) старшыня раённага выканаўчага камітэту, намесьнік старшыні раённага выканаўчага камітэту і сакратар раённага выканаўчага камітэту.

Інструктар па савецкаму будаўніцтву таксама вядзе работу сярод беднаты і па справах бытавых і нацыянальных.

Кіраваньне плянава-статыстычнай працай ускладаецца на старшыню раённага выканаўчага камітэту.

Бухгальтар і рахункавод фінансавага аддзелу павінны абслугоўваць увесь раённы выканаўчы камітэт.

2. Па сельскіх саветах:

| | ШТАТЫ | |
|---|---|---|
| | У сельсаветах з насельніцтвам да 3000 чал. | У сельсаветах з насельніцтв. звыш 3000 чал. |
| Старшыня | 1 | 1 |
| Сакратар | 1 | 1 |
| Рахункавод-статыстык | — | 1 |

# Аб арганізацыі органаў КК РСІ ў раёнах

*(Пастанова Прэзыдыуму ЦКК, узгодненая з ЦК УсеКП(б)*

1. Ва ўсіх арганізацыях, дзе маюцца раённыя і гарадзкія камітэты, неабходна стварыць шляхам выбару на раённых і гарадзкіх канфэрэнцыях КК-РСІ, пры чым да сьцьвярджэньня адпаведнага статутнага палажэньня ЦК, рэкамэндаваць кіравацца наступным:

а) партыйны стаж для абраньня ў КК-РСІ устанаўліваецца для раёнаў—5 год, для гарадоў—7 год, для рабочых, якія знаходзяцца на вытворчасьці, і для сялян, якія займаюцца сельскай гаспадаркай—3 гады;

б) Пленум РКК, які абіраецца на партканфэрэнцыях, устанаўліваецца ў 15 чалавек для першай катэгорыі, 9 чалавек для другой катэгорыі і 5—7 чалавек для трэцяй катэгорыі. Прэзыдыум абіраецца толькі ў раёнах першай і другой катэгорыі ў колькасьці ня больш трох чалавек і кіруе работай як па партыйнай, так і па савецкай лініі. У раёнах трэцяй катэгорыі пленумам абіраецца толькі старшыня і сакратар, якія і кіруюць работай. Раённыя кантрольныя камісіі існуюць на падставе тых-жа палажэньняў, якія былі зацьверджаны раней для акруговых КК РСІ.

2) а) У адносінах штатаў, усе раёны разьбіваюцца на тры катэгорыі ў залежнасьці ад магутнасьці раёну. Асноўнымі прызнакамі магутнасьці павінны быць: бюджэт, колькасьць насельніцтва, характар прамысловасьці, лік членаў партыі і г. д. Для першай катэгорыі раёнаў штаты сталых штатных адказных працаўнікоў устанаўліваюцца ў 5 чалавек, для другой катэгорыі—4 чалавекі, для трэцяй—3 чалавекі.

**Увага:** 4 група раёнаў па партыйнай сетцы прыраўніваецца да 3-й катэгорыі КК РСІ.

б) Штаты гарадзкіх КК РСІ устанаўліваюцца ад 5 да 7 чалавек. Пленумы павінны складацца з 15—20 чалавек, прэзыдыум—з 3-х—5-ці чалавек. Штаты раённых КК РСІ Масквы, Ленінграда, Харкава і іншых вобласных гарадоў лічыць неабходным разглядзець дадаткова.

3. Працаўнікі КК РСІ павінны аплачвацца ня ніжэй, чымся працаўнікі раённых партыйных камітэтаў.

4. Пры ліквідацыі акруговых кантрольных камісій і выканкомаў, вобласныя партыйныя органы павінны зьвяртаць падбору працаўнікоў раённых КК такую-ж увагу, як і падбору раённых партыйных камітэтаў.

---

# ПАСТАНОВА

## Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі „Пра ўстанаўленьне структуры і штатаў Гарсаветаў у сувязі з ліквідацыяй акруг“

### І. Зацьвердзіць наступную структуру і штаты Гарсаветаў:

| НАЗВА ПАСАД | Менск | Гомель Віцебск | Бабруйск Магілеў | Барысаў Рэчыца Ворша Полацак Мазыр |
|---|---|---|---|---|
| | Штаты | Штаты | Штаты | Штаты |
| Старшыня | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Намесьнік | 1 | — | — | — |
| Сакратар | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Інструкт. па сав. будаўн (масав. бытав. і нац. раб). | 1 | 1 | — | — |
| Юрысконсульт | 1 | 1 | — | — |
| Інспэктароў нарасьветы (сацвых, палітасьвета, лік-. няпісьм., прафасьв.) | 3 | 3 | 1 | — |
| Інспэктар аховы здароўя | 1 | 1 | 1 | — |

| НАЗВА ПАСАД | Менск | Гомель Віцебск | Бабруйск Магілеў | Барысаў Рэчыца Ворша Полацак Мазыр |
|---|---|---|---|---|
| | Штаты | Штаты | Штаты | Штаты |
| Інспэкт. ах. мац. і младзен. і АЗДП | 1 | 1 | — | — |
| Інспэктар па фізкультуры | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Праўных інспэкт. працы | 4 | 3 | 2 | 1 |
| Тэхн. інспэкт. працы | 1 | 1 | 1 | Па 1 Бар. і Воршы |
| Саніт. інспэкт. працы | 1 | 1 | 1 | — |
| Інспэкт. сац. забясьпеч. | 1 | 1 | 1 | — |
| Інспэктар гандлю | 2 | 1 | 1 | 1 |
| Тэхн. сакратароў | 2 | 2 | 1 | 1 |
| Дзелаводаў | 2 | 2 | 1 | 1 |
| Экспэдытараў | 2 | 1 | 1 | — |
| Машыністак | 3 | 3 | 3 | 1 |
| Камэндант | 1 | 1 | — | — |
| Тэхн. абслуг. пэрсан. | 11 | 9 | 4 | 1 |
| Шофэраў | 1 | 1 | — | — |
| Разам | 42 | 36 | 21 | 9 |
| Плянавая Камісія | | | | |
| Эканаміст-плянавік | 1 | 1 | — | — |
| Кір. стат. групай | 1 | 1 | — | — |
| Статыстыкаў | 4 | 3 | — | — |
| Інжын. мясцов. прам. | 1 | 1 | — | — |
| Разам | 7 | 6 | — | — |
| Загс | | | | |
| Заг. ЗАГС | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Рэгістратараў | 2 | 1 | 1 | — |
| Разам | 3 | 2 | 2 | 1 |
| Камунальны аддзел | | | | |
| Заг. камун. аддзелам | 1 | 1 | — | — |
| Інспэктар па кам. гасп. | — | — | 1 | 1 |
| Інспэкт. па жыл. справ. | 1 | 1 | 1 | — |
| Агент па жыл. справ. | 2 | 1 | — | — |
| Інжын. па камун. справ. | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Тэхн. па камун. справ. | 2 | 1 | 1 | — |
| Земляўпарадкавацель | 1 | 1 | 1 | — |
| Аграном-садавод | 1 | 1 | — | — |
| Тэхн. сакратар. | 1 | 1 | 1 | — |
| Дзелаводаў | 2 | 1 | 1 | — |
| Машыністак | 1 | 1 | 1 | — |
| Разам | 13 | 10 | 8 | 2 |

| НАЗВА ПАСАД | Менск | Гомель Віцебск | Бабруйск Магілеў | Барысаў Рэчыца Ворша Полацак Мазыр |
|---|---|---|---|---|
| | Штаты | Штаты | Штаты | Штаты |
| Фінансавы аддзел | | | | |
| Загадчык | 1 | 1 | — | — |
| Інспэкт. па бюдж. | 1 | 1 | 1 | 1 |
| „ „ крэдыту | 1 | 1 | 1 | — |
| „ „ прыбыткам | 3 | 2 | 2 | 1 |
| Агентаў | 4 | 3 | 2 | 1 |
| Інспэкт. Дзяржстраху | 1 | 1 | 1 | — |
| Агентаў | 3 | 2 | 1 | 1 |
| Гал. бухгальт. | 1 | 1 | — | — |
| Бухгальтар | 3 | 3 | 1 | — |
| Пам. бухгальт. | 2 | 1 | — | — |
| Рахункаводаў | 2 | 2 | 3 | 1 |
| Тэхн. сакратар. | 1 | 1 | 1 | — |
| Дзелаводаў | 1 | 1 | — | — |
| Машыністак | 1 | 1 | — | — |
| Разам | 25 | 21 | 13 | 5 |
| Адміністрац. аддзел | | | | |
| Начальнік | 1 | 1 | — | — |
| Нам. начальніка | 1 | 1 | — | — |
| Тэхн. сакратар. | 1 | 1 | — | — |
| Дзелавод | 1 | 2 | — | — |
| Машыністак | 1 | 2 | — | — |
| Рахункавод | 1 | 1 | — | — |
| Заг. гаспад. | 1 | — | — | — |
| Кладаўшчык | 1 | 1 | — | — |
| Заг. адрасн. сталом | 1 | 1 | — | — |
| Рэгістратараў | 3 | 2 | — | — |
| Курьер-прыбіральшчык | 1 | 2 | — | — |
| Разам | 13 | 14 | — | — |
| К К—Р С І | | | | |
| Старшыня | — | 1 | — | — |
| Сакратар | — | 1 | — | — |
| Інспэктароў | — | 2 | — | — |
| Разам | 103 | 93 | 44 | 17 |

У Гарсаветах: Шклоў, Быхаў, Клімавічы, Рагачоў, Жлобін, Слуцак, Горкі, Дуброўна, Мсьціслаў, Лепель, Нова-Беліца і Добруш устанавіць штат па 3 чал.: старшыня сакратар і рахункавод-статыстык.

У астатніх Гарсаветах па 2 чал.—старшыня і сакратар.

II. Усе астатнія функцыі па абслугоўваньню гарадоў у тых Гарсаветах, якія падпарадкуюцца РВК, выконваюцца апаратам апошніх. У сувязі з гэтым павялічыць штат РВК у наступных раёнах:

**Па плянава-статыстычных частках**

У Бабруйскім і Магілеўскім раёнах па 3 статыстыкі, у Барысаўскім—2 статыстыка, у Аршанскім, Полацкім, Мазырскім і Рэчыцкім па 1 статыст.

**Па ахове здароўя**

У Барысаўскім, Аршанскім, Полацкім, Мазырскім і Рэчыцкім раёнах устанавіць сталую пасаду інспэктара аховы здароўя.

**По Адміністрац. Аддз.**

У Магілеўскім раёне на 2 справаводаў, 2 машыністак, 1 рахункавода, 1 заг. адрасным сталом і 1 кур'ера прыбіральшч. У Бабруйскім раёне на 1 справавода, 1 машыністку і рахункавода, 1 заг. адрасн. сталом і 1 кур'ера прыб. У Аршанскім, Полацкім, Мазырскім, Барысаўскім і Рэчыцкім раёнах на 1 справавода і 1 машыністку. У Клімавіцкім, Лепельскім і Слуцкім раёнах на 1 машыністку.

**Па КК-РСІ**

Зацьвердзіць наступны штат раённых КК-РСІ:

У Бабруйскім і Магілеўскім раёнах—па 5 адзінак: старшыня, сакратар і 3 інспэктары.

У Барысаўскім, Аршанскім, Полацкім, Мазырскім і Рэчыцкім раёнах — на 4 адзінкі: старшыня, сакратар і 2 інспэктары.

У Быхаўскім, Веткаўскім, Віцебскім, Гарадокскім, Горацкім, Гомельскім, Глускім, Дубровінскім, Жлобінскім, Калінкавіцкім, Касьцюковіцкім, Клімавіцкім, Копыскім, Мсьціслаўскім, Петрыкоўскім, Пухавіцкім, Рагачоўскім, Сененскім, Слуцкім, Церахаўскім і Шклоўскім раёнах—па 3 адзінкі: старшыня, сакратар і інспэктар.

У астатніх раёнах—па 2 адзінкі: старшыня і інспэктар.

III. Вызначаныя штаты ўстанаўліваюцца з моманту ліквідацыі акруг і зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх Гарсаветаў і РВК.

Нам. Наркома РСІ БССР Іваноў.

---

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## пра Камітэты па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак пры Прэзыдыуме ЦВК БССР

На падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР за 23 мая 1930 г. „Пра зацьверджаньне Палажэньня аб Камітэту пры Прэзыдыуму ЦВК СССР па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак“ (Збор З. СССР за 1930 г. № 29, арт. 327), Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе:

1. Для агульнага кіраўніцтва ў БССР работай па арганізацыі і пашырэньні ўжываньня працы жанчын, масаваму залучэньню іх у сацыялістычнае будаўніцтва, падвышэньню культурнага ўзроўню жанчын і па перабудове быту, пры Прэзыдыуму ЦВК БССР утвараецца Камітэт па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак.

2. Склад Камітэту па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак вызначаецца і зацьвярджаецца Прэзыдыумам ЦВК, пры чым Старшыня Камітэту назначаецца з ліку членаў Прэзыдыуму ЦВК.

3. Для вядзеньня бягучай практычнай работы Пленум Камітэту вылучае з свайго складу Прэзыдыум, прычым у складзе Прэзыдыуму абавязкова ўваходзяць: старшыня Камітэту, яго намесьнік і адказны сакратар Камітэту.

4. Камітэт па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак для дасягненьня пастаўленых перад ім мэт:

а) кіруе і ўзгадняе ў межах БССР работу ўсіх органаў, установаў і арганізацый

па правядзеньні імі мерапрыемстваў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак;

б) наглядае за ўключэньнем у каштарысы ведамстваў, устаноў і арганізацый асыгнаваньняў на правядзеньне мерапрыемстваў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак, а таксама садзейнічае паялічэньню гэтых асыгнаваньняў, як па дзяржаўнаму і мясцовым бюджэтам, гэтак і па каштарысах арганізацый, якія не праходзяць па бюджэтах; наглядае за правільнасьцю і мэтазгоднасьцю выдаткаваньня ўсіх сум, якія адпускаюцца на абслугоўваньне інтарэсаў працоўных жанчын; разьмяркоўвае сродкі, што маюцца пад яго загадам, а таксама фонды, утвараемыя пастановамі законадаўчых органаў на ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па палепшаньні працы і быту працоўных жанчын;

в) прыцягвае, на аснове разьвіцьця грамадзкай самадзейнасьці, сродкі насельніцтва для ажыцьцяўленьня бытавых мерапрыемстваў (дзіцячыя пляцоўкі, сады, сталоўкі, прачашныя, бані і г. д.);

г) вывучае ўмовы працы і быту працоўных жанчын і прыцягвае да гэтай справы адпаведныя арганізацыі і навуковыя сілы;

д) распрацоўвае і падае ва ўстаноўленым парадку ў законадаўчыя органы праэкты па палепшаньні бытавога, працоўнага і сацыяльна-культурнага становішча працоўных жанчын, а таксама прымае ўдзел у распрацоўцы законадаўчых праэктаў па гэтых пытаньнях іншымі органамі; наглядае за выкананьнем законаў аб ахове інтарэсаў працоўных жанчын і ўмоў іх працы і перабудовы быту;

е) садзейнічае залучэньню жанчын у савецкае будаўніцтва, у работу саветаў, іх камісій і сэкцый, у апарат дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, а таксама ў работу грамадзкіх арганізацый;

ж) наладжвае сыстэматычную падрыхтоўку кадраў з работніц, батрачак, калгасьніц, сялянак-беднячак і серадначак для вылучэньня, а таксама ўжывае захады па аказаньні практычнай дапамогі жанчынам, якія ўжо прымаюць актыўны ўдзел у савецкім будаўніцтве;

з) наглядае за ажыцьцяўленьнем пляна залучэньня жанчын у прамысловасьць, садзейнічае падняцьцю іх вытворчай кваліфікацыі і ўжывае захады да палепшаньня ўмоў жаночай працы ва ўсіх відах вытворчасьці;

і) садзейнічае шырокаму залучэньню жаночых мас у будаўніцтва калектыўных форм сельскай гаспадаркі і ўжывае захады да ўтварэньня адпаведных умоў жаночай працы ў калектыўных гаспадарках і да падрыхтоўкі кадраў кваліфікаванай жаночай працы для сельскай гаспадаркі, а таксама і для культурна-бытавога абслугоўваньня калгасаў;

к) садзейнічае каапэраваньню жаночых мас па іншых відах каапэрацыі;

л) садзейнічае барацьбе з беспрацоўем і бяспрытульнасьцю жанчын і кіруе барацьбой з прастытуцыяй;

м) садзейнічае ажыцьцяўленьню мерапрыемстваў па ахове здароўя жанчын, у прыватнасьці, арганізацыі мэдычных кансультацый і ўстаноў па ахове мацеры і дзіцяці;

н) прымае меры да арганізацыі праўнай дапамогі жанчынам, у прыватнасьці, шляхам папулярызацыі сярод іх савецкага законадаўства аб шлюбе, сям'і і апецы.

5. Камітэт па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак пры Прэзыдыуме ЦВК ажыцьцяўляе кіраўніцтва і нагляд за дзейнасьцю раённых камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак, выдае інструкцыі і цыркуляры па ўсіх галінах работы раённых камітэтаў, заслухоўвае даклады аб іх дзейнасьці і г. д.

6. Пры ажыцьцяўленьні паказаных у арт. 4 гэтага палажэньня задач Камітэт абапіраецца на самадзейнасьць і ініцыятыву саміх працоўных мас у справе палепшаньня жаночай працы і падняцьця культуры і сацыялістычнай перабудовы быту і ўсякім чынам разьвівае гэту ініцыятыву.

7. Для выкананьня ўскладзеных на яго абавязкаў Камітэт устанаўляе сувязь з ведамствамі, установамі і арганізацыямі БССР, атрымоўвае ад іх неабходныя матар'ялы, дае ім для прапрацоўкі паасобныя даручэньні, ставіць на сваіх пасяджэньнях іх даклады па пытаньнях жаночай працы і перабудовы быту і знаёміцца з дзейнасьцю ўстаноў і арганізацый у гэтай галіне.

8. Камітэт аб сваёй дзейнасьці, не радзей аднаго разу ў год, робіць даклад Прэзыдыуму ЦВК. Камітэт абслугоўваецца апаратам Прэзыдыуму ЦВК.

**Пра Камітэты на палепшаньні працы і быту работніц і сялянак пры раённых выканаўчых камітэтах і пра сэкцыі пры саветах**

9. Пры раённых выканаўчых камітэтах утвараюцца раённыя камітэты па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак.

Лік членаў і пэрсанальны склад раённых камітэтаў устанаўляецца і зацьвярджаецца раённымі выканаўчымі камітэтамі.

Старшынёй раённага камітэту вызначаецца раённым выканаўчым камітэтам член Прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту, а адказным сакратаром—член раённага выканаўчага камітэту або іншы адказны работнік раённага выканаўчага камітэту.

10. Пры гарадзкіх, сельскіх і мястэчковых саветах арганізуюцца сэкцыі па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак. Лік членаў і склад сэкцый устанаўляецца і зацьвярджаецца саветамі, паводле палажэньня пра гарадзкія і сельскія саветы.

11. У сваёй рабоце раённыя камітэты і сэкцыі пры саветах ажыцьцяўляюць, у межах адпаведнай тэрыторыі задачы, паказаныя ў арт. 4-м гэтага палажэньня, выконваюць прапановы і паказаньні вышэйстаячых камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак, даюць ім і адпаведным раённым выканаўчым камітэтам і саветам справаздачы і ўсе свае мерапрыемствы праводзяць праз адпаведныя савецкія органы.

12. Камітэт і сэкцыі ў вырашэньне пастаўленых перад імі задач уцягваюць жаночы актыў, які працуе ў савецкіх і грамадзкіх органах і арганізацыях.

13. Камітэты і сэкцыі пра сваю дзейнасьць абавязаны рабіць даклады на шырокіх сходах працоўных, асабліва шырока скарыстоўваючы для гэтага справаздачныя кампаніі саветаў, зьезды і канфэрэнцыі працоўных жанчын і інш.

14. Тэхнічнае абслугоўваньне камітэтаў і сэкцый ускладаецца на апараты адпаведных раённых выканаўчых камітэтаў і саветаў.

**Сродкі камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак**

15. Сродкі Камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак складаюцца з асыгнаваньняў па дзяржаўнаму і мясцовых бюджэтах, а таксама з паступленьняў з іншых крыніц, якія даюцца гэтым Камітэтам адпаведным заканадаўствам.

Каштарысы Камітэтаў зацьвярджаюцца як частка каштарысаў адпаведных выканаўчых камітэтаў.

16. У сувязі з зацьверджаньнем гэтага палажэньня скасаваць пастанову Прэзыдыуму ЦВК за 8 ліпеня 1929 году „Пра Камісіі (сэкцыі) па палепшаньні працы і быту жанчын пры саветах і выканаўчых камітэтах“. (Збор З. БССР за 1929 г., № 24, арт. 131).

Вык. аб. Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

За Сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Сташэўскі.**

21 жніўня 1930 г.
г. Менск.

---

# ПАСТАНОВА

## Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР па дакладу аб дзейнасьці Чашніцкага Раённага Выканаўчага Камітэту

Заслухаўшы даклад аб дзейнасьці Чашніцкага раённага выканаўчага камітэту і садаклад інструктара ЦВК, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту адзначае:

1. Што раённы выканаўчы камітэт за справаздачны тэрмін мае дасягненьні ў галіне рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, у выніку чаго процант калектывізаванай зямельнай плошчы ў бя-

гучым годзе павысіўся з 5 да 23 і, дзякуючы здавальняючай пастаноўцы ўборачнай кампаніі, маецца прыліў у калгасы. Калгасы пасьпяхова правялі вясеньнюю сяўбу, пашырыўшы плошчу засеву тэхнічных культур і карняплодаў.

2. Маецца значнае пашырэньне саматужна-прамысловай каапэрацыі ў раёне за кошт каапэрыраваньня местачковай беднаты. Каапэрыраваньне сялянскіх гаспадарак па лініі спажывецкай каапэрацыі дасягнула 90 проц.

3. Здавальняюча праведзена ў раёне значная частка гаспадарчых кампаній, як нарыхтоўкі, рэалізацыя пазык і інш.

4. Пры апошніх датэрміновых перавыбарах саветаў значна абноўлен і палепшан склад сельсаветаў, асабліва кіруючы.

Побач з гэтым Прэзыдыум ЦВК адзначае, што ў працы раённага выканаўчага камітэту маецца шэраг недахопаў, як-та:

1. Дапушчэньне, пры правядзеньні каляктывізацыі, шэрагу памылак, якія зьявіліся галоўнай прычынай меўшагася ў свой час адліву з калгасу. Калгасы раёну маюць яшчэ шэраг недахопаў як у арганізацыі працы, пашырэньні таварнасьці, так і ў арганізацыі калгасьнікаў да актыўнага ўдзелу ў ажыцьцяўленьні задач, якія стаяць перад калгасным будаўніцтвам.

2. Зусім слаба разгорнута вытворчае каапэрыраваньне бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, недастаткова арганізавана дапамога бядняцкім гаспадаркам і слаба пастаўлена праца камітэтаў сялянскай узаемадапамогі.

3. Групы беднаты пры сельскіх саветах яшчэ недастаткова разгарнулі сваю працу.

4. Недастатковае павялічэньне паявога капіталу па ўсіх відах каапэрацыі. Слабы ход нарыхтовак другарадных відаў сыравіны.

5. Слабы ход скарыстоўваньня сродкаў па самаабкладаньні, наяўнасьць значнай запазычанасьці па асобных відах грашовых паступленьняў ад насельніцтва і спазьненьне ў некаторых саветах з уручэньнем акладных лістоў.

6. Сучасны склад сельсаветаў яшчэ недастаткова замацаван і ня прыстасаваны да ажыцьцяўленьня стаячых перад саветамі задач, асабліва ў калгасным будаўніцтве. Раённы выканаўчы камітэт у сваёй працы зварочваў недастатковую ўвагу арганізацыйна-масавай рабоце саветаў, у выніку чаго не замацавана вакол саветаў узросшая актыўнасьць батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас, якая выявілася пры перавыбарах саветаў. Слаба працуюць сэкцыі пры сельсаветах, адсутнічае ў шэрагу саветаў плянавасьць і ня ўцягнуты ў практычную работу саветаў жаночы актыў. Пастанова Прэзыдыуму ЦВК за 1-е кастрычніка 1927 г. па справаздачы Чашніцкага РВК у частцы ажыўленьня работы сэкцый сельсаветаў і жаночага актыву засталася нявыкананай.

Выходзячы з вышэйадзначанага, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць Чашніцкаму раённаму выканаўчаму камітэту, узмацніўшы кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам, стварыць калгасы прыкладам для акаляючага насельніцтва, арганізаваць правільную пастаноўку працы ў калгасах; прыдаць іх вытворчасьці больш таварнасьці, шляхам шырокай растлумачальнай працы, не дапушчаючы ні ў якім разе мэтадаў прымушэньня, дабіцца значнага пашырэньня калгасаў за кошт акаляючай бядняцка-серадняцкай часткі насельніцтва; пасьпяхова скончыць уборачную і васеньнюю пасеўную кампаніі.

2. Прапанаваць райвыканкому дабіцца ў гэтым годзе максымальнага каапэраваньня прасьцейшымі відамі с.-г. каапэрацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, арганізаваць сталую дапамогу бядняцкім гаспадаркам, ажывіць працу К. С. У., зьвярнуць асаблівую ўвагу на паляпшэньне працы батрацка-бядняцкіх груп пры сельсаветах.

3. Побач з пашырэньнем таварнасьці сельскай гаспадаркі, прапанаваць райвыканкому фарсіраваць пашырэньне жывёлагадоўлі, малочнае справы і ў прыватнасьці сьвінагадоўлі, ствараючы для яе адпаведную кармавую базу, больш шпаркім тэмпам разгарнуць пабудову сьвінарнікаў, а таксама ўзяць далейшы

напрамак на значнае пашырэньне засеву тэхнічных культур.

4. У сувязі з вялікім недахопам у калгасах раёну рабочых рук, цягавай сілы і спэцыялістых па сельскай гаспадаркі, што адбіваецца як на разгортваньні калгаснага будаўніцтва, так і на ўнядрэньні ў сельскую гаспадарку раёну працаёмкіх культур, Наркамзему і Калгасцэнтру БССР прапанаваць ужыць захады да забясьпечаньня раёну трактарамі, складанымі машынамі і спэцыялістымі па сельскай гаспадарцы.

5. Прапанаваць райвыканкому прыняць меры да значнага павялічэньня ў каапэрацыйнай сыстэме паявога капіталу, узмацненьня каапэрацыйных арганізацый, выкананьня плянаў па ўсіх відах нарыхтовак, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на пасьпяховае правядзеньне нарыхтоўчай кампаніі.

6. Непаслабна ажыцьцяўляючы нагляд за маючайся ў раёне дзяржаўнай прамысловасьцю і кіруючы мясцовай і саматужнай прамысловасьцю, прапанаваць райвыканкому, шляхам арганізацыі мас, дабіцца пасьпяховага выкананьня прамфінпляну, лічачы гэта важнейшай задачай у сваёй працы. Прапанаваць ВСНГ прыняць адпаведныя меры да палепшаньня абсталяваньня папяровай фабрыкі „Чырвоная Зорка“, якая знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы.

7. У галіне народнай асьветы прапанаваць райвыканкому дабіцца поўнага ахопу школамі дзяцей школьнага ўзросту, выканаць дырэктыву Ураду наконт ліквідацыі няпісьменнасьці і шырэй разгарнуць палітасьветпрацу, паколькі наяўнасьць у раёне яшчэ 10 проц. дзяцей школьнага ўзросту пазашколамі, слабы ход ліквідацыі няпісьменнасьці ў мінулым годзе і бясплянавую працу палітасьветных устаноў нельга лічыць зьявішчам, якое-б забясьпечвала адпаведны рост актыўнасьці працоўных мас у гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

8. Райвыканкому прыняць меры да поўнага ўзысканьня сродкаў па самаабкладаньню і скарыстаньню іх з уцягненьнем у гэтую справу саміх бядняцка-серадняцкіх мас раёну, а таксама прыняць безадкладныя меры да спагнаньня з насельніцтва запазычанасьці па ўсіх відах плацяжоў.

9. Прапанаваць райвыканкому на працягу бліжэйшых 3-х месяцаў, ажывіць працу сэкцый пры сельсаветах, узяць на вучот і ўцягнуць у практычную працу саветаў жаночы актыў і палепшыць працу сельскіх судоў, а таксама ўнесьці плянавасьць у працу сельсаветаў.

10. Прымаючы да ведама, што Чашніцкі раённы выканаўчы камітэт прыстасоўваецца да новых задач у працы, выцякаючых з ліквідацыі акруг, прапанаваць РВК безадкладна перабудаваць працу ўсіх раённых устаноў, арганізацый і саветаў, узмацніць кіраўніцтва імі, забясьпечыць пасьпяховае выкананьне ўсіх чарговых задач па гаспадарчаму і культурнаму будаўніцтву, больш рашуча вылучаць неабходную колькасьць працаўнікоў, асабліва кіруючую частку, з рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкага актыву, праводзячы адпаведную працу па падрыхтоўцы вылучэнцаў, а таксама правесьці шырокую папулярызацыйную працу па пытаньнях ліквідацыі акруг і чарговых задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

11. Паколькі сувязь наркаматаў і іншых цэнтральных устаноў з райвыканкомам яшчэ застаецца неналаджанай, наркаматамі і цэнтральнымі ўстановамі марудна выконваецца дырэктыва Ураду аб палепшаньні сувязі і ўзмацненьні непасрэднага кіраўніцтва паасобнымі галінамі працы ў раёне, катэгарычна прапанаваць усім цэнтральным установам безадкладна палепшыць як жывую, так і пісьмовую сувязь з райвыканкомамі па ўсіх галінах працы і сацыялістычнага будаўніцтва.

12. Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК праз тры месяцы праверыць выкананьне гэтай пастановы і аб выніках далажыць Прэзыдыуму ЦВК.

В. аб. Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Хацкевіч.**

За Сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**Сташэўскі.**

21 жніўня 1930 г.
гор. Менск.

# ПОСТАНОВЛЕНИЕ

## Президиума ЦИК СССР об организации работы городских советов в связи с ликвидацией округов

Президиум ЦИК СССР постановляет:

Одобрить внесенные Комиссией Президиума ЦИК СССР по ликвидации округов предложения о реорганизации работы городских советов и установить, в развитие основных положений об организации в Союзе ССР городских советов рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов (Сборн. Зак. СССР 28, № 10 ст. 86), нижеследующий порядок работы городских советов, в связи с ликвидацией округов:

1) В городах с населением до 50 тысяч жителей городские советы организуются и действуют в соответствии с основными положениями об организации в СССР городских советов и подчиняются соответствующему районному исполкому.

2) Города с населением свыше 50 тысяч жителей, имеющие крупное промышленное значение и являющиеся культурно-политическими центрами—выделяются в самостоятельные административно-хозяйственные единицы. Городские советы этих городов непосредственно подчиняются Президиумам ЦИК'ов союзных или автономных республик или соответствующим краевым (областным) исполкомам по принадлежности. *По постановлениям центральных исполкомов союзных республик в самостоятельные административно-хозяйственные единицы могут быть выделяемы города с населением менее 50 тысяч жителей, если эти города имеют крупное промышленное и культурно-политическое значение.*

3) К городам, выделяемым в самостоятельные административно-хозяйственные единицы (ст. 2), присоединяются прилегающие к ним сельские местности в пределах не более одного района к каждому городу. Сельское население этих местностей, образуя сельские советы на основе действующих о них законов, участвует в выборах городских советов на общих основаниях, установленных для выборов в городские советы. Порядок присоединения к городам сельских местностей определяется ЦИК'ами союзных республик.

4) Руководящие и исполнительные органы городских советов образуются и действуют в соответствии со ст. 23, 24, 26, 27 и 28 основных положений об организации в СССР городских советов.

Никаких других исполнительных органов (городских, районных исполкомов и т. п.) в связи с присоединением к городам сельских местностей (ст. 3) не создается.

Для руководства отдельными отраслями управления городские советы образуют свой самостоятельный аппарат. Структура и штаты аппарата городских советов определяются законодательством союзных республик.

5) В виду того, что целый ряд городских социально-культурных учреждений расчитан на обслуживание не только городского, но и сельского населения, предложить центральным исполнительным комитетам союзных республик дать указания городским советам о порядке обслуживания ими социально-культурных нужд ближайшего к городам сельского населения.

В целях усиления работы городских советов в деревне, городские советы образуют секции по работе в деревне.

Председатель ЦИК СССР **Калинин.**

Секретарь ЦИК СССР **Енукидзе.**

Москва. Кремль.
9-го августа 1930 г.

Выдае Прэзыдыум ЦВК БССР Рэдактар—**Рэдкалегія.**

